# ЛЕАНІД ЛЕВАНОВІЧ



# МАДОННА З КВЕТКАЮ

Леанід
Левановіч

# мадонна з кветкаю



АПАВЯДАННІ

МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1976

# ПЕСНЯ ДЗЯТЛА

Прачнуўся я ад галасоў на вуліцы: выганялі на ранкі кароў.

— Мар'я, з кім ты пасвіш? — пыталася сонным голасам суседка, цётка Гарпіна.

— З Купраліхай. Яна з правулка выганяе... Мо Адамік яе трохі падсобіць. Ужо ж ладны хлапец. А то дзе ж справішся лётаць за імі! Самыя авадні...

— Ідзі ў поле, ваўкарэзіна! Хапаеш ты тут...

Гэта ўжо маці пагнала нашу Другоню. У нас па старым звычаі клічку карове даюць у залежнасці ад таго дня, калі яна з'явілася на свет. У панядзелак — значыць Панедзя, у аўторак — Другоня, потым Сярода, Чацвера, Пяцёна, Субота... Праўда, сустракаліся сярод рагуль Красулі, Чарнухі, але вернасць звычаю ўсё-такі перамагала.

Прагналі кароў. На нейкі момант на вуліцы стала ціха. Праз шчыліны ў пуню цадзілася святло. Ужо было відаць ластаўчына гняздо пад вільчыкам. Яно пуставала. Бацька па восені забіў дзірку, каб птахі не псавалі сена.

Нялёгка яно даецца, от і даводзіцца дрыжаць над кожным касмылём.

Пакуль я ляжаў так, дрэмлючы, відаць, узышло сонца, бо вераб'і аж захліпаліся. Гадзіннік паказваў без чвэрці пяць. Уставаць было ранавата, але і спаць не хацелася. Неўзабаве сонечныя промні ўдарылі ў шчыліны і агністымі стужкамі-маланкамі перавязалі кроквы, як гужбой звязваюць бярвенне ў плыты.

Я падняўся, абуў кеды, нацягнуў куртку, выпіў конаўку пастаялкі — учарашняга адстоенага малака — і выйшаў.

Лагчына за хатай была заліта расой — трава аж згіналася пад цяжарам срэбных кропель. Толькі фіялетавыя галінкі мятліцы і сівыя таўкачыкі лісахвосту цягнуліся ўгору.

Неўзабаве я выйшаў на палявую дарогу, павярнуў направа, туды, дзе на ўзгорку цямнеўся густы хвойнік, над якім узвышалася яго маці — старая разлапістая сасна-барцявуха. Каля хвойніку збіліся ў кучу, нібы авечкі, камяні. Я сеў на самы вялікі камень і заціх.

Усё навокал поўнілася гукамі. Тон задавалі жаўрукі — быццам тысячу званочкаў падвесіў нехта пад купалам неба. Пішчалі, свісталі ў хвойніку лясныя птахі. «Піць-падаць», «піць-падаць»,— абзывалася ў жыце перапёлка. Са свістам пранеслася над галавой чародка шпакоў. Над курганом, за вёскай, якая плавала ў шызым тумане, з прарэзлівым крыкам кружыліся вароны і галкі.

У ранішнюю песню прыроды ўплятала свае гукі і вёска. Недзе рыкала цяля, кукарэкалі пеўні.

Раптам з лесу пачулася тарахценне, быццам нехта часта-часта біў у барабан. Я мінуў хвойнік і вузкай зарослай дарогай рушыў да лесу. З правай рукі сцяной стаяла жыта, з левай — зелянелі ўсходы аўса з вікай. Мабыць, пасеялі яго на зялёны падкорм. А пакуль што тут жыравалі цецерукі. Цэлая чарада іх за-

лапатала крыламі, адляцела трохі далей і села — зноў снедаць.

А «барабан» біў ва ўсю моц, і я прыбавіў крок.

У лесе было ціха і пуста. Пахла прэлым мохам, мокрым лісцем. Ішоў я напрасткі, на «барабан». Прадраўся праз кусты, мінуў густы, але светлы бярэзнік. Пачынаўся сасновы бор. «Барабан» біў дзесьці зусім блізка. Я падняў галаву. Вось ён! На вяршыні хвоі-сухастойкі сядзеў дзяцел. Ён пакруціў галавой з яркачырвонай плямай на патыліцы, прыслухаўся, потым адкінуўся назад і моцна забарабаніў дзюбай па суку. «Трах-тах-трр-р-р»,— пакацілася па лесе.

Доўга я слухаў ягоную песню. Потым выйшаў з-за дрэва, каб падысці бліжэй, лепш разгледзець «барабаншчыка». Дзятлу гэта не спадабалася. Ён пераляцеў на суседнюю хвою і заціх... Давялося адступіць назад. Але ў дзятла, напэўна, знікла натхненне.

Ногі мае ў мокрых кедах зусім зайшліся. Я выбраўся на дарогу і, каб сагрэцца, трушком пабег дадому.

Выбегшы на поле, спыніўся. Сонца паднялося вышэй, туман развеяўся. На чыстым высокім небе не было аніводнай хмаркі. «Трах-тах-тах-трр-р-р»,— зноў пачулася з лесу. Ад нечаканасці я ўздрыгнуў, і мяне нібы апякло: «Сёння ж дваццаць другога чэрвеня!..»

Не, не хацелася верыць, што вось у такую цудоўную раніцу заглушылі птушыны грай гарматы і кулямёты. З такога сіняга, чыстага неба ляцелі бомбы, сыпалася смерць...

Вайну я памятаю слаба. Мне не было і трох гадоў, калі яна пачалася. Але ж раніца тая была!

У тую раніцу мой старэйшы брат проста з выпускнога вечара пайшоў у ваенкамат. Потым прыслаў ліст з дарогі.

Неўзабаве вёску занялі фашысты. А калі прагналі іх, прыйшло паведамленне: «...погиб смертью храбрых».

Застаўся атэстат з адзнакамі «добра» і «выдатна». І адзіная фотакартка — выпускны дзесяты «Б». І памяць... Памяць назаўсёды!

Паволі крочыў я па дарозе. З-пад ног вырвалася чародка перапёлак. Што яны рабілі на дарозе? Аказваецца, дзяўблі дробненькіх палявых мурашак — іх хаткі-шчылінкі былі падрапаны птушынымі кіпцюрамі.

Трохі збоч трава была зрэзана — мабыць, трактар зачапіў плугамі. Нечакана я ўбачыў нейкую ржавую жалязяку, торкнуў нагой — гэта была абойма патронаў. Я абчысціў яе ад зямлі, разгледзеў. Патроны былі не нашы — у нашых гільзы шырэйшыя і рамка абоймы інакшая. Гэта я ведаю яшчэ з дзяцінства. Ды і як не ведаць! Нямецкія каскі, гільзы, чырвоны тэлефонны дрот, з якога мы рабілі каралі і розныя ўпрыгожанні, замянілі нам тады ўсе цацкі.

Я паклаў сваю знаходку на далонь. Мяне аж скаланула: гэта ржавая жалязяка магла абарваць жыццё пяці чалавек... Я паспрабаваў выцягнуць патроны з абоймы. Рамка яе, з'едзеная ржой, адразу рассыпалася. Моцна заржавелі кулі. Яны былі ўжо не вострыя, а тупыя, распухлыя. Гільзы захаваліся добра, адно пазелянелі і трохі патрэскаліся — расперлі кулі. З абодвух бакоў капсуля стаяла лічба дзевятнаццаць, зверху — рымская лічба «VIII», а ўнізе — літара «Н».

Выбраўшы гільзу з большай трэшчынай, я выцягнуў кулю. Гэта была бранябойная. Потым высыпаў на пясок порах — дробненькія цёмна-шэрыя плоскія кружочкі. Яны так нагадвалі насенне кветак! Я чыркнуў сярнічкай — успыхнула зыркае полымя. Запахла едкім смуродам...

Можа, сорак, а мо і пяцьдзесят гадоў — патроны маглі быць зроблены ў жніўні («VIII») 1919-га — ляжала ў зямлі абойма, а порах гарэў хоць бы што. Якая ж гэта нечуваная вар'яцкая сіла!..

А навокал урачыста гучала магутная ранішняя сімфонія. Як і тысячы гадоў назад, прырода спраўляла свята — адзначала поўдзень летняга хараства і сілы.

Над вёскай стаялі слупы дыму. Ружавеў дымок, падсвечаны сонцам, і над нашай хатай. Маці, напэўна, варыць бульбу, пячэ пульхныя грачаныя бліны.

Першы блін, густа пасыпаны соллю, яна пакладзе на чысты льняны абрус — «Радзіцелькам дарагім і Сяргейку-сыночку!» — змахне фартухом слязу і зноў будзе завіхацца ля печы...

Я падыходзіў да дому, а з лесу ўсё чуўся шматгалосы спеў птаства і ў ім — стук дзятла.

# БРЫТВА

На прыпынку, як заўсёды ў канцы дня, было людна. І калі падышоў тралейбус, да яго рынуліся натоўпам. Міхась Рудак нечакана апынуўся ля дзвярэй і, сам таго не жадаючы, увайшоў першым. Сеў ля акна і адразу палез у кішэнь па «вячорку». Разам з газетай ён выцягнуў канверт.

— «От, ёлупень! Цалюткі дзень насіў бацькава пісьмо. Не мог прачытаць. Ну і галава,— дакараў сябе ён.— Добра, што не згубіў. Дзянёк сёння быў гарачы...»

Міхась працаваў зменным майстрам у ліцейным цэху — пасада адна з самых клапатлівых, а цэх — самы цяжкі на заводзе. Накіравалі яго сюды пасля інстытута. Спачатку думаў, што доўга не вытрывае, а потым памалу ўцягнуўся і вось ужо пяты год працуе. Чалавек ён спакойны, па-сялянску памяркоўны і, не зважаючы на маладосць, яго лічаць вопытным спецыялістам. Нядаўна на партыйным сходзе сам дырэктар сказаў, што Рудаку можна смела даверыць цэх.

Перапоўнены тралейбус мякка пагойдваўся, перад вачыма скакалі і без таго няроўныя — адна туды, адна сюды — літары бацькавага пісьма. Пасля паклонаў, пажаданняў здароўя, весялосці і поспехаў у рабоце,

пасля звестак пра тое, што бульбу ўжо выбралі, што сена і дроў на зіму павінна хапіць, няроўнымі літарамі, без ніводнай коскі (з усіх знакаў прыпынку бацька прызнаваў толькі кропкі) ён пісаў:

«З адным пытаннем да цябе Міхась. Нешта забарахліла мая лектрабрытва. Працуе з перабоямі. Як калі захоча. Думаў разетка вінавата. Насіў да Мікіпара брытву. Дык не. І там не працуе. Якая ёй трасца. І гаранцейны тэрмін не адрабіла. Год ёй будзе ў канцы лістапада. У інструкцыі вычытаў я адрас гаранцейнай майстэрні. Калі будзеш мець час, даведайся. Ці могуць яны зрабіць. Дык я б выслаў брытву. А мо сам пад'еду. Цялё збіраемся рэзаць. Падкінуў бы цяляціны...»

Далей, як заўсёды, ішлі парады сыну і нявестцы: лепш есці, не эканоміць «на харчах», не ганяцца за трантамі, быць паміж сабою памяркоўнымі. Міхась не мог чытаць гэта без усмешкі. І ўсё-такі яму было прыемна. Ён паважаў і любіў бацьку, цярпліва прымаў бацькавы натацыі — маўляў, што зробіш, старыя любяць павучаць.

Ён яшчэ раз прагледзеў ліст, акуратна склаў яго і схаваў у кішэнь: трэба даць жонцы, яна любіць чытаць пісьмы свёкра.

За газету так і не ўзяўся. Нахлынулі ўспаміны. Прыгадалася, як летась, увосень, бацька прыслаў тэлеграму: «Сустракайце 5».

— Нічога не разумею... Калі сустракаць? Ні поезда, ні вагона,— пацiснула плячыма Тамара, Міхасёва жонка.

— Дзівачка, у Оршы ж перасадка. Адкуль бацьку ведаць, які поезд і вагон... Неяк прыязджаў ён да мяне, дык я тры разы бегаў на вакзал. Усе паязды з Оршы сустракаў. Вопыт маю,— усміхнуўся Міхась.— Пятага — заўтра. Значыць, заўтра і будзе госць.

Бацька прыехаў у сем гадзін вечара. Міхась адразу пазнаў яго ў натоўпе пасажыраў па рыжай вушанцы.

— Ну, ці даўно ж ты дзяжурыш тут? А я думаю, наўрад ці сустрэнеш ты мяне. Не паспееш з работы...— бацька падаў руку для павітання. Сын адчуў: рука старога па-ранейшаму моцная, цвёрдая.— Ну, паказвай, куды перабраўся. Не дужа далёка ад той, старой кватэры?

Калі падыходзілі к дому, бацька ўсё азіраўся: хацеў запомніць дарогу да новай кватэры сына. Заўважыў траву збоч тратуара, здзівіўся:

— Бач ты, трава, як воўна. Тут карову можна пасвіць...

Увайшоўшы ў кватэру, ён, павітаўшыся з нявесткай, пачаў сцягваць боты. Маленькая Людка здагадалася падаць дзеду табурэцік.

— Малайцом, унучка. Правільна, трэба прывучацца да працы,— сказаў стары.

Сын з жонкай пераглянуліся, усміхнуліся. Бацька ўсунуў ногі ў сынавы пантофлі, агледзеў кватэру.

— Ну, дык што ж, таварыш дарагі, харошая кварціра,— стары памацаў батарэю.— Цёплая. Значыць, грэюць. А гэта — самае галоўнае. Пра дровы галава не баліць...

Потым бацька памыўся ў ванне, выпіў кілішак гарэлкі і, зручней уладкаваўшыся на канапе, разважаў:

— Цяпер жыць можна... На Воршы я прыглядаўся. Людзі, брат, сытыя, апрануты добра. Не шкадуюць нічога, каб паесці і апрануцца па-людску. І правільна. А чаго там трэсціся над капейчынай? — бацька памаўчаў, потым гучна ўздыхнуў: — Ух-яё...

Сыну здалося, што гэты ўздых пачулі ўсе пяць паверхаў.

Назаўтра была субота, і яны з раніцы пайшлі ў горад. Бацька ішоў так, што сын, хоць і быў на галаву вышэйшы, ледзь паспяваў за ім. Звычка, відаць: баць-

ка гадоў дваццаць быў у калгасе брыгадзірам, давялося пагойсаць па полі з «цыркулем-крокамерам». Хадзіць любіў ён напрасткі, і мысы яго запыленых ботаў амаль заўсёды былі белыя.

На праспекце заходзілі ў магазіны. Купілі кофту і галёшы на валёнкі для маці, а сабе бацька ніяк не мог нічога выбраць.

— Такую абшырнасць займае горад! Трэба ж столькі набудаваць, га?! Я быў тут у сорак пятым, як з хронту ехаў. Усё было разбурана, папалена...

Міхась памятаў той дзень, калі бацька прыйшоў з вайны. Як чакаў ён яго! Як хваляваўся і палохаўся, што не пазнае. Часта пытаўся ў маці: «А татка наш дужы, вялікі? Ён усіх фрыцаў пабіў? Так?» — «Так, сынуля, так. Бацька наш дужы і добры. Ён усё, бывала, падкідваў цябе пад столь, а ты крычаў: «У-ла! У-ла!»

І ўсё ж спалохаўся быў і нават заплакаў, калі шыракаплечы, вусаты салдат з бліскучымі медалямі на грудзях моцна прыціснуў да сябе, колячы вусамі і няголеным шчэццем. Міхасю здалося, што ён і зараз помніць дотык калючых бацькавых вусоў: мабыць, трэцяя памяць — памяць цела — запомніла тое назаўсёды...

Міхась міжволі дакрануўся да сваёй барады, зірнуў на бацьку. Вусоў у яго не было. Пад старасць ён чамусьці галіўся дужа старанна і чыста, і выглядаў у свае семдзесят зайздросным мацаком.

— Гэта ж учудзіцца можна — такое мнагалюддзе. Такі збой людзей,— гаварыў стары.— А я збіраўся нешта купіць. Дзе ж тут падступішся?!

— Не турбуйся, купім,— супакоіў яго сын.— Усё ёсць.

— Ёсць-то яно ёсць. Ды не тое. Дажджавік, ну, той, што мы глядзелі, не гадзіцца. Танюсенькі, як плевуцінка. Адзін раз кароў адпасеш, і яму каюк. Трэба брызентавы. І, бачыш, няма... Усё адзенне забраў Евін род. Усё для жанчын...

— Так і павінна быць,— усміхнуўся сын.

— А ім жа ўсё мала! Вунь, бачыш, каленкамі бліскаюць. Не хапае мануфактуры,— жартаваў бацька.

Прыкмеціўшы за рулём аўтамабіля жанчыну, ён здзівіўся:

— Усюды бабы. На машыне — яны, у аптэцы — яны, у сталоўцы — яны... У краме, у цырульні... Бабскае царства! А дзе ж мужчыны?

— Працуюць. На заводах...— пачаў быў Міхась.

— Усё бабам аддалі,— працягваў бацька, не слухаючы сына.— І грошы, і каня, і шашку... Усюды яны. І ў міністэрствах нават! Ну, некаторыя спраўна ўсё выконваюць... А ёсць жа такія, што ў іх адно транты ды шуры-муры ў галаве. Баба ёсць баба... І ў сям'і, брат, калі баба возьме верх — дабра не чакай.

— Ну чаму ж? — спрабаваў запярэчыць сын. Але стары перапыніў яго:

— Думаеш, дзяцей выхавае? Эге, як бы не так! Вунь, глядзі, пайшла размалёваная. І задам віхляе... Выгадуе яна табе. Капрызнікі і плаксы вырастуць. А замуж — хоць сёння. Лезуць у дамкі, як жаба на корч...

— Ты, бацька, занадта круты... Ёсць разумныя жанчыны. Адукаваныя, таленавітыя. А жаночы розум — розум асаблівы. Гнуткі, востры...

— Куды ўжо вайстрэй?! Брытва. Піла... Звяга... Век я пражыў, таварыш дарагі... Хітрых бачыў. Такіх колькі хочаш. Процьма. А вумных...

Тут старому кінулася ў вочы шыльда «Электратавары», і ён крута павярнуў гаворку:

— Давай купім лектрабрытвы: мне і табе. І хопіць ногі біць. Але ж гэтых, мусіць, няма, ну, каторыя па дваццаць два пяцьдзесят. Што па латарэі разыгрываюць.

— Мне навошта? У мяне ёсць,— здзівіўся сын.

— А што твая брытва?! Маленькая, як у вожыка

пыса. Трэба добрую купіць! Гэту, што па латарэі. Дрэнную не будуць разыгрываць... І трэба галіцца. На ліха яна табе барада! Каб усе вочы лупілі...

— Пайду на работу і збрыю. У нас з барадой ніяк нельга. За змену столькі пылу, гары наб'ецца, што не вымыеш. Я галюся кожную раніцу. А калі ў тэатр ісці, дык і двойчы ў дзень...

Урэшце, знайшлі такую — добрую! — брытву. Бацька доўга разглядаў яе, нарэшце заключыў:

— Хм... І люстэрка ёсць нават. Гэта добра. А каб трохі цямнейшы футлярчык, няма? Каб не такі маркі... Ну, але гэты нічога. У кішэні мне брытву не насіць.

Дома ён начапіў на нос акуляры і доўга вывучаў інструкцыю.

— Ага-ага, значыць, для індзівідувальнага карыстання. Калі Мікіпар папросіць, дык абмыліцца... Факт, такая брытва на аднаго. У паліхмахерскіх майстры не брыюць такімі. А маглі б. І не трэба было б трымаць падсобную сілу — жанчын. Не трэба грэць ваду, падаваць прыборы...— хітра прыжмурыўшы вочы, усміхаўся стары.

Міхась ведаў, што ён сам дасць Мікіпару брытву: глядзі, якую машынку сын купіў. Што-што, а падфарсіць бацька любіць — маўляў, ведай нашых.

Успомнілася Міхасю, як пасля выпрабавання брытвы, бацька пайшоў у горад «праветрыцца». Праз паўгадзіны вярнуўся, выставіў на стол шэсць бутэлек піва, шырокім, рашучым рухам паклаў вялікі кавалак масла.

— Столькі прадуктаў у магазіне. І машыны ўсё падвозяць і падвозяць. І бульбу, і капусту, і мяса. Адкуль што бярэцца? Пракарміць такі горад, брат, не шуцейнае дзела. І заўсёды так можна купіць? — спытаў ён у нявесткі.

— Канечне,— адказала Тамара.— А масла дамоў возьмеце?

— Навошта яно нам? У нас ёсць сваё, не горшае,— пакрыўдзіўся ён.— Купіў, каб вы елі. Ці мала які перабой можа быць у дастаўцы... А чай з маслам — гэта ж любата!

— Дык яно ж сапсуецца. Мы бяром па сто-дзвесце грамаў...

— А чаго там скупідомнічаць? Сто грамаў? А халадзільнік навошта? Узяў адразу кілаграм, ды і еш, як рэпу...

Потым, калі бацька паехаў, Міхась часта жартаваў:

— Ну, дык як свёкар падмазаў нявестцы, га?

Тамара заўсёды смяялася, успамінаючы пра тое масла.

Міхась так захапіўся ўспамінамі, што нават праехаў свой прыпынак.

— А, зрэшты, гэта і добра,— разважыў ён.— Адсюль бліжэй да пошты...

Міхась адбіў тэлеграму бацьку. У ёй было ўсяго два словы: «Прыязджай. Чакаем».

# АНТОНАВА ЛАЗНЯ

## I

Ранішнім аўтобусам Андрэй Мамута прыехаў дамоў. Пасля снедання прылёг адпачыць і праспаў да абеду. Калі прачнуўся, за акном ззяла нізкае восеньскае сонца. Неўзабаве Андрэй нетаропка крочыў па вуліцы, азіраўся па баках і дзівіўся: так многа было змен. На ўзгорачку за выганам блішчалі вясёлымі аканіцамі тры новыя хаты.

«Цікава, хто ж тут пабудаваўся? Значыць, расцём памалу»,— адзначыў Мамута. Ён міжволі прыкмеціў, што над макаўкамі старых дрэў больш тырчала тэлевізійных антэн, мудрагелістых, розных канструкцый: разлапістыя, як самалёт, круглыя, бы веласіпеднае кола са спіцамі.

Андрэй заўважыў, што знікла старая ліпа, якая стаяла ля правулка на балота, затое сям-там цямнелі тоненькія маладзенькія дрэўцы, выраслі, «удзядзелі» вербы ля выгану.

Ідучы далей, убачыў старую хатку, вокны якой былі забіты дошкамі, а саламяная страха зарасла зялёным мохам.

«Глядзі ты, і Вулька Казакова паехала... Мабыць, да сыноў падалася ў Данецк... Ці снілася ёй, што будзе дажываць век далёка?.. Ох, і непаседлівыя сталі лю-

дзі,— раздумваў Мамута.— Ды і Райка ж яе там, у Данецку...»

З Райкай Мамута сябраваў у дзяцінстве, у адным класе вучыліся, разам пасвілі цялят, ёй напісаў Мамута першы ў жыцці ліст і паклаў на перапынку ў Раіну геаметрыю, дзе і знайшла яго Валя, Раіна сяброўка, і расказала ўсім...

Тое было ў шостым класе. А на выпускным вечары, асмялелы ад чаркі Мамута адважыўся пайсці з Райкай у скокі. Яна вучыла яго танцаваць вальс, «на рэчаньку», «дасаду», «страданне». І хлопец быў незвычайна рады, што трохі атрымлівалася, адно польку круціць не адважыўся, бо белыя Раіны «танкеткі» ўжо было не пазнаць — так добра ён абтаптаў іх.

Раней, калі Мамута прыязджаў дамоў і калі ішоў паўз гэтую хату, заўсёды прыгадваў сваё першае каханне, светла ўсміхаўся, і быццам адтавала душа. А зараз убачыў забітыя вокны, і сэрца агарнуў сум, і было такое адчуванне, быццам назаўсёды страціў нешта светлае і важнае.

На сярэдзіне вёскі вуліца брала крута ўправа, і нечакана з-за вугла хаты вынырнуў Антон Цыганкоў, або проста Цыганёнак, як клікалі яго ўсе за тое, што быў чарнявы і дужа здатны на розныя штукі.

— Каго я бачу?! Здароў, Андрэй! З прыездам! — узрадавана трос руку Антон.— Даўненька не бачыліся. Адзін ці з сямействам? Ага... Так, так... Я троху ўзяў за гальштук, там грамульку нейкую. Ну, сам знаеш. Ішоў міма крамы... Грошай хапае. Ты хоць інжынер, а болей наўдаку, каб зарабляў...

— Можа, і не болей, ды без хлеба не сядзім,— сказаў Андрэй.

— Яно так, але ж у горадзе што ступіў, то й купіў. А ў нас бульба свая, гурочкі свае, малачко і сала не выводзяцца. Вось так, браце, і жывём. Ну, а што троху я глынуў, дык выбачай...

— Кінь, стары, апраўдвацца. Чаго там... Хто гэта такую пяцісценку адгрукаў? — паказаў Андрэй на новую хату.

— А ета Іван Варачкін. Аддзяліўся ад маткі... Сямейка ў яго ладная. Пяцярых жонка знайшла ў крапіве... У мяне колькі? Тры хлапцы гадуюцца,— усміхнуўся Антон, паказваючы буйныя жаўтаватыя зубы.— Да пяці дагонім, можа, і дзеўку знойдзем. Да паўдзесятка самі бабы падганяюць — пенсія раней... Ну, а ў цябе якая сямейка?

— Сын расце. Адзін. І то клопату хапае. Абое працуем. Ён у садзік ходзіць. А як захварэе, так і сядзі. Вам лацвей. Выпас у вас ёсць. Пусціў на выган, на луг...

Яны яшчэ доўга стаялі і гаварылі. Абодва былі рады сустрэчы. Антон пытаўся пра жонку Мамуты, шкадаваў, што не бачыў яе.

— Заходзь вечарам. Маці лазню топіць. Памыемся, тэлевізар паглядзім. Пагамонім пра жыццё-быццё лясное, ну і яшчэ пра сёе-тое... Да вечара, так?

— Дзякуй, Антон. Не ведаю, ці ўдасца...

Андрэй не сказаў, што маці прапанавала ісці ў лазню да брацeніка Валодзькі. Жонка яго ўчора запрашала. «Валодзька жыве, як кароль. Загадчык фермы. Конь у руках. Калі не едзе, дык нешта вязе... І лазня ў яго добрая, чыстая...» — прыгадаў Андрэй матчыну гаворку.

Па дарозе да крамы Андрэй успамінаў, як з Антонам вучыліся плаваць, каталіся ў чоўне. Часцяком, бывала, перакульвалі човен, паднімалі ўгору і павольна апускалі, потым нырялі пад яго. Там было паветра, і неўзабаве з-пад вады неслася «музыка»: Антоська граў на язык, спяваў, гаварыў як па радыё. На беразе залівалася, рагатала галапузая малеча.

## II

Вечарам, як толькі сцямнела, прыйшоў Антон.

— Ну, дык што, Сямёнавіч? Усё гатова. Венікі намачыў. Пойдзем, пацёпаемся...

Лазня стаяла за хатай, на гародчыку. Андрэй прыгнуў галаву і ўвайшоў у прымыльнік, дзе ляжалі штабяльком аблетавыя дровы, віселі на жэрдцы бярозавыя венікі. Андрэй распрануўся і сігануў цераз парог у лазню. Гарачая хваля, прапахлая дымком, ударыла ў твар. Андрэй хапіў на ўсе грудзі гарачыні, сцяў дых, асцярожна сеў на нізенькі услончык, агледзеўся: злева ля ўвахода была печка, да яе тулілася драўляная бочка, злучаная з печкай металічнай трубкай — каб грэлася вада. Над бочкай навісаў палок. Напроці печкі было маленькае акенца, на якім стаяла закурэлая лямпа — «шахцёрка». Яна не гарэла: з чорнай нізкай столі звісала, нібы груша, яркая лямпачка.

— Паддадзім духу ці будзем мыць галовы? — пытаўся Антон.— Я ў першы дух хаджу рэдка. Маці, жонка з малымі мыюцца. А я бяру Косціка, большага хлопца, і ў астатні дух... Мыйся, Сямёнавіч. Во ў гэтым вядры — сцюдзёнка, тут — летняя, а гарачая ў бочцы. Бяры колькі хочаш. Раней мыліся адной місачкай вады... От, халера, мыла трапіла ў вока,— Антон лінуў у твар халоднай вады.— Ну во, змыў, здаецца... Мой дзед, нябожчык Даніла — хай яму пухам зямля,— бывала, папарыцца, абдасца сцюдзёнкай — і гатоў. Узімку з лазні ў снег кідаўся, потым зноў на палок — парыўся. Улетку ў раку бегаў. Ты ж помніш яго?

— Трохі помню,— адказаў Андрэй.— Ну, пачнём?

Андрэй адчыніў дзверцы печкі, лінуў конаўку цёплай вады. Хваля гарачай пары вырвалася адтуль. Андрэй сеў на палок.

— Бяры зброю,— падаў яму Антон ёмкі бярозавы венік.

— Не, пакуль не трэба, пагрэюся, прапацею, а тады буду парыцца. А можа, ты спачатку дасі жару?

— Не магу, браце. Сёння закінуў трохі ў шулумейку, яна і баіцца гарачыні... Ты паддавай духу. Не шкадуй. Усім хопіць. Я пасяджу. Унізе не так горача...

Андрэй лінуў яшчэ конаўку і пачаў лупцаваць сябе мяккім пякучым венікам па плячах, па спіне. Адчуў, як усё цела напоўнілася млявай гарачынёй. Андрэй стагнаў, крактаў ад задавальнення, расціраў венікам чырвонае цела. Ён любіў папарыцца, часта хадзіў у гарадскую лазню, але такой асалоды не ведаў даўно.

Міжволі прыгадалася, як маці парыла яго, малога. Ён плакаў, захліпаўся, а гарачы венік усё пёк і пёк. Потым прывык. І мо тады спазнаў пачуццё, якое нараджае гарачая хваля, што ахоплівае ўсяго. І заўсёды, калі гэтае пачуццё ўзнікала,— а такое бывае далёка не кожны раз,— ён успамінаў дзяцінства.

Распарыўшыся, Андрэй выскачыў вонкі. Пахадзіў па халоднай зямлі. Ва ўсім целе была лёгкасць. Выйшаў з лазні і Антон.

— Ну, брат, і даў ты дыхту. На падлозе ледзь уседзеў. Аматар ты, аказваецца. А я не магу. Мо таму, што ў дзяцінстве напалохалі... Як зараз помню. Захінула мяне маці ў посцілку, за плечы — і панесла. Снег — па калені. Ды аж у брыгадную лазню. Першая пасляваенная пабудова. Дык вось, прынесла яна мяне, распранула, усе шмоткі на жэрдку, пад столь, каб выжарваліся... Сама пайшла дамоў — трэба ж і Колю прынесці,— а бабы ўзяліся мяне парыць. Як задалі! Я плачу, крычу на ўсю галаву, а яны лупцуюць. Аж зайшоўся, ледзь адкалыхалі. З таго разу і пабойваюся веніка. А пасядзець, памыцца люблю. І перш чым будаваць сабе пяцісценку — пакуль во ў матчынай хаце

мадзеем,— паставіў лазню. Дзеці чыстыя, суседзі мыюцца...

Яны вярнуліся ў лазню, адчынілі дзверы, каб сышоў дух, і пачалі шараваць адзін аднаму спіны.

### III

На стале паблісквалі дзве бутэлькі — віно і гарэлка. Соня — Антонава жонка — і старая апраналі дзяцей. Самы малодшы спаў у калысцы. Ва ўсю грымеў тэлевізар.

— Ну што, пасля лазні не шкодзіць аржанушкі-весялушкі па грамулечцы? — пацёр рукі Антон.— Віно хай жанчынам, а мы паспытаем вадзіцы, што гусі не п'юць...

Антон наліў шклянкі. Выпілі, смачна захрумсцелі агуркамі. Гаспадар кіўнуў відэльцам на тэлевізар.

— Я, брат, Сямёнавіч, першым у вёсцы купіў ету машыну. Ніхто не адважваўся. І мае бабы ў адну душу: «Спаліць хату маладня. Пярун паб'е ўсіх...» А я кажу: «Спаліць — новую паставім. Усё роўна будавацца трэба...» Паглядзеў у Пецькі Лахцікава — помніш, вучыўся з намі? Ён тожа на трактары... Мала нашых засталося. Раз'ехаліся, хто куды... Дык вось, значыцца, зайшоў я да Пецькі, мы з ім хораша так пасядзелі, пагаварылі. Агледзеў, якая антэна, як зазямленне зроблена. Паехаў у раён і прывёз тэлевізар. Што рабілася! Уся Шамаўка і дайжа канчане збегліся дзівіцца... І січас ходзяць. Хаця ў многіх свае ёсць... А з будоўляй вырашыў так. Пры́ляплю трысцен, і будзе два ладныя пакоі. Хопіць месца. Важна не дзе жыць, а як жыць. Можна і ў харомах сядзець, што крот. Ці так я кажу? — трохі пасалавелымі вачыма пазіраў Антон на сябра.

— Праўду кажаш. Так, як крот, можна жыць і ў вялікім горадзе,— падтакнуў Андрэй.

— А я што? Душа нараспашку. Во,— Антон расшпіліў кашулю, злёгку грукнуў кулаком у грудзі.— Увесь тут Цыганёнак... Давай, Сямёнавіч, яшчэ па граму. Нікога ў жыцці не браў за горла, апроч бутэлькі!

— Не, я ўсё. Не магу,— запярэчыў Мамута.— І табе, мабыць, хопіць, бо разбярэ. Пачакаем жанчын.

— Доўга чакаць давядзецца,— уздыхнуў Антон.— Бабы любяць сядзець у лазні. Дзед мой расказваў... Ты помніш Данілу?

— Добра помню... Ты пытаўся пра гэта...

— Пытаўся? Значыць, закруцілася ў кацялку... Пра што я? А, пра дзеда Данілу. От быў мужык!.. Бацьку не помню. Мне два гады было, як ён пайшоў на фронт. Ты ж маладзейшы за мяне троху, таксама не помніш... Дзед многа чаго расказваў. Даўней, гаварыў ён, і дзяцей нараджалі ў лазні. Шэсць тыдняў у лазні мылася толькі парадзіха з дзіцем. Калі якая жанчына заходзіла, дык не распраналася. А пасля гэтых самых шасці тыдняў у першы дух ішлі бабы. Першай з дзіцем уваходзіла парадзіха. Бачыш, якая была завядзёнка...

— А што, разумна. Лазня — самае чыстае месца,— пачаў Андрэй.

— А ты думаў! — падхапіў Антон.— Не дурныя былі нашы дзяды. Праўда, бедна жылі, непісьменныя былі, працавалі з цёмнага да цёмнага. Але ж мелі і яны радасці і ўцехі. І песні спявалі, узімку на санях каталіся, у лазні парыліся, гарэлку з мёдам пілі. Баб сваіх любілі моцна. Дай бог нам так. І дзяцей мелі па тузіну... Дзед Даніла на скокі быў мастак і да песень аматар. Памятаю яго частушку:

А бабачкі, я ўвесь ваш,
Паехалі на кірмаш,
А з кірмашу ды дадому,
Ды у ячную салому...

Антон спяваў, размахваў відэльцам:

— Дзед моў быў зух! А ўхажорак колькі меў!.. О, успомніў. Хацеў у лазні спытаць у цябе, ды пасаромеўся. Чаму ты не ажаніўся на Райцы? Яна ж цябе любіла. Так, так, я ведаю. Калі ты паехаў у горад, спрабаваў я клінкі падбіваць да яе. А яна кажа: «Не чапіся. Я люблю Андрэя...» І я саступіў. Яна яшчэ ў школе да цябе ліпла. Ты ж выдатнікам быў. А я на троечках ехаў... Давай вып'ем за Райку. За яе грэх не выпіць...

Андрэй маўчаў. Яму раптам стала горача, ён выцер рукавом лоб і падняў чарку.

У сенцах грукнулі дзверы — увайшла Соня і з ёй расчырванелыя смуглявыя хлапчукі. Соня вярнулася ў лазню, а Антон пачаў частаваць сыноў малаком.

## IV

Быў позні вечар, калі Андрэй выйшаў на вуліцу. Сям-там яшчэ свяціліся вокны. Было цёмна і так ціха, аж шумела ўвушшу. Спаць не хацелася, і ён памалу рушыў па вуліцы, задумаўся і не ўгледзеў, як дайшоў да хаты, дзе некалі жыла Райка. Невысокі будынак з забітымі вокнамі нагадваў стажок сена.

«Рая, мабыць, замужам. Можа, зараз не спіць яшчэ, носіцца з дзіцем... Можа, лаецца з мужам... А мо спіць спакойна і бачыць у сне нашу вёску... Мяне або Антона...»

Зашчымела ў грудзях, стала сумна. Але сум быў лёгкі і светлы, як пераспелы яблык белага наліву.

«А што, калі вярнуцца сюды? Пасяліцца ў гэтай хаце...— варухнулася думка.— Чаму ў гэтай? Бацькава пустуе... Уладкаваўся б інжынерам. Гаварыў жа старшыня, што патрэбен інжынер... Меў бы пяцёра дзяцей... Рака побач, лес, свае венікі былі б. Не тое што ў гарадской лазні: тры галінкі — венік... От, дзі-

вак! Быццам венікі нешта значаць... Не так ужо важна, дзе жыць. Куды важней, як жыць... І ўсё-такі паспрабую ўгаварыць жонку...»

Ён пасунуўся далей і неўзабаве дайшоў да брацелнікавай хаты. Новая пяцісценка, вялікая, з шырокімі цёмнымі вокнамі, стаілася за старымі ліпамі.

«Трэба заўтра зайсці да Валодзькі. Даўно не бачыліся»,— падумаў Мамута.

Адсюль быў добра відаць яркі сноп святла з Антонавай хаты, за якой у гародзе, пад вішнямі, стаіць маленькая лазня, яшчэ цёплая, прапахлая бярозавымі венікамі.

«Як хораша, што яна там ёсць, гэтая лазня»,— Андрэй усміхнуўся, на душы зрабілася лёгка і бясхмарна.

Шырокім, бадзёрым крокам Мамута спяшаўся дамоў.

# ЧАТЫРЫ ЦЮЛЬПАНЫ

## I



ндрэйка, ідзі пакліч тату вячэраць... Сяргей Журко стаяў у суседнім пакоі ля акна. Ён добра чуў, што гаварыла жонка, чуў, як лапатаў Андрэйка і цягнуў яго за руку, але адысціся не мог.

— Сярожа, чаго ты прыліп там? Бульба адубела...

— Хадзі сюды, Люда. Хутчэй! Глядзі... Бачыш, чырванее бутончык? Будзе цвісці цюльпан. Што я казаў, га?! А ты не верыла. Эх, што за кветка будзе! Сярод зімы...— радаваўся Журко.

— Пакуль што нічога я не бачу,— хмыкнула жонка.— Калі расцвіце, тады тое і будзе. Ды і ці будзе яшчэ?

Пасля вячэры Сяргей зноў схіліўся ля акна. У гаршку, які стаяў на падаконніку, прабіўся таўставаты, падобны на пінгвіна, шызавата-зялёны парастак. «Які крамяны! Дзіўна, бутончык быццам спавіты»,— Сяргей глядзеў зверху ў шчыліну між двума лісткамі, якія рассунулі вострыя, нібы пікі, макаўкі, і былі гатовы аберагаць бутон ад бяды.

Спачатку ў гаршку былі тры парасткі, але потым самы вялікі з іх раптам пачаў жаўцець. Ён гінуў на вачах. Сяргей раскапаў зямлю — цыбуліна была пакрыта

шэравата-блакітным мохам, давялося яе выкінуць. Неўзабаве стаў чэзнуць другі цюльпан. «Што за ліха? Чаго яму не хапае?» — ламаў галаву Сяргей. Прыгледзеўшыся, заўважыў на лісці маленькія чырвоныя кропачкі.

«Дык вунь яно што!» — Сяргей успомніў, што тут стаяла гартэнзія, і ўсё лісце яе знізу было абсыпана чырвонымі кропачкамі — павуцінным клешчыкам. Гартэнзію Сяргей выкінуў, а на яе месца паставіў гаршчок з цюльпанамі. І вось, выходзіць, павуцінны клешчык паспеў перабрацца на цюльпан.

— Ах ты, гад печаны! Чым жа цябе даканаць?

У кніжцы «Парады кветкаводам» ён знайшоў, што клешчыка гэтага трэба збіваць струменямі вады, абліваць тытунёвым адварам. Сяргей зрабіў цюльпану душ, прыпудрыў дустам. Клешчык знік. Але цюльпан аказаўся пустацветам. Затое трэці радаваў.

Аднойчы, толькі Сяргей прыйшоў з работы, да яго кінуўся з крыкам Андрэйка:

— Тата, тата! Цюльпан расцвіў...— хлопчык пацягнуў бацьку да акна, дзе чырванела вялікая кветка, падобная на мак.

— Што за прыгажосць! — падышла да акна і Люда.

Раней, калі муж падоўгу важдаўся з цюльпанамі, яна бурчала, маўляў, лепш бы з дзіцем пагуляў, не займаўся б глупствам, бо ўсё роўна нічога не выйдзе, і таму цяпер Сяргею было асабліва прыемна, што жонка рада.

— Вось зацвітуць цюльпаны ў другім гаршку, і якраз да свята будзе табе цэлы букет! Там жа іх чатыры...

— Дзякуй. Але спадзяюся, ты і купіш нешта...

Сяргей нічога не адказаў — ён усё глядзеў на кветку. Унутры чашачкі тырчалі вострыя цёмныя тычынкі, жоўта-ружовы песцік нагадваў дзве літары «э», якія

адвярнуліся адна ад адной. Пялёсткі ўнізе былі цёмныя, вышэй — святлелі, ружавелі, рабіліся ярка-барвовыя.

Нарэшце, у пачатку сакавіка зацвілі цюльпаны і ў другім вазоне. Сяргей не знаходзіў сабе месца ад радасці. І гэтай радасцю яму хацелася з усімі падзяліцца, хацелася, каб усе бачылі, якія дзівосныя кветкі вырасціў ён. Сяргей запрашаў сяброў, суседзяў, каб паказаць ім. Усе дзівіліся, вохкалі.

## II

Раніцай сёмага сакавіка Сяргей зрэзаў адзін цюльпан, загарнуў яго ў цэлафан і панёс на работу. Калегі, асабліва жанчыны, збегліся з усяго канструктарскага бюро. Усе «ахалі» і не верылі, што Сяргей Журко сам вырасціў такую кветку.

— Ну, браце, малайчына! Няўжо сам? Каб мне сказалі, што ты сабраў тэлевізар з гэты пачак,— інжынер Сідаровіч, ужо не малады, з сівымі скронямі мужчына, падкінуў на далоні пачак «Беламору»,— дык я б менш здзівіўся. Ведаю, тэхнар ты заўзяты. А тут такая кветка. Любата! Жонка мая — вялікі аматар кветак. Але зімой цюльпаны не цвітуць... Трэба вас пазнаёміць. Заходзь у госці, з жонкай, з сынам. Пасядзім па-сямейнаму. У шахматы згуляем...

— Дзякуй, Іван Паўлавіч, як-небудзь выберамся.

Сяргей ішоў па людной вуліцы, з усмешкай пазіраў на мужчын з букецікамі чэзлых мімоз, нарцысаў. «А што ў магазінах робіцца! Хапаюць мужчыны духі, хусткі, пальчаткі, розныя бразготкі. А я падару жонцы цюльпаны»,— думаў Сяргей. Аднак гастраном ён абыходзіць не збіраўся. У магазіне было людна. Сяргей прыстроіўся ў хвост чаргі. Чарга нецярпліва гудзела. Раптам нехта крануў яго за плячо.

— Салют, стары! Нябось, за гарэліцай? Так, так. А ў нас ужо ёсць,— невысокі рудаваты хлопец ляпнуў сябе па кішэні паліто. Гэта быў знаёмы інжынер Алег Буйкевіч. Поруч з ім ухмыляўся хударлявы хлопец з чорнымі бакенбардамі, твар якога падаўся Сяргею знаёмым, але дзе яго бачыў, успомніць не мог.

— Паслухай, Журко, зрабі ласку. Купі мінералкі. Закусь кепская, дык хоць будзе чым запіць... Ды і маскіроўка не пашкодзіць.

Бутэльку гарэлкі Сяргей засунуў у кішэню, а мінеральную паставіў на круглы стол-стаяк, які падпіралі Буйкевіч з напарнікам.

— Лічы, Серж, што гэта твой уклад на алтар нашай дружбы. Давай дзербалызнем па маленькай. Мы з Васілём ужо трохі падрумяніліся...

— Не, хлопцы, дамоў спяшаюся. Не магу. Абяцаў жонцы раней прыйсці...

— Дзівак-чалавек, ён яшчэ адмаўляецца, аднекваецца. Грэх не выпіць за жанчын... Некалі мы з табой жылі ў адным інтэрнаце. Адзін інстытут канчалі... Сустракаемся гады ў рады...

Чарнявы тым часам разліў бутэльку ў тры шклянкі, схаваў яе зноў у кішэню. Хуценька чокнуліся, выпілі, узялі па бутэрброду.

— А зараз можна і тост сказаць. Улік няма. Смела філасофствуй,— твар Буйкевіча яшчэ гусцейналіўся чырванню, зялёныя, нібы ў ката вочы масляна заблішчалі.— Дык за што мы пілі, хлопчыкі? За нашых цудоўных дам! Жыццё жанчыны залежыць ад звяроў. Леапардаў, тыграў забіваюць, каб пашыць ёй кажух. Лісіц і собаляў ловяць на футра. З кракадзілаў і змей здзіраюць скуру, каб зрабіць ёй гэты самы... Ну, рыдыкюль. А потым знаходзяцца аслы, якія ўсё гэта купляюць!

Усе трое зарагаталі.

— Давайце яшчэ шандарахнем па маханькай,— падміргнуў Буйкевіч.

— Не, хлопцы, не магу. Ні грама!

— Што з табой здарылася? Матор забарахліў? Дактары напалохалі? Плюй на іх! Усе хваробы ад недапою. Самая лепшая мікстура — дзве кроплі вады на шклянку гарэлкі... Не хочаш тут, пойдзем да нас у інтэрнат,— угаворваў Буйкевіч.

Усё-такі Сяргей вырваўся ад іх. Ужо бралася на вечар, калі ён падыходзіў да дома. Жыў ён у новым мікрараёне. Пяціпавярховы карабок, дзе знаходзілася ягоная кватэра, стаяў на ўзгорку. А навокал урастаў у зямлю, бялеў заснежанымі стрэхамі прыватны сектар. Неба было чыстае, па-веснавому высокае. На паўночным захадзе ляцеў самалёт і цягнуў за сабой яркаружовы шлейф. Самалёт зрабіў дугу — ружовую вясёлку, затым павярнуў на ўсход і рассякаў неба прамой чырвонай рысай. Чым далей ляцеў ён, тым святлейшая рабілася рыса. Ружовая дуга распалася на кучаравыя камячкі ваты. А на паўночным усходзе квола блішчаў маладзік. Самалёт праляцеў міма месяца, цягнучы за сабой ужо зусім белы ватны канат, і нырнуў у густую шызую хмару.

— Чорт пабяры! Прыгажосць якая! — ад радасці Сяргею захацелася заспяваць. Ён пастаяў яшчэ трохі і пасунуўся дахаты.

Не паспеў Сяргей зняць паліто, як падляцеў Андрэйка. Сяргей падхапіў сына на рукі, пацалаваў жонку, потым падаў ёй злёгку запацелую бутэльку.

— Гэта і ўсё?

— Так. А што яшчэ? — пацісНуў ён плячыма, быццам не разумеў пытання.— Віно, здаецца, у нас ёсць...

Павячэралі моўчкі. Сяргей бачыў, што жонка незадаволена. Сур'ёзная і пахмурная яна была яшчэ прыгажэйшая: злёгку падведзеныя шэрыя вочы здаваліся цёмнымі, русыя валасы, сабраныя ў тугі цяжкі вузел,

рабілі твар больш тонкім, інтэлігентным. Сяргей абняў жонку за плечы, прыхінуў да сябе.

— Ну, не крыўдуй, мілае качанё...

«Качанём» ён зваў жонку таму, што нос у яе быў шыракаваты і неяк выгінаўся ўсярэдзіне, калі глядзець збоку. Здаралася, Сяргей клікаў яе «брыдкім качанём». Звычайна, Люда не крыўдзілася, а тут, хоць і сказаў «мілае», адхінулася і плечы ўздрыгнулі ад плачу.

— У людзей свята як свята. Падарункі... А ты? Цюльпаны, цюльпаны... Ты хацеў даказаць, што ўсё можаш. Захацеў — сабраў транзістар. Захацеў — расцвілі цюльпаны. А пра мяне ты нават і не падумаў...

— Як ты можаш так гаварыць! Для каго ж я іх вырасціў? Няўжо... няўжо табе якая-небудзь бразготка даражэй? Табе толькі б транты розныя, бразготкі, вісюлькі...— Сяргей адчуў, што перахапіў, і трохі мякчэй дадаў: — Ну, сапраўды. Здаецца, не дурная баба, урач, марыш аб дысертацыі. І адкуль у цябе такая прага да рэчаў? Панацягала ў хату ўсялякага барахла і ўсё мала. Ты ж палонніца гэтых рэчаў!.. І ўвогуле, што гэта за жыццё! Прыйшоў на гадзіну пазней — скандал. З'ездзіў на рыбалку — скандал. Пазваніла жанчына з клуба кветкаводаў — трагедыя! Я іду ў гэтую кватэру, як у добраахвотную турму. Надакучыла ўсё! Звар'яцець можна!

— А што ж ты хочаш — гойсаць да раніцы?! У цябе ж сям'я. Бач, на рыбалку захацелася. А я сядзі адна з дзіцем. Чаму ж ты не пусціў мяне на курсы вязання? Я б табе, дурню гэткаму, світэр зрабіла. Дык не: «Навошта табе курсы? Дзіця яшчэ малое...»

Сварка разгаралася. Гучная размова і слёзы маці напалохалі Андрэйку. Ён заплакаў на ўсю моц. Люда ўзяла хлопчыка на рукі і панесла ў спальню. Сяргей доўга нервова хадзіў па пакоі, потым накінуў паліто і хуценька выйшаў на вуліцу.

## III

На дварэ пачыналася мяцеліца. Злосны, пранізлівы вецер сек твар калючымі, нібы шрот, крупамі. Вуліца была пустынная. Цьмяна паблісквалі ліхтары. Сняжынкі, што мільгалі каля іх, здаваліся ніткамі дробных караляў. Калі вецер сціхаў, сняжынкі, быццам апамятаўшыся, спыняліся, кружыліся, ціха ляцелі на святло. Потым зноў дзьмуў вецер, сняжынкі быццам пераўтвараліся ў ніткі тонкіх срэбных караляў.

Сяргей наставіў каўнер паліто, насунуў шапку. «Пайду да хлопцаў. Эх, чорт, бутэльку не захапіў. Няёмка з пустымі рукамі...» — падумаў ён і нетаропка пакрочыў па вуліцы.

...Міжволі прыгадалася, як год назад шукаў падарунак жонцы. Зазірнуў на рынак і там убачыў кветкі — вялікія, чырвоныя. Трымала іх высокая, сталага веку жанчына. Вакол яе тоўпіліся людзі, а яна стаяла нерухома, нібы помнік.

— Што гэта за кветкі? Макі? — спытаўся ў яе Сяргей.

— Якія макі? То ж кавалер! Цюльпаны гэта. Галанскія, не абы-якія. Купляй, калі думна. Жонка зацалуе. Узімку, ды такія кветкі. Во, расхапілі, як стой. Тры штучкі засталося.

У гэты час да кабеты падышоў хлопец у скураной куртцы.

— Грамадзяначка, па чым цюльпанчыкі?

— Тры рублі штучка...

Хлопец ссунуў на лоб форменны картуз таксіста, пачухаў патыліцу. Сяргей хацеў ужо сказаць, што ён бярэ кветкі, але танкіст яго апярэдзіў.

— Ну, вось і ўсё.— Гандлярка патрэсла пусты кош.— А ваша краля засталася без кветак... Луплю сем шкур, скажаш?.. Не-е! Паспрабуй іх вырасціць. Думаеш, так, проста з моста. Сама спрабавала — не

атрымалася. Не цвітуць, хоць трэсні. А гэта мне прывезлі. Можна сказаць, з-за свету прыехалі кветы. От як.

— А я вазьмуся і вырашчу,—усміхнуўся Сяргей.

— Бач ты, які прыткі ўмека! Гэта ж табе не зубы скаліць. Тут па навуцы ўсё трэба. От як! — гандлярка павярнулася і, нетаропка перастаўляючы тоўстыя, як калоды, ногі знікла ў натоўпе.

«Але ж і жмінда я! Такі падарунак быў бы! А цяпер ламай галаву, што купіць»,— лаяў сябе Сяргей.

Пра сваю пагрозу вырошчваць цюльпаны Сяргей хутка забыўся. Неяк тыдні праз два зазірнуў у мэблевы магазін. Жонка пратрубіла вушы: купі таршэр. Але таршэраў не было, і Сяргей адразу падаўся на вуліцу. Праўда, ён нікуды не спяшаўся, і ад няма чаго рабіць зайшоў у магазін «Кветкі». На падлозе там стаяла процьма розных вазонаў. Некаторыя падаліся знаёмыя. Вось зялёны ўюнок — такі некалі купіла жонка. У зямлю была ўторкнута лучынка, і на ёй напісана: «традысканцыя». «Ого, якая назва! Язык зломіш»,— усміхнуўся сам сабе Сяргей. Далей ён убачыў таксама знаёмую кветку з тонкімі галінкамі і лісцікамі-іголкамі. Называлася яна «аспарагус». Больш знаёмых не было.

У скрынцы каля акна ляжалі сукаватыя корчыкі. «Роза чайная. 1 р. 90 кап.»,— прачытаў Сяргей, узяў адзін з іх і пачаў разглядаць.

— Вам загарнуць? — спытала прадаўшчыца, прыгожая, зусім маладзенькая дзяўчынка.

— Ды не, навошта? — сумеўся Сяргей.— Я паглядзець хацеў. Колісь з такіх рагацін майстраваў рагаткі... А няўжо з гэтага сучка нешта вырасце?

— А як жа! Абавязкова! Бачыце, ужо наклюнулася,— тонкім пальчыкам дзяўчына паказала жоўтазялёныя пупышкі...

Вельмі здзівілася жонка, калі Сяргей падаў ёй сукаватую рагаціну, загорнутую ў ружовую паперу.

— Таршэраў няма. Затое ёсць ружа чайная. Трэба прысыпаць яе зямлёй да вясны. А потым — на балкон.

— Трэба, дык і прысыпай. У мяне вунь куча бялізны ляжыць,— пачуў ён у адказ.

О, гэтая ружа! Калі б не яна, Сяргей ніколі б не заняўся цюльпанамі.

## IV

Вясной Сяргей паехаў у камандзіроўку на Урал. Калі вярнуўся, жонка пасеяла ўжо на балконе кветкі, пасадзіла і ружу. Неўзабаве на рагаціне зазелянелі кволыя лісцікі. Яны зацікавілі Андрэйку, і ён абскуб ружу, як ліпку. Сяргей перасадзіў яе далей. Ружа пацягнулася ў рост, але іншыя кветкі перагналі яе, закрылі сонца. Тады Сяргей перасадзіў ружу ў фанерную скрынку, у якой маці прысылала з вёскі сала, і паставіў на цагляны выступ каля акна. Кветка адразу павесялела.

А на двары быў ужо верасень. Ружа вельмі спяшалася — прырода падганяла яе, брала сваё. Але нечакана на бутоны напала тля. Шкада было кветкі, але і сыпаць дуст на бутоны не хацелася. Ночы станавіліся ўсё халадней, і ўрэшце тля знікла. Баючыся, што ружа загіне, Сяргей нанач уносіў скрынку ў пакой, а раніцай выстаўляў на балкон. А потым зусім перасяліў кветку ў хату. Аднойчы ён паліваў ружу і заўважыў, як замітусіліся, заскакалі вакол яе драбнюсенькія бялюткія казюркі. «Што за ліха яшчэ! Ды як скачуць!» Гэта былі «земляныя блошкі». Сяргей даведаўся, што яны не любяць тытунёвага пылу, попелу. Знайшоў на двары былое вогнішча, набраў у газету чорнага, як сажа, попелу, пасыпаў вакол кветкі. Скакуны пахаваліся.

І вось ружа расцвіла. Бутоны былі малочна-ружовыя, не дужа вялікія, кволыя, але да таго прыгожыя, вошто вачэй не адвесці. А які пах! Сяргей п'янеў ад водару ружы і ніяк не мог яго з чым-небудзь параўнаць. Андрэйка штохвіліны прасіўся «на ручкі», каб панюхаць кветку. Ды і сам Сяргей не мог налюбавацца ружай, першай у жыцці кветкай, якую вырасціў. І чым больш глядзеў на яе, тым мацней любіў гэтую нязграбную калючку з гладкімі маленькімі лісточкамі і трыма кволымі малочна-ружовымі бутонамі.

«От малайчына... Здаецца, што з тае рагаціны? Каравая, калючая. Глядзець няма на што. А якія кветкі! Такое і сярод людзей здараецца... Знешне — нічога прыкметнага. Звычайны чалавек, а душа! А другі — яркі, рослы, так і лезе на вочы, як мухамор у лесе, а душа — пустая, запоўненая толькі сабою,— раздумваў Сяргей.— Мо асмеліцца ды ўзяцца за цюльпаны?»

Ён ужо не на жарт захапіўся кветкамі. Ружа прынесла яму такую радасць, як ніводзін яго транзістар. Гэтую радасць можна было параўнаць хіба з тым пачуццём, перажытым у дзяцінстве, калі Сяргей змайстраваў дэтэктарны прыёмнік і пачуў піск у навушніках. Потым ён сабраў нямала радыёпрыёмнікаў, сам сабраў тэлевізар. Але канструяваў па гатовых схемах, і гэта надакучыла, бо нецікава займацца адным і тым жа на рабоце і дома.

А ружа!.. Тут было столькі нечаканасцей, ніякая схема не магла дапамагчы. Ружа адкрыла Сяргею цэлы свет, свет простых зямных радасцей, і яго пацягнула да прыроды. Абудзіўся, загаварыў вопыт соцень, тысяч пакаленняў людзей, якія жылі на прыродзе, былі наіўныя і прастадушныя дзеці яе.

У першую ж суботу Сяргей паехаў у Batанічны сад.

— Не скажаце, хто ў вас займаецца цюльпанамі? — спытаў ён мажнага вусатага дзядзьку, што стаяў ля ўвахода.

Стары прыдзірліва агледзеў наведвальніка, хмыкнуў, маўляў, якія зараз цюльпаны, потым пракураным жоўтым пальцам паказаў:

— Вунь там, на дзялянцы гладыёлусаў, корпаецца жанчына. Яна і ёсць самы вялікі начальнік над цюльпанамі. Ганнай Пятроўнай завуць.

Сяргей падзякаваў і пашыбаваў на дзялянку, але, калі наблізіўся, разгубіўся і ніяк не адважваўся загаварыць. Нарэшце запытаўся ў жанчыны:

— Прабачце, вы — Ганна Пятроўна?

— Так, вы угадалі. Я — Ганна Пятроўна,— бліснуўшы акулярамі, узняла галаву жанчына, выцерла травой чорныя парэпаныя пальцы.— Ну, дык што, малады чалавек? Слухаю вас. Мабыць, хочаце раздабыць гладыёлусаў? На жаль, не магу. Няма.

— Не, зусім не так. Мне патрэбны цюльпаны. Хоць штукі тры-чатыры. Пабіўся ў заклад з адным чалавекам, што яны зацвітуць зімой. Я чытаў пра зімовую выганку ў кніжцы...

Кволая ўсмешка кранула тонкія, засмяглыя вусны Ганны Пятроўны. Тыльным бокам вузкай загарэлай далоні яна падпіхнула акуляры і ўтаропілася на Сяргея.

— Зімовая выганка існуе ў прыродзе. Але кветкі цвітуць не ва ўсіх... Так што прайгралі вы, малады чалавек.

— А чаму не цвітуць? Ад глебы залежыць?

— Глеба, канечне, павінна быць добрая. Ды гэтага мала. Патрэбна яшчэ сёе-тое,— Ганна Пятроўна памаўчала, зноў зірнула на Сяргея.— Любоў патрэбна. Усё астатняе — дробязь... А хто аўтар кніжкі, якую вы чыталі?

Сяргей назваў прозвішча аўтара.

— Ага... Так, так. Даўно вы яе набылі?

— Вясной яшчэ. Купіў жонцы. А потым і сам зацікавіўся.

— Мяне засыпалі пісьмамі. Пытаюцца, дзе знайсці «Парады кветкаводам». Давядзецца рыхтаваць другое выданне... Дык вось што я вам скажу. Прыязджайце дні праз тры.

Неўзабаве Сяргей прывёз дамоў тузін рудых крамяных, з добрае яйка, цыбулін. На кніжцы з'явіўся надпіс: «Паважанаму Сяргею Ціханавічу ад аўтара».

...Тым часам Сяргей выйшаў на цэнтральны праспект. Сярод палахлівых ззяючых рэклам ён заўважыў зялёны ланцужок на фасадзе паштамта. І ногі панеслі яго туды. Малая стрэлка квадратнага паштамтаўскага гадзінніка падпаўзла да дзесяці, але ў зале было поўна людзей. Сяргей купіў паштоўку і паслаў яе Ганне Пятроўне.

## V

Вецер пацішэў, снег перастаў. Бясконцы людскі паток плыў, каціўся па тратуары. Яркае неонавае святло рабіла твары прахожых шызавата-шэрымі. Затое пераможна ззялі перламутравыя боты маладзенькіх модніц, пералівалася мяккая поўсць футраў.

«Ліха яго ведае, мо і не варта было лаяць жонку,— думаў Сяргей.— Бач, колькі модніц развялося. Вылузваюцца са скуры, каб адзеннем блiснуць. А якія шмат'ярусныя прычоскі!.. Увогуле, мая жонка зусім не благая кабета. І дарэмна я не пусціў яе на курсы... З-за ўсялякай драбязы спрачаемся. Пакрыўдзілася, што не купіў нічога... Ох, як мы сталі ганяцца за падарункамі...»

Жонка ўжо спала, калі Сяргей прыехаў дамоў. Дзверы ў спальню былі зачынены, на канапе бялела падушка, прасціна і коўдра. «Ого, як раззлавалася! Развод,— усміхнуўся ён.— Нічога. Памірымся». На цвярозы розум і супакоеныя нервы іх сямейныя перапалкі падаліся дробязнымі, нязначнымі.

Сяргей распрануўся, акуратна павесіў на крэсла

штаны і кашулю, выключыў лямпу, хацеў лезці пад коўдру, ды перадумаў, сеў, намацаў нагамі пантофлі. На падаконніку цямнелі тры сілуэты кветак, трохі звужаныя ўверсе: закрыліся нанач бутоны. Побач у новым гаршку, які Сяргей нядаўна прынёс са склепа, тырчалі чатыры парасткі-пінгвіны.

«Дзіўна, закрыліся кветкі, нібы заснулі. А ледзь пасвятлее — ажывуць. Як яны любяць сонца!.. А праз тыдзень засохнуць, пачарнеюць. І ўсё. Але ж я... Я буду помніць, якія яны былі прыгожыя. І Люда, і Андрэйка будуць помніць... Са старой цыбуліны вырасце новая. Адны цвітуць, другія растуць ім на змену. Як і ў людзей. Людзі — тыя ж кветкі. Адно не ўсе пакідаюць добрую памяць аб сабе. Ёсць і пустацветы... Трэба цвісці, гарэць!» — думаў Сяргей, гледзячы на цюльпаны.

## VI

Назаўтра яго тэрмінова паслалі ў камандзіроўку. Калі вярнуўся, увайшоў у пакой, зірнуў на акно. Там стаялі ўжо не два, а адзін гаршчок.

— А дзе ж другі? — спытаўся ён у жонкі.

— Знік... Суседзям падарыла,— неяк разгублена ўсміхалася Люда.— Ты не крыўдуй, Сярожа. Разумееш... Прыязджала маці. Мяса прадаваць. Я паехала пабачыцца з ёй. Узяла паказаць цюльпаны з гаршком. А там як абступілі нас! Цэлы натоўп. Усе пыталіся, як гэта робіцца. Як іх трэба даглядаць... Пачалі прасіць: прадайце. І ўсе раскупілі. Апошні з гаршком аддала...

Сяргей стомлена апусціўся на канапу. Яму стала сумна, маркотна і захацелася зноў паехаць у камандзіроўку...

Ішлі дні. Ніводзін цюльпан з чатырох апошніх так і не расцвіў.

# ДЫРЭКТАР

Насустрач ішоў мужчына ў кароткім паліто з пастаўленым каўняром. Лясная дарога — не праспект вялікага горада з бясконцым патокам людзей, таму, хто б ні сустрэўся тут, заўсёды пільна ўглядаешся ў яго, быццам спрабуеш адгадаць, што гэта за чалавек.

— Прабачце, ці няма ў вас агеньчыку? — спытаў незнаёмы, калі мы параўняліся.

Я дастаў запалкі. Закурылі.

— Далёка куды ідзяце?

— У лясніцтва трэба,— адказаў я.— Колькі яшчэ засталося?..

— Ды вярсты чатыры з гакам, калі не болей,— сказаў незнаёмы і, усміхнуўшыся, дадаў: — Сем вёрст да нябёс, ды ўсё лесам.

Чалавеку было за пяцьдзесят. Твар свежы, чыста паголены, але скроні ўжо прыцерушыліся сівізной. Гаварыў чалавек проста і добразычліва, як са старым знаёмым.

— Ну, бывайце здаровенькі,— мужчына кіўнуў і, кульгаючы, пайшоў далей.

Дарога была даволі шырокая, але ўверсе яловыя лапы спляталіся і прагіналіся ўніз пад цяжарам сне-

гу. У прагалінах віднелася сіняе-сіняе неба. Улетку яно ніколі не бывае такое.

Ішоў я не спяшаючыся. Вакол была чароўная чысціня, усё зіхацела і пераліваліся пад сонцам, драбнюсенькія крышталікі-сняжынкі іскрыліся ўсімі колерамі вясёлкі. Зіма ўпрыгожыла нават пні. Гнілыя, трухлявыя — таўхані — рассыплюцца, яны ганарыста і пыхліва высіліся пад вялізнымі шапкамі снегу.

Раптам ззаду зарыпелі сані.

— Мо па дарозе? — крыкнуў вусаты стары, стрымліваючы лысага коніка.— Магу падкінуць... Весялей будзе!

— Ды мне ў лясніцтва...

— Ну то сядай, чалавек харошы! З ветрыкам падкоцім... Мне таксама туды,— нібы па сакрэту сказаў ён, калі я сеў у сані.

— Но, галубок! Каб цябе камар убрыкнуў! — стары тузануў за лейцы, і конік ірвануў з месца.— Ты ў мяне пакруцішся, латруга! Тры дні стаяў, ні халеры не рабіў... Ах, каб ты здароў быў, атландзер еткі...

Стары махнуў пугай, лёгенька сцёбнуў коніка і гаварыў, гаварыў. Па ўсім было відаць, што кульнуў ён кілішак перад ад'ездам, добра ведаючы, што «вадзіцельскія правы» ў яго ніхто не адбярэ, і цяпер быў вельмі схільны да шчырай размовы.

— Коні ў калгасе січас гуляюць. Машыны, трахтары ўсё чысценька робяць...— фурман зноў тузануў лейцы.— Э-эх, галубок! Дарога — хоць бокам каціся. Хоць пеўніка запрагай...

Тут я не вытрываў і запытаўся:

— Чаму яе называюць Русакова? Зайцы па ёй бегаюць, ці што?

— Эге, мілы чалавек! Дык вы, мабыць, не тутэйшы? І пра Русака не чулі?

У адказ я пахітаў галавой. Стары здзівіўся, а яшчэ

болей узрадаваўся свежаму чалавеку. Ён сцягнуў рукавіцу, звыклым рухам разгладзіў вусы.

— Ёсць у нас, братачка, дырэктар школы Іван Данілавіч Русак. Школка ў нас невялічкая, пачатковая,— пачаў стары.— Дык вось ён і ходзіць па етай самай дарозе. Жыве ён у вёсачцы за лесам, кіламетраў пяць ад нашай Жукаўкі. І ходзіць ужо даўно, гадкоў дваццаць, калі не болей... Яго, братачка, і ваўкі не чапаюць, як ад вялікай павагі... Раней дарога так і называлася — Жукаўская. А цяперака ўсе ў акрузе завуць яе Русаковай... Душа-чалавек Іван Данілавіч...

Фурман скасавурыўся, дапытліва зірнуў на мяне, мабыць, вырашаў, ці варта ўсё гэта мне гаварыць, і, пераканаўшыся, што я і вушы развесіў, загаварыў:

— Прыйшоў з вайны Іван Данілавіч, параніты, і кантузію перанёс не адну. Хатка ў яго там, у Зарэччы, сям'я, а месца ў школе не было. І стаў ён працаваць у нас. Яно, канечне, далекавата, неспадручна. Ды і рака ўвесну разліваецца, што мора якое. На лодцы перабіраецца Данілавіч. Улетку на лісапедзе ездзіць, а зімой і сваім ходам — пехатой. Ета, братачка, не шуцейнае дзела — хадзіць кожны божы дзень. Ды з паранітай нагой... Прывык ён да нас, а мы да яго. Вёска наша лясная. Даўней было — глушыня, цемра...— стары зноў паглядзеў на мяне, памаўчаў.

Чароўная белая цішыня панавала вакол. Адно мякка рыпеў снег пад палазамі. Ціха пераляцела цераз дарогу сарока, падалося, быццам нехта шпурнуў камяк снегу з чорным пяром. Птаха села на галінку, і бліскучы струменьчык сыпануўся ўніз. Фурман глянуў у той бок, варухнуўся, пачухаў патыліцу.

— Цяперака саўсім другі каленкор,— выдыхнуў ён клубок пары.— Радзіва іграе ў любой хаце, электрыка свеціць. Тэлевізараў уга ўжо колькі развялося!.. Я, братачка, адно хвамілію сваю магу накрэмзаць. Ну што, час такі быў даўней. Закон божы вызубрыў, і

будзь здароў — гані кароў. А там за саху ды за барану. У пастухах ды парабках прайшла маладосць...

Стары ўздыхнуў, паправіў шапку, што з'ехала на вочы.

— А Русак...— фурман задумаўся і сказаў: — Колькі дзяцей праз яго рукі прайшло! А пасля вайны такія ж шалапуты былі адпетыя... З самапаламі, з рагаткамі хадзілі ў школу! І што вы думаеце — людзі з іх выйшлі. Анжынеры, урачы, аграномы, настаўнікі. Пісьмы пішуць Русаку... Вось табе і небальшэнькая школа! Малакаплектная, ці як там яе?..

— Малакамплектная,— пацвердзіў я.

— Два штатныя чалавекі ўсяго. Данілавіч, як дырэктар, і жанчына адна, Марэя Мікіпараўна... Я думаю, братачка, што ў етых самых, у пачатковых класах трэба прыахвоціць дзяцей да навукі. Каб яны смак яе адчулі... Вот і Міколка мой аграномам стаў. Екадземію скончыў. Ета табе не хаханькі — екадземія! Недалёчка тут працуе, у калгасе «Бальшавік». Багаты калгас. Ды цяпер бедных няма... Выбралі Міколу дэпутатам у Магілёў, у абласны Савет, значыцца,— з гонарам дадаў стары.— У Данілавіча ў самога тры сыны і дачка. Старэйшы — брыгадзір-механізатар, другі — доктар, у раёне працуе. Меншы ў мараках служыць, на Балтыцы. А дачка вучыцца на настаўніцу. Харошыя дзеці яго. І малыя былі паслухмяныя, не разбэшчаныя...

Фурман памаўчаў. Лысы конік даўно перайшоў на павольны крок, а грозная пуга спакойна ляжала на санях.

— Надоечы сход быў у нас бацькоўскі. І я зайшоў з анцярэсу. Унучка мая вучыцца... Ох, і даваў жару Данілавіч некаторым радзіцелям. Дзецям, братачка, нужон клопат. І строгасць! Дзеці — кветкі жыцця, але не давай ім распускацца,— стары хітра зірнуў на мяне, з усмешкаю прыгладзіў заінелыя вусы, відаць, задаволены сваім жартам, тузануў лейцы, нават хацеў

сцебануць лысага і ўжо замахнууся, але чамусьці перадумаў.

— Неяк зайшоў Русак да Хведзькі Казловіча. А там — накурылі, хоць сякеру вешай. За сталом вучанік сядзіць за кумпанію. «Што вы робіце? — кажа Данілавіч.— Дзіця за сталом...» А вясной, калі збяжыць снег, пракінецца сон-трава, вядзе наш настаўнік дзяцей у лес. «Вот, кажа, першыя кветкі вясны, вочы яе... Чуеце, кажа, дзяцел малоціць? У вайну тут стракаталі кулямёты...» Я чалавек стары, аджылы. Ды і я разумею — такі ўрок можа замяніць дзесяць кніг, сотню задачак пра ваду, што выліваецца з аднаго басейна ў другі. Ну і хай сабе выліваецца. Нашто сушыць мазгі над імі?.. Я да чаго вяду, братачка? Добрую закваску дае Русак вучням... Ды ўсё, што ні вазьмі ў вёсцы, да ўсяго Данілавіч руку прыклаў,— гаварыў фурман.— Бярозы абапал шляху ў полі ён пасадзіў. З вучанікамі. Улетку ля школы кветак розных цьма-цьмушчая... Па вясне пачнём будаваць новую школу. Данілавіч дамогся... Вот, братачка, такі наш настаўнік і такая яго дарога.

Стары зноў узяўся за пугу.

— Ды ён тут прайшоў не так даўно. Хіба не спаткаўся? Троху кульгае. З твару маладжавы, нічога яшчэ мужчына, а галава сівая. Гады, братачка, сваё бяруць...

Я хацеў сказаць, што бачыў Русака — гэта быў той чалавек, з якім я курыў,— але, зірнуўшы на сур'ёзны. задуменны твар фурмана, я чамусьці стрымаўся.

Ціха стаялі заснежаныя сосны. Сані лёгка беглі па лясной дарозе.

# ПУШОК

## I

Змяркалася, калі Петрык прыйшоў дамоў. На двары бабуля даіла Чарнуху. Карова брыкалася, сцёбала хвастом.

— Стой, ваўкарэзіна! Размахалася сваім памялом,— пакрыквала бабуля.— Дзе ты гойсаеш? — спытала яна, убачыўшы Петрыка, і, не чакаючы адказу, дадала: — Татулечка мой любы, прынясі посцілку. Тую, што ў сенцах. Накрыем Чарнуху. А то заелі мухі. Мабыць, на дождж яны так раз'ятрыліся.

Петрык любіў бабулю і ахвотна слухаўся яе. Яна ніколі не загадвала, а гаварыла такім голасам, быццам вельмі просіць. Петрык прынёс посцілку, і тут бабуля заўважыла, што з-за пазухі ў яго выглядае кацянё.

— Што ў цябе там? Кацянятка? Навошта яно табе? У нас жа свой кот ёсць.

— Гэта Пушок. Заўтра прыедзе тата, і мы возьмем Пушка з сабой у горад. Ён будзе ў нас жыць,— важна адказаў Петрык.

Як толькі бабуля працадзіла малако, хлопчык адразу падбег да яе:

— Хачу малака!

— Ты ж не любіш сырадою,— здзівілася бабуля,

але наліла поўную конаўку. Петрык выліў малако ў бляшанку, паднёс да яе кацянё. Пушок прынюхаўся, маленькім, востранькім ружовым язычком лізнуў малако, а потым пачаў хуценька хлябтаць.

— Што, прагаладаўся? Эх ты, маляўка,— Петрык пяшчотна пагладзіў кацянё.— Еш, еш, расці хутчэй.

Пушок усё хлябтаў, а Петрык радаваўся і не зводзіў вачэй з кацяняці.

Калі ўкладваўся спаць, узяў кацянё пад коўдру, але неўзабаве прыйшла з фермы цётка Аўгіння, вырвала Пушка з рук, выкінула ў сені:

— У ката гэтага, можа, блох процьма, а ты за пазухай носіш! Пад коўдру бярэш! Увосень у школу пойдзеш, а розуму ні на капейку...

— Нічога. Падрасце, паразумнее. А кацянё добрае,— заступіўся дзядзька Васіль. Ён збіраўся ў клуб і апрануў флоцкую форму. Надзеў бесказырку з жоўта-ружовымі гвардзейскімі палоскамі на стужцы, прыставіў рабром да носа далонь, пальцам намацаў зорачку — ці роўна сядзіць бесказырка.

— У нас на караблі быў сібірскі кот. Вялізны, лахматы. Усе любілі яго, песцілі. А я не мог дакрануцца.

— Чаму ты не мог? — усхапіўся з ложка Петрык.— Кусаўся той кот, так?

— Не, не кусаўся,— Васіль спахмурнеў, памаўчаў і ціха сказаў: — Адразу Барсік успамінаўся...

— А хто такі Барсік? — дапытваўся хлопчык.

— Хто? Ты не ведаеш? Раскажу потым. А цяпер спаць, юнга! Поўны адбой!

Петрык усё глядзеў на Васіля, не мог адарваць вачэй. Ён ужо ведаў, што тры лычкі на пагонах — старшына першай стацці, ведаў усе значкі на форменцы: вунь той чырвоны з Леніным, што з левага боку на грудзях,— гэта камсамольскі, цёмна-блакітны з

якарам і зорачкай — «Отличник ВМФ», а побач, на каторым лічба «I» — спецыяліст першага класа, гідраакустык; ніжэй, невялічкі блакітны — за далёкае плаванне. Ведаў, што Васіль ужо адслужыў і неўзабаве паедзе ў горад вучыцца.

Калі дзядзька вярнуўся са службы, дык падаў Петрыку руку і сказаў: «Трымай краба, юнга!», а потым падкінуў хлопчыка ўгору. У Петрыка аж сэрца закалацілася — ці то ад стрху, ці то ад радасці. «Эх, вырасці б хутчэй! Пайшоў бы служыць на Балтыку, як дзядзька Васіль. І Пушка ўзяў бы з сабой»,— думаў Петрык.

Неўзабаве хлопчык заснуў, спаў моцна і нічагусенькі не чуў. А ноччу стары кот і Пушок распачалі такую бойку, што пабудзілі ўсіх. Раніцай аб гэтым толькі і было гаворкі. «Хай гавораць,— супакоіў сябе Петрык.— Прыедзе татка. Забяром Пушка».

Але бацька не прыехаў. Ноччу каты зноў паднялі гармідар.

— Нясі кацянё назад, дзе ўзяў! Каб яго і духу тут не было. Бацька прыедзе толькі ў суботу. Дык што — нам тыдзень не спаць? Каб сёння ж аднёс! — загадала цётка Аўгіння.— А то вазьму ды ў рэчку кіну.

— Ён уцякае. Не магу злавіць,— схітрыў Петрык.

— Зловіш, калі захочаш,— сказала цётка.— Падгавару Васіля, дык ён скора зловіць...

— Ты злюка! Ты нехарошая! — Петрык заплакаў і пабег на вуліцу.

Цётка, высокая, хударлявая, як дошка, у доўгай сукенцы, моўчкі глядзела яму ўслед. З-пад палінялай хусцінкі выбілася пасмачка сівых валасоў. Цётка запхнула яе назад, павярнулася і пайшла ў хату. Сінія, па-дзявочаму чыстыя вочы былі поўныя слёз і нічога не бачылі перад сабой.

## II

Увесь дзень Петрык гуляў з Пушком. Нават плакаў трохі і смяяўся. Пушок смяшыў. Калі падыходзіў дарослы кот, Пушок так натапырваўся, выгінаў спінку, грозна фыркаў, і вочы яго так ваяўніча гарэлі зеленаватым бляскам, што стары адступаў. Петрык рагатаў, заліваўся.

— Дай яму, Пушок! Каб не чапіўся...

Але чым ніжэй хілілася сонца, тым больш непакоіўся хлопчык. Ён сядзеў за хлявом, пад паветкай. На каленях, угрэўшыся, драмаў Пушок. Час ад часу кацянё расплюшчвала вочы і звужаныя зрэнкі яго нагадвалі клічнікі. Петрык вырашыў сядзець з ім тут усю ноч.

— Ну, вось бачыш, і злавіў.— Петрык уздрыгнуў: над ім стаяў Васіль.— Я цябе шукаю. Гайда на рэчку. І Пушка бяры.

Петрык пайшоў, але купацца адмовіўся. Ён сядзеў на беразе і гладзіў кацянё. Васіль адразу скочыў у ваду і вынырнуў аж на сярэдзіне ракі. Ён плаваў на спіне, кролем, задаволена чмыхаў і смяяўся. Петрык вельмі зайздросціў яму, бо ўмеў плаваць адно «па-сабачы», а ныраць зусім не адважваўся. Як хацелася хлопчыку быць такім жа моцным, дужым і спрытным, і плаваць як рыба!

Васіль тым часам вылез з вады, абцёрся ручніком, аж ружовай зрабілася скура, пад якой быў знаць кожны мускул. Апрануўшыся, Васіль падсеў да Петрыка.

— Некалі быў у нас кот... Барсік. Вельмі прыгожы. Сам шэры, а лапкі і шыя — белыя. Я з ім сябраваў, насіў яго на плячы. Мы хадзілі ў поле, жартавалі. Бывала, іду па сцежцы, а ён забяжыць наперад, схаваецца ў бульбоўніку, і цап мяне за нагу, як абшчэпіць! А ўзімку я прывязваў да ніткі шматок паперы і ця-

гаў па хаце. Барсік даганяў, падскокваў, лажыўся. Што ён толькі не вытвараў!.. Пасля школы паехаў я ў тэхнікум. Кожнае лета гасцяваў дома. Барсік заўсёды мяне пазнаваў, так радаваўся мне. А калі я прыехаў перад службай, маці кажа: «Стары Барсік ужо. Нічогенька не чуе. Мышы пішчаць, а ён хоць бы што. Як яго збэйсаць? Колькі разоў у лес насілі ў мяху — прыбягае... Во стварэнне! Што з ім рабіць?» Узяў я тады Барсіка і аднёс далёка-далёка ў лес. І ён не вярнуўся...

— А дзе ён цяпер? Так і жыве ў лесе? — спытаўся Петрык.

Васіль нібы не чуў пытання, набраў жменю каменьчыкаў і кідаў іх у ваду. Кіне — разыдуцца кругі, зноў кіне.

Ён успамінаў, як прынёс Барсіка ў лес, выпусціў яго на паляне. Кот спалохана азіраўся, мякка, асцярожна ступаў па сухім лісці, цёрся ля ног. «Сядзі тут, Барсік!» — Васіль памалу адыходзіўся ад яго. Крокаў праз трыццаць зняў стрэльбу, дрыжачымі пальцамі заклаў патрон, стаў на калена, прыцэліўся... і апусціў ствол. Барсік абнюхаў лісце, жаласліва мяўкнуў. Ён чакаў, калі яго паклічуць.

Васіль зноў прыцэліўся, уздыхнуў на поўныя грудзі і, стаіўшы дух, націснуў на спуск. Стрэльба бабахнула так, што зазвінела ўвушшу...

— А кот так і жыве ў лесе? — паўтарыў пытанне Петрык.

— Мабыць, і жыве.

— Каб ён ведаў, што ты дома, прыбег бы, праўда?

— Так, Петрык, прыбег бы...

Васіль пазіраў на засяроджаны твар хлопчыка, на маленькія рукі, якія з невыказнай пяшчотай гладзілі кацянё. І быццам нешта перавярнулася ў сэрцы Васіля. «Ну, як ты адбярэш у яго кацянё? Як кінеш у раку?.. Барсіка я сам справадзіў на той свет. Не хацеў,

каб жывога пашкуматалі ваўкі. А Пушок — не... Хай Аўгіння паспрабуе...» Прыгадалася, як яна прасіла: «Занясі куды-небудзь гэту гідоту. Навошта ім у горадзе кацянё! Адкуль у іх мышы? Некалі ж ты Барсіка занёс...»

— Ты крыўдуеш, Петрык, на цётку Аўгінню, так?

Хлопчык доўга маўчаў, а потым ціха сказаў:

— Яна злюка. Не люблю яе...

— Не трэба так, юнга. Яна добрая... Нічога ты не разумееш яшчэ.— Васіль паспрабаваў прыгладзіць задзірысты віхор хлапчука, але бялявыя, як лён, валасы, не здаваліся, і віхор па-ранейшаму тырчаў угару.— Пасля вайны, Петрык, мы дужа галадалі. Не было ні хлеба, ні сала, ні бульбы. А сям'я вялікая. Дзевяць душ. Дзевяць ратоў. І цётка Аўгіння — яна з дзяцей самая старэйшая — дзяліла праснакі. Кожнаму па кавалачку. Маці, твая бабка, не магла дзяліць. Адразу пачынала плакаць... Можа, таму цётка і стала такой сярдзітай. Але яна самая добрая... з усіх нас.

Хлопчык недаверліва зірнуў на дзядзьку:

— А чаму ў яе няма дзяцей?

— Што табе сказаць?.. Хлопец, якога яна кахала, загінуў на фронце. І больш яна нікога не захацела кахаць. Засталася вернай таму хлопцу. Усё жыццё яна аддала нам. Мне, твайму бацьку, табе. Калі я вучыўся, служыў у арміі, цётка прысылала грошы... Яна і цябе гадавала. Неяк ты захварэў на запаленне... Не памятаеш? — Петрык паматаў галавой.— Малы ты быў. Дык Аўгіння праседжвала цэлыя ночы над ложкам. І ты застаўся жыць.

— А чаму яна не любіць Пушка? Ён жа ні ў чым не вінаваты. Хай стары кот яго не чапае. Дык і будзе ціха,— усё яшчэ насуплены хлопчык узняў вочы на Васіля.— І на мяне цётка сварыцца. Бурчыць заўсёды. Сярдзітая такая...

«Выліты бацька. Вачаняты такія ж сінія. Рот шырокі. І нават бровы так хмурыць. Адно валасы святлейшыя. Яшчэ пацямнеюць»,— падумаў Васіль, а ўголас дадаў:

— Як табе сказаць? Можа, ёй і падабаецца Пушок. Канечне, падабаецца. Цётка баіцца, што ў горадзе ён загіне. А мо яна думае: навошта вам лішні рот?

— Хай не думае. Я сам буду карміць Пушка. Малако купляць.

— Правільна, юнга. Я цябе разумею. Але зразумей і ты. У цёткі вельмі цяжкая работа. Ну-ка, паспрабуй падаіць дваццаць кароў. А цётка надойвае малака больш за ўсіх у калгасе. Пра яе ў газетах пішуць. Аўгіння Рахуба — лепшая даярка... Ды яна не пра сябе клапоціцца. Пра ўсіх дбае. Аўгіння зусім не сярдзітая. Яна строгая. А гэта... Карацей, юнга, запомні: строгія людзі, якія ў вочы кажуць праўду, якія хмурыя, сярдзітыя з выгляду, самыя добрыя...

Петрык з недаверам паглядзеў на Васіля, але нічога не сказаў. Маленькія, загарэлыя да чарнаты рукі, пяшчотна гладзілі кацянё.

— Раней нічога я не разумеў і крыўдзіў цётку,— уздыхнуў Васіль.— Цяпер пачаў цяміць, што да чаго... У мяне, юнга, быў строгі камандзір. Я спярша неўзлюбіў яго. Надта быў прыдзірлівы, сярдзіты... А потым стаў дарагі, як бацька родны. Маракі між сабой называлі яго «баця». Аднойчы я спазніўся са звальнення...

Размову нечакана перапыніў Пушок. Ён заўважыў коніка і скочыў за ім. Конік узляцеў угору і апусціўся ля краю абрыва. Пушок гарэзліва задраў хвост, моцна падскочыў і ледзьве не сарваўся ў вір. Пярэднімі лапкамі ён зачапіўся за траву, а заднімі драпаўся па пяску, які тонкімі струменьчыкамі сыпаўся ў ваду. Васіль кінуўся да берага, але не паспеў: кацянё плюхнулася ў раку. У тое ж імгненне Петрык, як быў у што-

ніках і кашулі, скочыў з абрыву. Васіль бултыхнуўся ўслед. Калі ён вынырнуў, Петрык ужо захліпаўся і з апошніх сіл пляскаў далонямі па вадзе.

На галаве хлопчыка сядзеў Пушок.

## III

Маленькі агеньчык патрэскваў на беразе ракі. Едкі, гаркавы дым ад альховага лісця лез у вочы. Ля вогнішча сушылася Петрыкава адзенне, а сам ён сядзеў, падагнуўшы ногі пад сябе, і гладзіў мокрае кацянё, якое дрыжала ўсім маленькім цельцам і выглядала зусім нягегла: поўсць тырчала ва ўсе бакі, а вочы слязіліся. Васіль расціраў ручніком вострыя, цёмныя ад загару хлапечыя плечукі і ўбачыў на галаве Петрыка чырвоныя драпіны, ужо прыпухлыя, мабыць, глыбокія.

— Баліць тут? — спытаў Васіль, пагладзіўшы мокры віхор.

— Не, ніколечкі,— запярэчыў хлопчык.

— Худы ты, юнга, што бубен. Усе рэбры пералічыць можна... І скура гусіная. Прабяжыся. Пагрэйся. І Пушок хай бяжыць з табой. Толькі далей ад берага трымайся...— кінуў наўздагон Петрыку.

«Чорт пабяры, вось дык здарэнне! — думаў Васіль.— Мог стукнуцца галавой аб корч — і капцы. Няма хлопца... Але які смелы! Малайчына».

Запыханы хлапчук падбег да вогнішча. Пушок, выгінаючы спінку, імчаў услед. Ён абсох ужо, ажыў, жоўта-зялёныя вачаняты блішчалі, рудаватая мяккая поўсць прыгладзілася. Развесяліўся і Петрык. Шчокі расчырванеліся, шумна дыхаў і радасна ўсміхаўся. «От, малеча!.. А яго ж магло ўжо не быць». Ад гэтай думкі Васілю зрабілася жудасна, і ён заспяшаўся дамоў, але адзенне хлопчыка яшчэ не высахла і невядома было, што рабіць з Пушком. Адно Васіль зра-

зумеў: «эбэйсаць» яго не зможа. Нечакана Петрык запытаў:

— А што табе зрабіў камандзір? Ну, калі ты спазніўся.

— Што зрабіў? Пакараў, юнга. На цэлы месяц задрабіў — забараніў, значыць, звальненні на бераг. Во, які быў строгі!

— І цэленькі месяц ты не быў на беразе? — здзівіўся Петрык.

— Цэлы месяц. А потым цётка Аўгіння прыслала ліст. Маці захварэла, ляжыць у бальніцы. Хлопцы кажуць: схадзі да камандзіра, дасць водпуск. Адзін матрос, ён да нас з другога карабля прыбыў, гаворыць: «Нічога не будзе. Пісьмо ў ваенкамаце не заверана. Пячаткі няма». Але я ўсё-такі пайшоў да баці. Прачытаў ён ліст і пытаецца, ці далёка вёска ад райцэнтра. Ну, я кажу, трыццаць кіламетраў. Нахмурыў бровы камандзір, памаўчаў, тады і гаворыць: «Ну, што ж, Рахуба, збірайся. Заўтра паедзеш дамоў...» Вось так, юнга. А потым я даведаўся, што баця наш — сірата. Бацькі яго загінулі ў вайну...— Васіль памаўчаў і дадаў: — Падрасцеш, пойдзеш у армію. Хочаш быць мараком?

— Хачу,— рашуча прамовіў хлопчык.

— Ну, значыць, будзеш.

Петрык нічога не адказаў. Ён задуменна глядзеў на раку і, мабыць, бачыў сябе на вялікім караблі, у бесказырцы з гвардзейскай істужкаю. Пушок, угрэўшыся, ціхутка мармытаў, хлопчык усміхнуўся і ласкава сказаў:

— Які ты дурненькі, Пушок. Хацеў коніка злавіць. Думаеш, ён будзе сядзець і чакаць... Эх ты, маляўка.

Васіль пазіраў, як хлопчык гладзіў кацянё, і раптам прыгадаў гісторыю, якую некалі пачуў ад маці.

— Петрык, табе ніхто не расказваў пра твайго прадзеда Ахрэма? Не чуў пра яго?

Хлопчык адмоўна пахітаў галавой.

— Ты спытайся ў бабулі. Хай раскажа, як Ахрэм панскіх катоў даглядаў.

— А ты сам раскажы.

— Я добра не памятаю... Ох, юнга, загаварыліся мы. Дадому ўжо трэба,— Васіль асцярожна пагладзіў кацянё, задуменна ўсміхнуўся.— Хай жыве Пушок. Любі яго, Петрык. І ніколі-ніколі не крыўдзі. Згода?

— Згода! — з радасцю ўскочыў Петрык.

Яны ўзяліся за рукі і пайшлі. На плячы хлопчыка ціха мурлыкаў Пушок.

## IV

Дамоў яны вярнуліся ўжо ў поцемках. Бабуля падаіла карову і цадзіла малако.

— А, гулёны, з'явіліся! Хацела ісці шукаць вас, узяўшы лыгала. Пайшлі на паўдня... Сядайце во вячэраць. Аўгіння прыйдзе позна. У іх нейкі сход...

Пасля вячэры бабуля наліла ў таз вады, каб Петрык памыў ногі. Хлапчук сеў на ўслончык, і тут успомніў гаворку з Васілём.

— Бабуля, раскажы, як дзед Ахрэм панскіх катоў даглядаў.

Бабка адразу перастала выціраць стол, здзіўлена зірнула на ўнука.

— Мне дзядзька Васіль гаварыў...

— А мой татулечка, ета было даўно-даўно. Я ўжо забылася. Ды проці ночы і гаварыць страшна. Шчэ прысніцца табе. Будзеш баяцца... Мый ногі скоранька і кладзіся.

— А раскажаш? Я не баюся.

Петрык доўга ўпрошваў бабулю, і ўрэшце яна паабяцала.

— Толькі чэсна! — строга сказаў хлопчык.

— Ну, добра, кладзіся, слухай...

— Даўней, пры цару, у нашай вёсцы быў маёнтак,— пазяхаючы, нетаропка пачала старая.— Жыла там пані Галынская. Дужа ўрэдная была. Ліхая-праліхая. Пайшлі мы раз у лес, у суніцы. Я і дзве дзяўчынкі суседскія. Мне было гадкоў дзесяць тады. Ну, збіраем. Ягад процьма. Ды такія чырвоныя, буйныя. У мяне паўтурліка ўжо было. Ета збанок такі. І тут пані — шасць з палкай. Ну, дзеўкі ўцякаць кінуліся. А я спужалася. Утароп мяне ўзяў. Во, стаю і ножачкі мае памлелі. Выхапіла пані турлік, высыпала ягады і давай іх таптаць... Штурхнула мяне: «Вон з лесу! Каб нагі тваёй больш не было...» Во, якая злабіцілка... А бацька мой, нябожчык, служыў у яе за конюха. Загадала яму пані даглядаць яшчэ і катоў. Дзяцей бог не даў, дык яна завяла плойму кошак. Цалюткі пакой, вялізны, як стадола, займалі. Бацька карміў іх, паіў, прыбіраў... І так яны абрыдлі яму, што болей некуды. І вось пані паехала да мора. І вырашыў бацька звесці са свету мучыціляў сваіх. Пачаў ён бізуном сцёбаць катоў па нагах. І так яны баяліся, што калі ён уваходзіў, з дзікім лямантам кідаліся на сцены. Агу, прыехала пані. Бацька і кажа: «Бяда ў нас надарылася. Каты звар'яцелі. Так яны сумавалі па сваёй гаспадыні».— «Быць не можа, пся крэў!» — закрычала пані. «Калі ласка, яснавяльможная пані, паглядзіце. Толькі не ўваходзьце першай. Могуць на вас кінуцца». Пані паслухалася, ідзе ззаду. Як толькі бацька пераступіў парог, каты заверашчалі і палезлі на сцены. Пані затрэслася ад страху і вопрамець адтуль. Ды зачапілася за парог і як гакнулася аб зямлю...

— Так ёй і трэба! — зарагатаў Петрык.

— Ну, слухай далей. Загадала пані атруціць ка-

тоў. Справіла багатыя хаўтуры. Кожнаму асобную магілку... Хацела яна завесці новых, ды не паспела. Прагналі яе... Ну, вось і ўсё. А цяперака спаць. Позна ўжо.

## V

Ноччу Петрыку прыснілася: цётка Аўгіння па вялізнай зале ганялася за Пушком. Яна загнала кацянё ў куток і ўжо замахнулася бізуном, але Петрык, нібы коршак, кінуўся да яе, ухапіў за руку і на ўвесь голас закрычаў: «Не чапай! Ён не твой!»

Закрычаў і прачнуўся. У акно ярка, асляпляльна бліскала маланка, прыглушана вуркатаў гром, быццам нехта бегаў па даху. Петрыку зрабілася жудасна, і ён захліпаў. Пачуўся сухі шоргат босых ног, над ложкам нахілілася цётка Аўгіння.

— Чаго ты прачнуўся? На двор хочаш? Не? Маладні спалохаўся? Дождж прайшоў ужо. І хмара далёка... Спі, маленькі...

Цётка прысела на ложку.

— Скора паедзеш,— уздыхнула яна.— Мо думаеш, што бацька не захоча браць Пушка? Не думай. Бацьку мы ўгаворым...

Петрык узяў цётчыну руку, прыціснуўся да яе шчакою. Рука была цёплая, шурпатая, і малому захацелася сказаць цётцы што-небудзь ласкавае-ласкавае.

— Калі я вырасту... Адслужу ў арміі. Прыеду сюды. Пабудую вялікі дом. І бабуля, і ты будзеце ў ім жыць... Я буду дровы вазіць, ваду насіць, сена касіць... Усё-ўсё рабіць... А вы з бабуляй будзеце адпачываць. Тэлевізар глядзець, кніжкі чытаць... Добра?

Цётка Аўгіння доўга маўчала, потым нахілілася і пацалавала хлопчыка ў лоб.

Зноў бліснула маланка, і на імгненне Петрык убачыў цётчын твар: вочы поўныя слёз, светлую ўсмешку.

# МАДОННА З КВЕТКАЮ

I

Раніцой Алену Наркевіч паклікаў старшыня райспажыўсаюза Шлыгін. Яна ўвайшла ў кабінет, калі старшыня гаварыў па тэлефоне. Ён кіўнуў — маўляў, праходзь, сядай,— а сам, прыціснуўшы да вуха трубку, якая здавалася надта маленькай у яго шырокай далоні, слухаў, моршчыў лоб.

— Ну дык і што? Няхай робяць і ўсё такое... Ну, чую, чую. Так, ну,— зрэдку кідаў у трубку Шлыгін.— Тэхнолаг прыедзе, паглядзіць. А я на адкрыццё... На ўваходзіны, так сказаць.

Пачуўшы пра ўваходзіны, Алена насцярожылася. «Мабыць, пра сталоўку ў Ліпаўцы гавораць»,— падумала яна і зразумела: ёй давядзецца туды ехаць.

Алена стаяла ля акна і пазірала на вуліцу. Раніца была хмурная, золкая, з імжыстым туманам. Мокрыя бліскучыя дахі, голыя чорныя дрэвы, голая шэрая зямля — усё чакала снегу.

У кабінеце было цемнавата. Слаба асвятляў самаробны таршэр — таўставаты, разгалісты сук вяза, з вузлаватымі, кручанымі-перакручанымі галінкамі, уторкнуты ў тоўсты бярозавы камёлак. На сучках вісела пяць лямпачак пад рознакаляровымі каптуркамі. Усё гэта зрабіў Юрка, былы шафёр райспажыўсаюза.

Старшыня вельмі ганарыўся таршэрам, любіў расказваць, як ён угледзеў у гэтай рагаціне «прадмет мастацтва».

Шлыгін паклаў трубку, падсунуў бліжэй каляндар, нешта запісаў і ўзняў вочы на Алену.

— Трэба з'ездзіць у Навасёлкі. Няма парадку там у сталоўцы. Гатуюць абы-як і ўсё такое... Ды ты ж чытала заметку ў газеце, ведаеш. Сам хацеў паехаць, разабрацца, але не выпадае. А ўрэшце, сталоўкі — твой хлеб. Зазірні і ў Ліпаўку. Як яны там будуюць? І ўсё такое...

— Захар Іванавіч, не паспею за дзень. Блізкі свет — Навасёлкі, Ліпаўка. Аўтобус ідзе позна...

— Трэба паспець! І ўсё такое,— Шлыгін нахмурыўся, памаўчаў, пакруціў у руках аловак, зіркнуў спадылба на Алену, што нерашуча стаяла ля стала.— Нешта ты дужа сумная? Не выспалася? Спатканні і ўсё...

Сапраўды, думала Алена, у яго правае вока большае за левае. І брыво правае вышэй — разглядала яна твар Шлыгіна.

— Адгадалі, Захар Іванавіч. Што ж мне яшчэ рабіць, як не на спатканні бегаць?

— Мо хутка вяселле будзе, га? — усміхнуўся Шлыгін.— Вось прыедзе Юрка на канікулы, справім сабантуй. І ўсё такое.

— Не, пакуль што не будзе. Няма калі. Над кантрольнай сядзела да раніцы. Думала, сёння дапішу,— уздыхнула Алена.— І сход камсамольскі трэба рыхтаваць.

— Ну вось, што. Ты мне тут не расчынай мокрае дзела. Што ж ты думала, у інстытуце лёгка вучыцца? Гэта, брат, не мёд. Ды і не ўмееш ты яшчэ. Спісала б у каго — і ўсё... Эх ты, курносая. Мне б твае клопаты.— Шлыгін падышоў да акна, грузны, шырокі, каржакаваты, пастаяў трохі, зноў узяўся за тэлефон, па-

чуў, што Алена адчыніла дзверы, павярнуўся: — Пачакай. Зараз я падскочу на базу. Потым бяры маю машыну і каці. Разбярыся там як след. І ўсё такое...

## II

У Навасёлках Алена доўга не затрымалася. Яна працавала ўжо трэці год тэхнолагам грамадскага харчавання — прыехала сюды адразу пасля тэхнікума,— і добра ведала свае кадры. Ведала, чаго вартая навасёлкаўская загадчыца. Гатавала яна нясмачна, маўляў, усё з'есца, і на руку нячыстая была.

«Гнаць яе трэба ў каршэнь,— вырашыла Алена.— Заеду ў Дуброву. Там на практыцы дзяўчына з вучылішча. Завярбую яе ў Навасёлкі. Добра, што на машыне. Усюды паспею».

У Дуброве была цудоўная сталоўка. На двары стаяў лістапад, церусілася колкая халодная імжа, а ў зале цвілі хрызантэмы, бялюткія, пяшчотныя. У вазах бялелі сурвэткі. Тут, у доброўскай сталоўцы, Алена адпачывала душой. Яшчэ больш яна ўзрадавалася, калі разам з Марыяй Сцяпанаўнай, загадчыцай сталоўкі, угаварылі практыкантку ісці на работу ў Навасёлкі.

— Не бойся, любая,— падбадзёрвала загадчыца.— Ты ж умееш і гатаваць і падаваць. Ды ўсё па навуцы. Лацвей табе. Мяне ўзялі сюды ад свае печы. Прыйшоў наш старшыня і кажа: «Ходзяць чуткі, Мар'я, што ты рупная гаспадыня, акуратніца. Бліны ў цябе смачныя, сам каштаваў. Ідзі, прымай сталоўку». Ну, і пайшла,— Марыя Сцяпанаўна ўздыхнула, памаўчала, разгладзіла нябачную маршчынку на фартуху, усміхнулася куточкамі вуснаў.— І падвучыцца не было ў каго. Паеду, бывала, у раён, зайду ў сталоўку, стану ля акенца, дзе стравы падаюць, і цікую. Як гарнір кладуць, як гурочак рэжуць... Бачу, нервуецца

дзяўчына, каторая падавала. Касавурыцца на мяне. Нешта шапнула другой. І тая стрэльнула вочкамі на мяне. Падыходзіць загадчыца і так далікатненька пытаецца, што мне трэба. Ну, я і расказала ўсё... Як загоча яна! Мае дзяўчаты, кажа, перапалохаліся, думалі — рэвізор... Вось так сама па сабе і даходзіла да ўсяго. Хацелася ж, каб не горш, чым у добрых людзей было.

Алена смяялася. Да слёз рагатала практыкантка, пацыбатая дзяўчына, з касіцамі, як у школьніцы. Падслухаўшы гаворку, заўсміхаўся і шафёр Пракапенка, сталага веку вусаты мужчына.

— Ну, дзякуй за абед. Надта смачнае ў вас усё. Язык можна праглынуць. Малайцы, каб вас качкі... Як бы гэта жонку прысладь да вас на стажыроўку, га? Мо трохі падвучылася б? — звярнуўся шафёр да Марыі Сцяпанаўны.— А што гэта за кветкі? — схіліўся ён над вазонам.— Паху не маюць. Але дужа прыгожыя, каб іх качкі... Адкуль у вас такія кветкі, скажыце?

— Ой, гэта доўгая песня,— махнула рукой загадчыца.— Мой дзед некалі быў садоўнікам у маёнтку. Ну, і дужа любіў хрызантэмы. Усё, бывала, гаварыў: гэта не простая кветка. Яна... Ну, гэты самы — знак вернасці.

— Сімвал, можа,— падказала Алена.

— Во, во, сімвал,— узрадаваная, падтакнула Марыя Сцяпанаўна.— Ён гаварыў і які гэта гатунак. Ці то «світанне», ці то «ранішняя зорка» завецца.

— «Ранішняя зорка»? — на хвіліну задумаўся шафёр.— Ну, яшчэ раз дзякуй за пачастунак і за ранішнюю зорку. Паехалі, таварыш начальнік,— звярнуўся ён да Алены.

Неўзабаве зялёная «Волга», даволі абшарпаная, з умяцінамі на баках, імчала па дарозе. «Вось каб у Ліпаўцы зрабіць такую сталоўку,— думала Алена.— А

чаму б і не? Памяшканне будзе новае. Чалавека паслалі на курсы...»

Туман развеяўся, паветра пахаладала, неба пасвятлела, выглянула халоднае яркае сонца. Касыя промні білі прама ў вочы.

— Ого, вось табе і маеш! Такі светлы дзянёк. Сібірка падзьмуў, каб яго качкі. Снегам пахне. Марозікам...— распачаў гаворку шафёр.

— Пара ўжо. Восень на зыходзе,— сказала Алена.

З Пракапенкам яна выбралася першы раз у такую паездку, бо пачаў ён працаваць не так даўно, пасля таго як Юрка паехаў вучыцца. А з Юркам абкалясіла ўвесь раён. Шкада, няма яго. Да новага шафёра яна ставілася не дужа прыхільна — нібы ён быў вінаваты ў тым, што Юркі няма. Засталася ад яго наклееная збоч руля, на шчытку прыбораў, невялічкая рэпрадукцыя карціны «Мадонна з кветкаю». Шафёр перахапіў позірк Алены і спытаў:

— Ну, як вам гэтая мадонна? — Алена не паспела нічога адказаць, як Пракапенка загаварыў зноў: — Хацеў здзерці, каб вочы не мазоліла. Ды і Захар Іванавіч неяк падсміхнуў: «Здымі гэтую кабету. А то машына, як перасоўны дзіцячы сад». Але аднойчы я прыгледзеўся. Чаму, думаю, падпісана «Мадонна з кветкаю»? Сядзіць жанчына з дзіцем — і ўсё. А тады бачу, ёсць кветка! Вунь, у левай руцэ... Бачыце? Ля самага краю.

Алена кіўнула ў адказ, усміхнулася. О, колькі разоў любавалася яна гэтай карцінай! Колькі праслухала Юркавых лекцый пра Леанарда да Вінчы, Адраджэнне, пра Рэнуара і Пікасо.

— Як на мой стары розум, дык першая кветка тут — дзіця,— глыбакадумна зазначыў Пракапенка.— Ці, можа, не так?

— Так, Аляксей Платонавіч, так... Дзіця — гэта

кветка жыцця. Гэта радасць. Вы паглядзіце, як свеціцца твар маці. Колькі пяшчоты, ласкі, радасці ў гэтай жанчыны!

Алена захапілася і пачала расказваць пра іншыя карціны, пра «сакрэт» Джаконды, пра яе ўсмешку. Пракапенка слухаў уважліва, задуменна, а калі пачуў, што «Мадонна» напісана пяцьсот гадоў назад, перапытаў з недаверам:

— Пяцьсот гадоў? Так даўно... Я і не думаў. Каб яго качкі... А мы цяпер во глядзім і радуемся,— ён зірнуў на Алену, нібы чакаючы падтрымкі, і яна кіўнула, маўляў, так, глядзім і радуемся.— І яна ўжо будзе вечна, гэтая мадонна,— разважаў далей Пракапенка.— Пакуль будуць людзі, будзе і яна...— Пасля зняў рыжую шапку-папаху, зноў надзеў і задуменна пазіраў наперад. Ад яго зімовага паліто з рыжым, як і шапка, каўняром, пахла нафталінам. На твары блукала ўсмешка, невялікія сінія вочы пад густымі, як шчоткі, брывамі, такімі ж рудаватымі, як і вусы, пазіралі мякка і прыязна.— Цяперака не могуць так маляваць. Накрэмзаюць нешта — нічагуткі не разабраць... Праўда, неяк у часопісе бачыў малюнак. «Партызанская мадонна». Глядзеў, вачэй не мог адарваць... Я ў атрадзе ажаніўся. Дачка ў лесе нарадзілася... Карціна ўсё адно, як з маёй жонкі пісана. Дальбог, праўда.

Алена расказала, што Міхась Савіцкі — аўтар «Партызанскай мадонны» — ваяваў пад Севастопалем, параненага захапілі немцы ў палон, адправілі ў канцлагер Бухенвальд, потым — у Дахау, і ён, можна сказаць, цудам застаўся жыць.

— Вунь яно што! Адпакутваў чалавек... І не партызаніў? Але — малайчына!.. А гэта самы Юрка, папярэднік мой, маляваў што-небудзь? — нечакана запытаў шафёр.

— Спрабаваў... Дрэвы, птушак... Пейзажы розныя. Ён дужа прыроду любіць...

Алена не сказала, што ён намаляваў яе партрэт — яна ў чырвонай кофце з кароткімі рукавамі, вецер ускудлаціў валасы, у руках вялікая белая кветка... Партрэт падабаўся ёй, хаця Юрка залішне ўжо намаляваў кірпаты нос, ды і вочы пазіралі занадта строга, нават сярдзіта — не падыходзь, маўляў. «Ты мяне такой злюкай зрабіў. Быццам нехта хоча адабраць кветку, а я кажу: не падыходзь, не аддам! Няўжо я такая?» «Ты і ёсць злюка,— адказваў Юрка.— Ніяк да цябе не падступіцца».

— А ён па шафёрскаму дзелу паехаў вучыцца ці па маляванню? — дапытваўся Пракапенка.

— Хто? Юрка? Па шафёрскаму. У аўтадарожны інстытут. На маляванне позна. Так, для сябе нешта будзе крэмзаць.

«Волга» порстка мчала наперад. Па баках дарогі — гэта быў стары гасцінец — стаялі голыя шэрыя дрэвы. На павароце машыну занесла і Алена ўткнулася ў плячо шафёра, схамянулася, пачырванела:

— Прабачце, Аляксей Платонавіч, задрамала. Над кантрольнай сядзела да раніцы...

— Нічога, нічога. Я рэзка крутануў. Ужо Ліпаўка блізка.

## III

Яшчэ здалёк Алена згледзела новы шыферны дах у цэнтры вёскі. Як толькі пад'ехала машына, насустрач выйшаў прараб Башлыкоў, невысокі, у фуфайцы, з няголеным шчэццем на чырвоным абветраным твары.

— Ага, начальства прыехала. Добры дзень вам,— гаварыў Башлыкоў, гледзячы міма Алены. На твары яго застылі чаканне і цікаўнасць: хто яшчэ прыехаў? Няўжо адна гэтая зялепуха?

Алена адразу пайшла ў будынак, і неўзабаве адтуль пачуўся яе голас:

— Башлыкоў! Куды вы падзеліся? Што гэта за перагародка? Навошта? — спытала яна, калі прараб пераступіў парог: — Я ў вас пытаюся, што вы тут адгарадзілі? У праекце няма такой клеткі. Што гэта за катух?

— Ніякі не катух, таварыш Наркевіч. Асобны кабінет.

— Чый кабінет? Што за глупства! Гэта ж парушэнне праекта!

— Праект, праект... Што мне праект? Той, каторы яго складаў, сядзіць далёка. А старшыня калгаса тут, пад бокам... Хто плаціць, той і заказвае музыку.

— Хіба ж старшыня з уласнай кішэні плаціць? Вы ж ведаеце, што мы потым возьмем сталоўку на баланс. Выплацім калгасу ўсе выдаткі. А цяпер... Камісія можа не прыняць такое памяшканне. Во, самадзейнасць развялі! Трэба ж дадумацца. Вы будзеце адказваць, Башлыкоў.

— Не пужай мяне, дзеванька. Ого, колькі мяне пужалі,— Башлыкоў ухмыльнуўся, пагладзіў няголены падбародак, закурыў, зірнуў на вуліцу: — Вунь ідзе Курловіч. Яму і кажыце. А я што? Я чалавек маленькі. Мне загадалі. Я зрабіў — і квіт.

У дзвярах паказалася мажная постаць старшыні калгаса. Ён выслухаў Алену, паморшчыўся, быццам у яго балеў зуб, кашлянуў у кулак.

— Вось уявіце сабе. Я лаю трактарыста за чарку. А ўвечары прыйду ў сталоўку і буду піць побач з ім. Хіба гэта педагагічна? Не, мілая дзяўчына.

— Сямён Макаравіч, ну, не выходзіць кабінет. Глядзіце самі. Тут — пліта, тут — раздзелачны стол, тут — печ. А дзе паставіць халадзільнік? Дзе мыць посуд?

— Нічога, памыюць,— старшыня стаяў, засунуўшы рукі за шырокі пояс паліто, пераступаў нагамі ў бліскучых хромавых ботах і з дакорам пазіраў на Але-

ну. А тая зусім разгубілася, пачырванела і, не ведаючы, як пераканаць Курловіча, сказала:

— Вось у Дуброве сталоўка. Любата. І цяпер кветкі там цвітуць. Хрызантэмы.

— А на халеру нам тыя кветкі? — засмяяўся старшыня і зірнуў на Башлыкова. Той дробненька зарагатаў.

— Абы бульба была. Ды катлеціна нейкая. І квіт.— Башлыкоў пасунуўся на вуліцу — маўляў, справа вырашана і яму тут няма чаго рабіць.

— Мне гэты катух трэба, як зайку стоп-сігнал,— азірнуўся на дзверы старшыня.— А калі хто прыедзе? Ну, з раёна. Трэба пачаставаць чалавека. А не — дык адразу ласку страціш. Мне шчэ тры гадкі да пенсіі...

— Каму патрэбен ваш пачастунак? Глупства ўсё гэта,— не стрымалася Алена.

— Ды не, таварыш Наркевіч, не глупства. Не кінеш наперад, не знойдзеш ззаду. Або як у вас, у гандлёвай сетцы: ты мне — я табе. Па латыні — доу ут дэс. Даю, каб і ты мне даў. Вы латыні не ведаеце, мабыць, а я некалі вучыў. Так што, мілая дзяўчына, не з нас гэта пачалося і не на нас скончыцца...

Шчокі Алены гарэлі, у галаве шумела, ад сораму і злосці хацелася плакаць.

— Вось вы ўжо на «Волзе» ездзіце. Глядзь, праз колькі гадоў узначаліце гандаль раёна. Прыедзеце да нас, а сельпоўцы павядуць вас у кабінет. Абмяркуеце справы, баланс-альянс, пагаворыце аб жыцці-быцці. Так што, не варта псаваць нервы. Да таго ж і Захар Іванавіч мяне падтрымаў. Рабі, кажа, як хочаш і ўсё такое...— ухмыльнуўся Курловіч.

Алена маўчала. Яна зразумела, што нічога не змагла даказаць.

— Што за шум? Што за вайна? — на парозе стаяў шафёр Пракапенка.— Дзе тут ваш кабінет? — нечакана спытаў ён у Курловіча.

— А вам якое дзела? Хто вы такі? Я вас не ведаю.

— Ну, дык будзем знаёмы. Пракапенка,— і падаў руку Курловічу.— Дваццаць першы намеснік Шлыгіна і яго персанальны шафёр.

Курловіч залыпаў вачыма. Алена ціха засмяялася і адышлася да акна. Пракапенка з сур'ёзным, заклапочаным тварам аглядаў памяшканне.

— Ну што ж, калі пытанняў больш няма... Пайду ў кантору,— старшыня павярнуўся да дзвярэй.

— Дык мы ж нічога не вырашылі,— азвалася Алена.

— А што нам з вамі вырашаць? Усё даўно вырашана. Мо яшчэ прыбіральшчыцу бабку Насту запрасіць сюды? Для кворуму. Няма чаго вырашаць. Не той узровень.

— Чаму? Самы высокі ўзровень. Чалавечы,— важка, спакойна сказаў Пракапенка.— А для каго ж сталоўкі будуем? Для людзей...

— Перагародку трэба зламаць! — гучна, не пазнаючы ўласнага голасу, сказала Алена.

Курловіч пачырванеў і працадзіў скрозь зубы:

— У мяне няма часу разводзіць тут анцімоніі. Вось пайду на пенсію, можаце ламаць, крышыць... А пакуль што — я тут гаспадар. І буду рабіць так, як нам трэба.

Ён крута павярнуўся і, не развітаўшыся, падаўся на вуліцу.

## IV

Гусцелі шэрыя восеньскія прыцемкі, калі зялёная «Волга» выехала з вёскі. Дарогу з абодвух бакоў абступалі голыя старыя дрэвы з белымі шырокімі паясамі на ствалах, якія зліваліся ў адну суцэльную стужку, яна бегла ўдалячынь, рабілася вузейшай, прыпадала да зямлі.

І сёння, думала Алена, не дапішу кантрольную. Ох, і тып гэты Курловіч... І шэф мой — цаца добрая. Нябось, мне нічога не сказаў. «Паглядзі, як яны там будуюць і ўсё такое...» Алена адчувала сябе страшэнна стомленай, галава была цяжкая, у скронях стукала, а вочы зліпаліся — давала знаць бяссонная ноч, закалыхвала дарога. І яна задрамала.

Прысніўся ёй камсамольскі сход. Народу поўная зала. І ўсе сядзелі за асобнымі столікамі. Алена выйшла на трыбуну, абвяла вачыма залу і здагадалася, што гэта Дуброўская сталоўка, у гаршках бялелі хрызантэмы. І раптам увайшоў Юрка, высокі, стройны, у чорным касцюме, вясёлы, усмешлівы. «Які ён прыгожы, мой Юрка»,— падумала Алена і пайшла яму насустрач. Раптам між імі стаў Аляксей Платонавіч, перахапіў Юрку, адвёў яго ўбок: «Хадзі сюды, голубе. Хопіць задзіраць галаву ўгору»,— і прымацаваў хлопцу да лацкана бялюткую кветачку галоўкаю ўніз. Загадчыца сталоўкі дала Юрку вялікую, бухматую кветку, і ён аддаў яе Алене. «Гэта табе, мая любая».— «Сімвал вернасці»,—Марыя Сцяпанаўна паківала пальцам. Тут падышоў да іх Шлыгін. Ён быў у белай кашулі, з шырокім пярэстым гальштукам. «Ну, маладажоны, жадаю вам шчасця. Каб вам весела жылося, каб елася і пілося... І ўсё такое... Ну, мадонна з кветкаю, трымай падарунак. Ключ ад новай кватэры! — Усе запляскалі ў далоні.— І во гэтае свяціла таксама вам — на сцэне зіхацеў агнямі самаробны таршэр.— Каб жылося светла і радасна. Горка!» — закрычаў Шлыгін. Усе падхапілі. Юрка абняў Алену і... у гэты момант яна прачнулася. Адразу не магла ўцяміць, дзе яна? Куды едзе? І тады зразумела, што спала, паклаўшы галаву на плячо шафёру.

— Ой, не ўгледзела, як задрамала. Што гэта? Снег? — Алена ўбачыла, як у промнях фар зімільгалі бліскучыя сняжынкі.

— Ага, сыпле. Дачакаліся,— кіўнуў Пракапенка.

На душы ў Алены пасвятлела: ці то сон развесяліў, ці то снег, але яе турботы падаліся не такімі складанымі. Кантрольную яна зробіць, сход падрыхтуе і Курловіча пераможа.

— Як вы думаеце, Аляксей Платонавіч, падтрымае мяне Шлыгін? Ну, каб разламаць перагародку...

— Хто яго ведае. Наўрад, каб быў рад...

— Але я не адступлюся,— задзірыста сказала Алена.— Пайду ў райвыканком. У вобласць напішу. Няўжо не даб'юся?

Пракапенка павярнуўся да яе, і хоць у паўзмроку вачэй яго было не відаць, Алена здагадалася, што ён усміхаецца:

— Будзеш грукаць, дык нехта адчыніць...

Далей ехалі моўчкі. Калі дабраліся да райцэнтра, вакол было ўсё белае і чыстае.

— Вось і зіма, каб яе качкі,— сказаў Пракапенка.— З першым снегам вас, Алена.

— Дзякуй. Я заўсёды радуюся першаму снегу.

Алена ўспомніла Юрку, прыгадала, як хадзіла з ім на лыжах.

«Хутчэй бы Новы год,— падумала яна.— Прыедзе Юрка. Мо і праўда вяселле згуляем. Ён перавядзецца на завочнае. Будзем жыць разам... І ў мяне будзе дзіця...»

З маленькай карціны на шчытку прыбораў, у зеленаватым змроку, нібы праз туман даўніны, таямніча, пяшчотна і радасна ўсміхалася «Мадонна з кветкаю».

3 Зак. 2799

# НА ВОЗЕРЫ

I



ес парадзеў, пасвятлеў. За дубамі засінелася вада. Быліч ступіў колькі крокаў і застыў — перад ім адкрылася вялікае круглае возера, акаймаванае цёмным пракаветным лесам. Бераг быў нізкі, балацяны, а тут, дзе стаяў Быліч,— пясчаны, але таксама не высокі. Лёгкія хвалі пяшчотна аблізвалі белы пясок. Быліч набраў прыгаршчы вады — яна была на дзіва чыстая. Калі вада выцекла, мокрымі далонямі правёў па твары. Успомніліся словы шафёра аўтобуса:

«Што за вада! Пасля работы, бывае, рукі не адмыць, а тут адразу. Шчолак... А на рыбку возера беднаватае. Акуні ды шчупакі. Плотак там розных, карасёў, мабыць, яны ядуць. Раслін малавата. Дужа чыстае возера...»

Быліч стаяў і азіраўся. На возеры не было ні душы. Далёка, з правага боку, віднелася нейкая будыніна з чырвоным грыбам-дахам. Часам праносіліся машыны: там была шаша. Злева, між дубоў, на пагорку, узвышаўся пансіянат, ля берага стаялі лодкі, і хвалі лагодна пагойдвалі іх.

Недалёка пад дрэвамі прытулілася зялёная будка — лодачная станцыя, але на яе дзвярах вісеў замок.

ля берага сядзелі і гутарылі мужчыны. Быліч спытаўся, як узяць лодку. Тады з суседняй лаўкі падняўся цыбаты падлетак, моўчкі адамкнуў замок, шырока расчыніў дзверы станцыі, сеў за стол і павярнуўся да Быліча — сінія і чыстыя, як вада ў возеры, вочы пазіралі з-пад выгаралых броваў.

— Квіток вашай пуцёўкі...— строга сказаў ён.

— У мяне ёсць толькі вось гэта,— Быліч падаў рэдакцыйнае пасведчанне. Хлопец доўга вывучаў яго, мусіць, упершыню бачыў такі дакумент, і ўжо з куды большай павагай спытаўся:

— Вы адпачываць будзеце?

— Не, няма калі. Хачу зрабіць здымак.

— Бярыце дзяжурную. Добрая лодка, лёгкая... Можаце хоць да вечара...

Шчодры жэст начальніка станцыі вельмі ўзрадаваў Быліча. Ён спіхнуў лодку, азірнуўся — возера, як і раней, было бязлюднае. «Аб гэтым можна толькі марыць»,— радаваўся, як дзіця, Быліч. Ён зняў пінжак, закасаў рукавы сарочкі, наваліўся на вёслы. Па дарожках паўз бераг хадзілі людзі, пазіралі на Быліча, як на дзівака, мацней захутваліся ў плашчы і паліто.

Лодка, шырокая, устойлівая, лёгкая, набірала ход. Неўзабаве за кармой пацягнуўся ўспенены след. Дубы ўсё аддаляліся, нібы прысядалі, затое ўсё шырэйшы прасцяг адкрываўся вачам.

У душы Быліч хваліў сябе, што паехаў на возера. Ён чуў, як ноччу лупіў дождж, уранні невялікі старадаўні гарадок быў ахутаны туманам, было золка, па небе таропка беглі жоўта-шэрыя воблакі. На добрае надвор'е надзеі было мала. І ўсё ж ён паехаў.

«Як хораша тут!..»

Быліч уявіў, што на карме ў лодцы сядзіць Жанна, і яе вільготныя карыя вочы глядзяць на яго, свавольнік вецер лахмаціць бялявыя, як спелае жыта, валасы, спрабуе сарваць хустку. Жанна тужэй завязвае хуст-

ку, абцягвае сукенку — яна кароткая і не можа закрыць круглыя загарэлыя калені.

Быліч ужо ад'ехаўся на сярэдзіну возера. Вецер памацнеў, хвалі гучна плёскалі ў борт. Лодка гайдалася ўсё мацней. Быліч узяў лева руля, каб вецер дзьмуў у карму. Лодка пайшла яшчэ шпарчэй: высокія шэра-зялёныя хвалі падганялі яе. Далоні ўжо гарэлі ад вёслаў, і Быліч пачаў грабці павольней. Раптам наперадзе нешта засвістала, залапацела. Ён прыўзняў галаў — вялікая чарада качак узнялася над возерам.

«Ні душы навокал! Адно качкі ды я!» — радаваўся Быліч.

## II

А магло быць інакш...

У першы дзень, як толькі прыехаў, Быліч прыкмеціў у кафэ афіцыянтку. Была яна маладзейшая ад усіх, і, мабыць, уладкавалася на працу нядаўна. Разлічваючыся, Быліч падзякаваў за вячэру, і нечакана для сябе спытаў у афіцыянткі, як яе завуць.

— Жанна,— абыякава адказала дзяўчына, пагардліва скрывіла маленькі ружовы раток.

— Ого, Жанна д'Арк!.. А заўтра таксама гэтыя столікі вашы?

— Не, мае будуць ля ўвахода,— абыякава, як і раней, адказала яна.

— А вы ведаеце, хто была Жанна д'Арк?

— Чаму ж не. У школе праходзілі па гісторыі...

— А ці чулі вы калі-небудзь музыку пра яе? Араторыю-містэрыю «Жанна д'Арк на кастры»?

— Не, не чула. А што гэта такое? — зацікавілася дзяўчына.

Быліч пачаў расказваць, што араторыю напісалі кампазітар Артур Анегер і паэт Поль Кладэль. Быліч

гаварыў з захапленнем. Афіцыянтка нібы застыла ля яго століка. Урэшце спахапілася:

— Прабачце, няма калі,— сказала яна, і з неахвотай адышлася, бо яе чакалі нецярплівыя наведвальнікі.

У наступны вечар Быліч павітаўся з Жаннай, як са старой знаёмай. Яна ветліва ўсміхнулася, нават зарумянелася. Быліча гэта падбадзёрыла, і пасля вячэры ён пачаў угаворваць дзяўчыну паехаць на Свіцязь: у Жанны праз дзень павінен быць выхадны.

— Паглядзім... Як надвор'е. Вада халодная ўжо. Купацца нельга. Што там рабіць?

— Нічога. Пакатаемся. Сфатаграфую вас. Такі партрэт будзе! Хоць на выстаўку... Я ж ніколі не быў на Свіцязі. Агонь бы расклалі... Здорава, га? Паедзем? Жанна д'Арк павінна быць смялейшай. Ну, дык як?

— Заманліва. Возера я люблю. Калі будзе час, можа, і паеду.

На другі дзень Быліч позна вярнуўся з калгаса і паспеў у кафэ, калі яго ўжо зачынялі. У зале было густа накурана і над столікамі плаваў сівы паўзмрок. Быліч кіўнуў Жанне. Дзяўчына выглядала стомленай, яе вочы сонна пазіралі з-пад нафарбаваных веекаў.

— Ну што, Жанна, засталося што-небудзь на маю долю? Не абедаў. Есці хачу, як воўк.

Як толькі афіцыянтка адышлася, мужчына, што сядзеў за суседнім сталом,— смуглявы, чорнавалосы, з чырвонымі п'янымі вачыма, прамычаў:

— Доўга я буду чакаць ці не? Хто мяне абслужыць?

Афіцыянткі, што прыселі ў кутку, пераглянуліся.

— Пайду прасіць Жанну,— стомлена паднялася старэйшая.— Як ён надакучыў, брыда гэтая...

Неўзабаве з кухні данеслася:

— Чаму я павінна падаваць яму? Твой мужык, прыйшоў да цябе. А я тут пры чым?

— Жаначка, золатка, ён дома мне душу выеў... Піць нічога не давай. Цябе паслухаецца. Ну, Жаначка...

І вось Жанна, сярдзітая і пахмурная, падышла да п'янага. Ён прасіў гарэлкі, афіцыянтка ўгаворвала, што ўжо і так перабраў, што болей нельга.

— Л-ладна, піва і шніцэль,— махнуў рукой мужчына, заплюшчыў вочы і адкінуўся на спінку крэсла.

— На вашы дрожджы і піва пашкодзіць. Выпіце лепей чаю...

— Хай жлукціць піва. Падай, Жаначка,— заступілася жонка.

— Ты не лезь, куды не просяць. З табой дома пагавару... Так і быць, шніцэль і чай,— здаўся мужчына.

Калі Жанна падышла за разлікам, Быліч ціха спытаў:

— Значыць, едзем? Давайце з самай раніцы...

— Я не змагу... Захварэла адна наша дзяўчына. Няма каму замяніць. Давядзецца мне...

Быліч спахмурнеў. Ён быў упэўнены, што Жанна паедзе, і тут на табе. «Нешта не так. Трэба пагаварыць...» Быліч выйшаў на вуліцу і хадзіў паўз кафэ, чакаючы Жанну.

## III

Быліч так задумаўся, што не заўважыў, як лодка заехала ў чарот, высокія цёмна-жоўтыя сцяблінкі зашапацелі паўз барты. Да берага заставалася не больш за сотню метраў, тут, відаць, было ўжо неглыбока, густой рудаватай сцяной стаяў чарот.

Неўзабаве лодка падплыла да берага. Старыя цёмныя елкі, магутныя дубы абступілі возера, якое нагадвала велізарную срэбраную талерку. Бераг быў густа пераплецены тоўстымі каранямі і, здавалася, дрэвы

трымаюць талерку-возера, іначай яно правалілася б у бездань.

Пайшоў дождж, касы, халодны. Возера пацямнела, хвалі зрабіліся шэрыя. Быліч накінуў на сябе плашч, прыхінуўся да разлапістай елкі і любаваўся возерам. Яно і ў непагадзь было прыгожае.

Быліч некалі чытаў Міцкевіча, але цяпер нічога не мог успомніць, ніводнага радка. Прыгадалася толькі ўражанне, якое пакінула балада «Свіцязянка»,— шчымлівае, таямнічае пачуццё. І яму захацелася перачытаць гэту баладу.

Дождж перастаў. Выглянула сонца. Спачатку вузкая палоска вады ўспыхнула, нібы люстэрка, а возера заставалася цёмным, шэравата-сінім. Светлая палоска расла, шырылася, а цемра ўцякала ў лес, і вось ужо ўсё возера ззяла пад сонцам. Вецер пацішэў, хвалі ляніва плёскалі ў бераг.

Быліч думаў пра Свіцязянку, а ўяўляў Жанну...

Ён хадзіў паўз бераг, збіваў старыя грыбы. Нечакана ля пня знайшоў з дзесятак буйных бульбін. Трохі воддаль бялела лушпінне ад яек, чарнела вялікая круглая пляма вогнішча. Значыць, былі турысты. А чаму не з'елі бульбу? Ці зусім не пяклі, ці не здужалі з'есці?

Быліч зрабіў з газеты мяшэчак, пазбіраў бульбу, аднёс у лодку. Кепска, што не было запалак. Можа, упершыню ў жыцці пашкадаваў, што не курыць. Ён вырашыў плыць да шашы, каб купіць у рэстаране запалкі, паглядзець расклад руху аўтобусаў.

Вецер зусім сціх. Хвалі разгладзіліся і зніклі. Быліч ад'ехаўся на сярэдзіну возера і памалу паплыў у бок шашы. Вакол было такое хараство, што хацелася проста сядзець, слухаць цішыню і любавацца возерам. Вада ля лодкі была густа-зялёная, нібы малахіт. Удалечыні, паўз берагі, падымалася фіялетавая смуга: вільготнае паветра рассейвала промні. Калі прачынаў-

ся ветрык, возера серабрылася маленькімі хвалямі, якія нагадвалі рыбіну луску, з дрэў злятаалі жоўтыя лісты і ціха плылі па сталёвай роўнядзі.

Ціха плыла і лодка. Быліч дастаў фотаапарат, але тут жа схаваў яго: здымаць не хацелася.

Быліч зноў прыгадаў той вечар, як хадзіў па цёмнай вуліцы, чакаў Жанну. Але чакаў не толькі ён — ля дзвярэй стаяў высокі малады хлопец.

Дзяўчына ўсё не выходзіла. Яна доўга прычэсвалася ў калідоры перад люстэркам. Быліч бачыў праз акно, як яна зацiскала ў губах заколку, прыгладжвала локаны, прыколвала іх і ўсё ўглядалася ў люстэрка.

Урэшце яна выйшла, узяла хлопца пад руку. Быліч, сам не ведаючы чаму, пашыбаваў следам. Вуліцы ў гарадку асвятляліся слаба і толькі фары сустрэчных машын выхоплівалі з цемры іх стройныя постаці.

Быліч ішоў і думаў: «Бог з табой, залатая рыбка. Жыві...» Ля плошчы ён павярнуў назад. На душы было сумна, і білася ўвушшу адна фраза з араторыі-містэрыі: «Чысцей за ўсіх на свеце кахаеш ты...»

## IV

На канцэрт у філармонію Быліч трапіў выпадкова: больш нікуды білетаў не было, а дзяўчына, з якой ён тады сустракаўся, хацела ў тэатр, і Быліч узяў білеты на «Жанну д'Арк на кастры». Сядзець прыйшлося паасобку — месцы аказаліся цераз праход. Сцэну перад Былічам трохі закрывала калона. Усё гэта спачатку сапсавала яму настрой. Але паднялася заслона, і ён убачыў вялікі хор: мажныя дзядзькі ў чорным, жанчыны ў доўгіх белых і зялёных сукенках, урачыстыя, сцішаныя дзеці ў белых кашулях. На эшафоце стаяла прыкаваная Жанна ў зрэбнай сукенцы, густыя, доўгія, нібы льняныя, валасы закрывалі ёй твар, спадалі на плечы.

З першых акордаў музыка захапіла Быліча. Ён увесь быццам ператварыўся ў слых і лавіў кожны гук, кожную ноту, злаваў, калі жанчына непадалёку шамацела паперай, а хлопец надта гучна шаптаў нешта сваёй сяброўцы.

Праз гадзіну з нечым араторыя скончылася, і дзіўна — публіка не спяшалася ў гардэроб. Быліч страшэнна не любіў у тэатры стаяць у чарзе за паліто, бо пакуль пастаіш, усе ўражанні ад спектакля знікаюць, і таму злосна зірнуў на сваю сяброўку, калі яна пацягнула яго ў гардэроб.

Увесь вечар ён тады маўчаў.

## V

Лодка павольна плыла па ціхім, пустынным возеры. Быліч успамінаў той канцэрт, і яму здавалася, што над лодкай лунае трапяткая мелодыя. А ўвушшу білася фраза: «Чысцей за ўсіх на свеце кахаеш ты...»

Быліч дабраўся да прыстані, прывязаў лодку ля драўлянай ратонды, што стаяла на слупках над вадой, і па гулкім мосціку сышоў на бераг. Ён вывучыў расклад, потым накіраваўся да рэстарана.

Дзверы былі адчынены. Чырвоны ліхтар асвятляў невялікае памяшканне. Паўз сцяну цямнелі шырачэзныя дубовыя калоды-сталы, вакол іх тоўпіліся танейшыя і ніжэйшыя калодачкі, на якіх сядзелі мужчыны і пілі піва з высокіх гліняных кубкаў. На замураваных дубовых бочках ляжалі фарбаваныя дошкі — прылавак, за ім стаяла сінявокая, круглавідая дзяўчына. Яна шырока ўсміхалася, паказваючы два залатыя зубы.

Быліч таксама заказаў піва. Свежае, халоднае, яно прыемна асвяжала. Тут было хораша: прахалода, ціш, рамантычны паўзмрок, у якім таямніча паблісквалі металічныя трубкі, пафарбаваныя пад бярозу.

Мужчыны выйшлі. Быліч занепакоіўся пра лодку, выглянуў — яна стаяла на месцы. Падышоў да прылаўка: успомніў пра запалкі.

— Нешта ж у вас мала людзей? — сказаў ён, каб пачаць размову.

— Тут як калі... Часам пуста, часам густа... Ды і восень ужо. Праляцела лецейка, і не ўгледзела,— цень лёгкага смутку легла на твар дзяўчыны.

— Так, лета праляцела,— падтакнуў Быліч. Ён хацеў яшчэ нешта сказаць, але перадумаў, кіўнуў на развітанне і выйшаў.

Над возерам ззяла сонца. Вада блішчала тысячамі маленькіх люстэрак. Былічу захацелася пакупацца. Як гэта так: пабыць на Свіцязі і не выкупацца!

Ён рашуча распрануўся, каб разагрэцца, пабегаў па халоднай ліпкай мураве, па сцяжынцы, пераплеценай каранямі, і рашуча ступіў у ваду. Яна была халодная, аж калола ў ногі. Увайшоўшы па грудзі, Быліч лёгка падскочыў і кінуўся грудзямі на ваду. Плыў ён хутка, часта ўзмахваючы рукамі, потым крутнуўся на спіну і, адчуваючы холад у патыліцу, моцна гроб рукамі. Вылазіць з вады не хацелася. Быліч фыркаў, чмыхаў, крактаў ад задавальнення.

Нацешыўшыся, скочыў у лодку і налёг на вёслы. Мабыць, ніколі ў жыцці не веславаў ён з такой сілай і асалодай, не адчуваў такой невыказнай «мускульнай радасці». На руках мускулы, нібы клубкі якія, так і хадзілі пад скурай. Усё цела гарэла, незвычайная бадзёрасць запоўніла яго. «Ах, як добра!» — Ён бязгучна смяяўся, і душа спявала.

Сонца прыпякала ўсё роўна, як летам. Былічу зрабілася горача. Ён падняў вёслы, прымасціў іх ля бартоў. Лодка застыла на месцы, ціха пагойдваючыся на мяккіх хвалях.

Было ўжо далёка за поўдзень, калі на возеры зачарнеліся некалькі лодак. На адной з іх спяваў муж-

чына, спяваў нягучна, з нейкай задуменнай ленасцю, ды ў прыбярэжных чаротах падавалі голас качкі. Быліч памалу веславаў, кіруючыся да пансіяната: накатаўся, далоні гарэлі, хацелася есці — аж смактала пад лыжачкай.

Неўзабаве ён пад'ехаў да прыстані, прывязаў лодку, спакаваў у партфель бульбу і, размінаючы ногі, пашыбаваў па дарожцы. Яму захацелася сфатаграфаваць магутны дуб, тры ствалы якога нібы падпіралі неба. Адпачываючыя, што сядзелі на лаўцы пад дрэвам, убачыўшы наведзены аб'ектыў, адразу выцягнулі шыі і застылі, быццам аршын праглынулі.

— Гэта што... Вот далей там дуб стаіць. У лесе. Ну і вялізны. І тры ствалы таксама,— падышоў да Быліча невысокі мужчына ў светла-шэрым касцюме.— Калі хочаце, пакажу...

Даволі доўга шукалі дуб. Урэшце знайшлі. Быў ён амаль такі ж, як і той, што на беразе, адно таўсцейшы трохі. Быліч сфатаграфаваў дрэва і добраахвотнага гіда. Пакуль шукалі, разгаварыліся, пазнаёміліся. Потым расклалі агеньчык, сядзелі на пнях, чакалі, калі спячэцца бульба. Віктар — так звалі хлопца — расказваў пра сябе. Родам ён з-пад Гродні, скончыў універсітэт, па прафесіі фізік, працуе ў навукова-даследчай установе.

— Мабыць, дысертацыю пішаце? — спытаў Быліч.

— Пара б кляпаць, ды часу нестае... Работа цікавая. Вы сёе-тое чулі, канечне, пра лазеры. Гэта... Сапраўднае дзіва. Танюсенькі праменьчык плавіць алмазы, сталь... Дык вось, мы даследуем, як дзейнічае прамень на празрыстыя паверхні. На крышталь, на шкло. Звычайна, разбурае. А часам трэба, каб не разбураў. Віктар памаўчаў, нахмурыў рудаватыя, выгаралыя на сонцы бровы, адмахнуўся ад дыму і загаварыў зноў: — Няма калі рабіць дысертацыю... А іншыя робяць. Ёсць нават такія, што дамагаюцца дысертацыі

любымі сродкамі... Каб на мой розум, дык адмяніць бы плату за кандыдацтва і — усё. Навука пазбавілася б ад баласту. Засталіся б сапраўдныя вучоныя. А пустазелле. З поля — вон... Хаця, канечне, усё складаней, чым думаецца...

Нарэшце бульба спяклася. Яны чысцілі яе аб яловыя галінкі і елі. Быліч непрыкметна пазіраў на Віктара. Рукі і рот у таго былі перапэцканы сажай, затое шэра-блакітныя вочы мякка свяціліся ад задавальнення.

— Усё добрае прыходзіць неспадзявана,— усміхаўся Віктар.— Трэба ж было некаму забыць бульбу... Цудоўна! Я гадоў сем не еў печанай бульбы. І сёння так пашэнціла. Галоўнае, на беразе такога возера... Як гэта ў Міцкевіча? — ён хвілінку памаўчаў і пачаў ціха, задуменна: «Гушчар лесу пахне чаборам і мёдам, жывіцы настоем смалістым. Там возера Свіцязь, як шыбіна лёду, ляжыць паміж дрэваў цяністых...» Хораша, праўда?

Быліч кіўнуў. У яго ўжо выпрацавалася журналісцкая звычка: разгаварыць чалавека, зацікавіць яго, а потым забыць пра ўсё на свеце, адно бачыць перад сабой свайго субяседніка,ператварыцца ў слых, запамінаць усё да драбніц, самому толькі падтакваць, уставуляць адно-два словы і маўчаць. Маўчаць і слухаць...

Сонца ўжо схавалася за дрэвы. Быліч заспяшаўся: да аўтобуса заставалася паўгадзіны. Віктар запрашаў на начлег у пансіянат, маўляў, месца знойдзецца, заўтра да яго прыязджае жонка з дачкой, пазнаёміліся б, дамовіліся б сустрэцца ў горадзе. Быліч падзякаваў, запісаў адрас, каб выслаць фотакарткі, і пашыбаваў паўз возера.

Паабапал вузкай дарожкі, якою ён ішоў, высіліся старыя высачэзныя вольхі. За дрэвамі блекла-ружова паблісквала Свіцязь. Былічу падумалася, што даўней

возера было не такое круглае і прыгожае па форме, а выцягнутае. Людзі выраўнялі бераг, падсыпалі пяску. А потым папрацавала прырода. Яна сама адшліфавала свой блакітны сапфір. Людзі не перашкаджалі ёй. І вось, Быліч крочыў па цвёрдай, перавітай каранямі дарожцы і любаваўся возерам.

## VI

Цямнелася, калі Быліч выйшаў да прыпынку. Зноў пачынаўся дождж. Касы, халодны, ён сек у твар, а аўтобуса ўсё не было.

Быліч ужо шкадаваў, што не застаўся, пераначаваў бы, раніцай яшчэ б пакупаўся... Не застаўся ён таму, што хацеў, каб запамяталася Свіцязь такой, якой была сёння, а мо яшчэ і таму, што цягнула ў горад.

Наперадзе загула машына. Быліч падняў руку і неўзабаве сядзеў у кабіне.

— На возеры былі? — спытаў шафёр, закурваючы.— Ну як, спадабалася? Так, так... Халаднавата ўжо купацца. Можна было пераначаваць там, у пансіянаце. Я летась адпачываў тут.

— Няма калі. Трэба ехаць,— уздыхнуў Быліч.— Ды і добрага заўсёды мала...

— Ваша праўда,— азваўся шафёр.— Добрага заўсёды хочацца паболей. Такі ўжо чалавек.

Шафёр, немалады, даўганосы, мабыць, увесь час ехаў адзін і цяпер усё гаварыў і гаварыў: што едзе з-пад Брэста, вязе газавыя пліты,— самы патрэбны тавар на вёсцы, толькі давай.

— Я сабе паставіў нядаўна. Дык маці мая — яна старэнькая ўжо, восемдзесят гадкоў пражыла — не можа надзівіцца. Усё божкае. Ні дроў, ні газы... «Што там гарыць? Нячысты дух,— кажа.— І што за агеньчык! Ні дыму, ні смуроду. Хоць вала смаж. Хто мог

падумаць, што такая жызня будзе! І паўвечча,— кажа,— не прайшло, як за польскім часам сярнічку на дзве часткі дзялілі. А некаторыя рахубы, дык і на чатыры... А цяперака жыві і паміраць не трэба...» — шафёр нечакана змоўк, зноў чыркнуў запалкай: на хвіліну асвяціўся яго нос, кусцістыя бровы, кароткая маршчынка — наўскасяк, між броваў.— Жыць — не мех шыць. А як памёр, дык усё гора адпёр,— неяк весела, з усмешкаю сказаў ён.— Чалавек, што тая свечка. Гарыць, гарыць і...

Быліч слухаў, ківаў галавою, а ўваччу ўсё стаяла возера, успыхвала зыркае полымя кастра, фізік расказваў пра лазер.

Машына імчала хутка. Быліч успомніў пра Жанну, зірнуў на гадзіннік — паспее. Яму хацелася ўбачыць яе. Убачыць апошні раз.

# СТАРЭЙШАЯ СЯСТРА

## I

Яна ўжо наважылася ісці, апранула зялёны, даўгаваты плашч, завязала хустку, узяла шэры саквяжык, падышла да дзвярэй, але пляменнік Сярожка не адпускаў: ашчаперыў за ногі і хліпаў, аж уздрыгвалі плечукі.

— Не хачу... Не пушчу... Не едзь, Ганка-а...

— А мо і праўда, дачушка, не едзь? Ці мала ты нахадзілася за цэлы дзянёчак? Выдумляюць нейкія нарады,— падала голас старая Наста, Ганчына маці.

За размовай у хаце не пачулі, як рыпнулі веснічкі.

— Нехта во метануўся ў акне. І не згледзела. Здаецца, паштарка,— углядалася ў акно старая.

— Пасталка! Пасталка! — заскакаў ад радасці Сярожка.— Пісьмо ад мамкі!

— А мой ты любенькі! Колькі таго чалавека, а ўжо разбіраецца. Ідзе паштарка ў хату, значыць, нешта ёсць апроч газет,— Ганка падхапіла Сярожку на рукі, адышлася ад парога.

Паштарка падала газеты і белы канверт без маркі, на якім буйнымі таропкімі літарамі было напісана: «Савачкінай Г. А.» Ганка адразу пазнала руку Зубовіча — фельчара медпункта, надарвала канверт, і адтуль выпаў жоўты рэцэптны бланк.

«Ганна Астапаўна! Не едзьце сёння ў раён. Заўтра раніцай заеду. Чакайце мяне. Абавязкова»,— прачытала яна. Апошняе слова было двойчы падкрэслена. Ганка прысела ля стала, задумалася. У яе маленькай руцэ з сінімі жылкамі, ледзь прыкметна дрыжала жоўтая паперка, нібы самотны лісток з восеньскае бярозы.

— Не паеду сёння. Фельчар заўтра заедзе, падвязе... Навошта яму гэта? Што за ласка? — усміхнулася Ганка.

— Ну, дык во і добра... А то чакай таго аўтобуса. Уха-хо-хо,— пазяхнула старая, і раптам, нібы спахапіўшыся, спыталася: — Ці прыехала ж яго жонка?

— Не, яны разышліся... А што мне да яго жонкі? — нечакана рэзка кінула Ганка.

Яна здагадалася, пра што падумала маці: усё ніяк не можа змірыцца, што дачка звякуе ў дзеўках. І пяць, і дзесяць гадоў назад яна цвярдзіла адно: «Дачушка, не перабірай так. Натрапіцца чалавек — ідзі і жыві. Будзь байчэйшая... А будзеш хадзіць, як маўмыра якая, дык і застанешся... Няўжо ты горшая за ўсіх?..»

Дачку гэта заўсёды злавала, раздражняла. І маці ўсё радзей гаварыла пра замужжа. Час ішоў. Малодшая Ганчына сястра Зоя і два браты даўно мелі сем'і, гадавалі дзяцей, а Ганка так і жыла з маці.

Увесь вечар, што б ні рабіла Ганка, з галавы не выходзіла думка: «Чаму заедзе Зубовіч? Чаму яго абавязкова чакаць? Што здарылася?»

Яна прыгадала ўсе падзеі пасля прызначэння Зубовіча фельчарам. Да Ганкі ён адразу паставіўся някепска. А пасля таго як звольнілася акушэрка Ліда Мажэйка, нават вельмі добра. Ні разу не лаяў, хваліў за добрасумленнасць. Часам падвозіў на матацыкле — жыве яна ў другой вёсцы за пяць кіламетраў.

Аднойчы ўвечары Зубовіч падвозіў яе дадому. Нечакана ў лесе заглух матацыкл. Фельчар прыставіў

яго да сасны і палез да Ганкі з абдымкамі. Яна вырвалася, адштурхнула яго:

— Не падыходзьце да мяне! У вас — жонка, дзеці. Што вам яшчэ трэба?! Ці вам мала няшчасця Ліды?

Ганка ведала, што акушэрка звольнілася праз яго.

— Цішэй! Чаго расхадзілася? — Зубовіч завёў матацыкл і паехаў назад. Ганка пешкі пайшла дамоў. Але і пасля выпадку ў лесе ён ставіўся так, быццам нічога не здарылася. І вось гэтая запіска.

Ганка стаяла перад люстэркам, расчэсвала валасы. Яна толькі што памыла іх у дажджавой вадзе. Мяккія, густыя, яны спадалі аж да пояса. Ганка нагадвала дзяўчыну-маладуху: постаць была яшчэ стройная; прыгожыя, загарэлыя да каленяў ногі; праўда, у клубах яна трохі ўсохла і грудзі ўжо не выторкваліся пад халацікам, як раней, ды і нос неяк завастрыўся, рысы твару акрэсліліся больш рэзка, і па-дзявочаму чыстыя вочы, ля якіх збягалася тонкая сетка маршчынак, часта былі сумныя і нават злыя.

Вочы Ганкі цяплелі, рабіліся лагоднымі, і ўся яна ажывала, калі забаўлялася з пляменнікам Сярожам. Брат Максім прывёз яго сюды, як толькі аднялі ад грудзей. Яна няньчыла малога, карміла, укладвала спаць, бо маці яе часта хварэла і было ёй не да ўнука. Сярожка так прывык да цёткі, што іншы раз называў яе «мамай».

Такое чула Ганка не толькі ад Сярожкі. Ужо каторы год яна працавала патранажнай сястрой: малеча пяці навакольных вёсак і пасёлкаў гадавалася пад яе наглядам. Ганка рабіла прышчэпкі, уколы, ставіла банькі. Патранажную сястру ведалі ўсе маці наваколля.

На працу хадзіла яна звычайна пехатою. Зрэдку пад'язджала на аўтобусе, падвозілі на машынах знаёмыя шафёры. А часцей за ўсё прабіралася ад вёскі да вёскі пеша. Усе раілі ёй купіць веласіпед, але Ганка

ўпарта не згаджалася: «Навошта ён мне? На сваіх дваіх — хутчэй». У любое надвор'е, калі трэба было зрабіць прышчэпку, яна выбіралася ў дарогу. Адмераўшы вёрст дваццаць за дзень, бегла дамоў, дзе чакаў Сярожка.

— Ганка, пачытай кніжку... Пра Веру-Вавёрачку... Ганка, пачытай,— папрасіў хлопчык.

Яна клалася побач з Сярожкам, брала кніжку.

Пасля казкі малы засынаў. Сцішвалася на печы і яго бабка Наста. Але Ганку сон не браў. Наплывалі ўспаміны.

## II

Языкі полымя вырываюць з цемры худы твар Паўліка, насунутую ледзь не на самыя вочы кепку. Час ад часу хлопец непрыкметна пазірае на Ганку. Мабыць, яму вельмі карціць падсесці бліжэй да яе, ды баіцца, каб дзядзька Аўхім не здагадаўся, што ён прыйшоў сюды знарок: ведаў, Ганчын бацька захварэў, і яна каторую ноч сцеражэ коней. Аўхім, канечне ж, зразумеў адразу, чаму хлопец «блукаў» позна па расе і завітаў на агеньчык падсушыцца, але і вухам не павёў.

Яны сядзелі ўтраіх, пяклі бульбу, смажылі сала. Паўлік дастаў зроблены ў кузні складанчык, спрытна выстругаў лаўцы. Сала скварылася на лаўцы, дымілася. Ганка вымала яго з агню, клала на хлеб.

— Дзіва, дый годзе! Дома не хачу глядзець на гэта сала. А тут падсмажыш на агеньчыку, дымком прапахне і, здаецца, няма на свеце нічога смачнейшага. Еш, хоць распеaccess,— адмахваючыся ад дыму, гаварыў стары.

А потым спяклася бульба... Дзядзька выціраў бульбіну аб траву, разламваў напалам і выгрызаў. Паўлік сашкрабаў складанчыкам нагар, смачна хрумстаў ружовай падгарэлай скарынкай. Ён перапэцкаўся

ў сажу, пад носам цямнелася, нібы вусы, чорная палоска. Ганка ўсміхалася, паглядаючы на яго, і ёй хацелася падсесці бліжэй да хлопца, хацелася пацалаваць яго...

Вакол — цішыня. Зрэдку «прадзярэ» прарэх у густой асацэ дзяркач, падасць голас перапёлка, мякка, прыглушана заржэ кабыла, тоненька і ласкава адклікнецца жарабя... Пад раніцу, калі стары Аўхім задаў храпака, Паўлік падсунуўся да Ганкі, нясмела абняў яе.

— Толькі без абдымачкаў. Надумаўся! — ускочыла Ганка.— Можаш сабе ісці. Кавалер знайшоўся...

— Я ж хацеў пагрэць цябе трохі,— насупіўся Паўлік.

Калі развіднелася, яны ляжалі побач, накрыўшыся пінжачком.

У тую раніцу пачалася вайна.

Прыгадаўся спякотны жнівеньскі дзень. Ганка з маці жала жыта. Пасля паўдня на захадзе засінелася маленькая хмурынка. Яна памалу расла, распаўзалася, рабілася цёмна-шызай.

— Дачушка, пастаў снапкі ў бабкі. А то нешта надвор'е кулажыцца. З такой гарачыні і град можа нахапіцца,— сказала маці, перавязваючы сноп і ўглядаючыся ў неба.

Маці была ў палатнянай кашулі, якую сама вышыла яшчэ ў дзеўках. Ганка дзівілася яе ўмельству, бо сама яна хоць і любіла вышываць, але так, як у маці, не выходзіла. Вось і ў гэтай сукенцы рукавы чырванелі дзівосным узорам: на чырвоным фоне чорныя і белыя ромбікі, кубікі, маленькія трохкутнічкі, а ніжэй чырвоныя лініі перапляталіся, закручваліся, утвараючы мудрагелісты малюнак. І ўсяго два колеры — чырвоная і чорная заблаць: так называлі ў вёсцы каляровыя ніткі.

Ганка насіла снапы, пазірала на хмару і думала: хутчэй бы вечар і каб пайшоў дождж; тады Павел, можа, нікуды не паехаў бы, яны, абняўшыся, сядзелі б на лавачцы... Раптам Ганка стала як укопаная, унутры нібы ўсё абарвалася ў яе, сноп выпаў з рук: далёка, за могілкамі, на шляху ўзнімаўся сівы слуп пылу, нібы жучкі, паўзлі чорныя машыны.

— Мам, немцы едуць! — крыкнула Ганка і з усіх ног кінулася ў вёску. Там жа Павел! Хутчэй папярэдзіць! Заціснуўшы ў руцэ касу, каб не матлялася, Ганка ляцела, што куля. Зачапіўшыся за каліва фасолі, што расла на мяжы, упала, збіла аб камень калена, але болю не пачула і бегла далей. На Паўлавым двары згледзела асядланых коней, з усяе сілы замалаціла па раме:

— Уцякайце! Немцы едуць з Сасноўкі...

Яна бачыла, як Павел схапіў вінтоўку, кінуўся да дзвярэй. А Ганка ўжо неслася дамоў — адвесці малых у зямлянку, дзе хаваліся ад бомбаў. Потым з Любкай, суседскай дзяўчынай, імчалі ў поле, у жыта. У канцы вёскі чулася страляніна. «Хоць бы паспеў уцячы. Хоць бы паспеў»,— шаптала Ганка. Дзяўчаты зашыліся ў жыта і сядзелі да самага вечара. Дажджу так і не было. Хмара з глухім, сярдзітым вуркатаннем прайшла бокам, над лесам.

— Ці жывы Павел? — трывожылася Ганка.

— Жывы. Я бачыла ўжо ля саменькага лесу трох коннікаў. Праўда, бачыла. Во, што б мне з гэтага месца не сысці,— «пабажылася» Любка, як некалі ў дзяцінстве.

— Веру, веру! — Ганка абняла сяброўку.

— Ты кахаеш Паўла, скажы? Толькі чэсна,— дапытвалася Любка.

— Не ведаю... Ён харошы... Паўлік гаворыць: «Скончыцца вайна. Мы ажэнімся... У нас будзе многа дзяцей. Сямёра, а то і болей...»

— Зайздрошчу я табе, Ганка. Ты такая прыгожая... Каб мне такую касу, як твая,— уздыхнула Любка.— А калі ты цалуешся, вочы заплюшчваеш ці не? — нечакана спытала яна.

— Дзівачка ты, Любка,— смяялася Ганка.— Тады забываешся пра ўсё на свеце...

Ганка не ўсё расказвала сяброўцы: Любка трохі маладзейшая, і Ганка баялася, што яна дзе скажа лішняе, таму ніколі не гаварыла пра тое, як перадавала праз Паўла прадукты, соль, цёплае адзенне партызанам, хадзіла па заданні ў Сасноўку і нават у раён...

Сяброўкі звілі з палявых красак вянкі і, калі добра сцямнела, вярнуліся ў вёску.

### III

Сярожка разбрыкаўся, ссунуў коўдру. Ганка накрыла яго, паднялася, уключыла настольную лямпу, зірнула на гадзіннік — было без чвэрці дванаццаць. Яна ўсунула ногі ў гумовыя боцікі, што стаялі ля парога, выйшла на двор. Неба расчысцілася, паблісквалі зоркі, над страхой лазні вісеў, быццам раставаў, чысты жаўтаваты сярпок-веташок. «Харошы будзе дзень»,— падумала Ганка і пайшла ў хату.

Сон не браў. Яна ціхутка адчыніла шафу, дастала з невялічкай драўлянай скрыначкі цёмна-зялёную кніжачку-пасведчанне, у якім гаварылася, што Савачкіна Ганна Астапаўна была сувязною партызанскага атрада. Тут жа ляжаў і медаль, якім узнагародзілі яе, калі святкавалі дваццаціпяцігоддзе Перамогі. Як віншавалі і дзівіліся тады калегі: аказалася, ніхто з іх не ведаў, што яна, Ганна Савачкіна, была сувязною. Фельчар цэлы тыдзень падмасліваўся, намякаў, што трэба замачыць узнагароду.

Ганка зноў легла ля Сярожкі, пацалавала яго ў расчырванелую шчочку, сцішылася, але сон не ішоў.

Прыгадалася тая восень, калі прыйшлі нашы. Ганка была ў атрадзе. Маці з дзецьмі таксама сядзела ў лесе. Усю ноч над лесам вылі снарады, бухала. Там, дзе была вёска, неба набрыняла дрыготкай чырванню.

Як толькі пасвятлела, Ганка выбегла на паляну і аслупянела: вёска знікла, адно чарнелі абгарэлыя коміны, дрэвы, за імі горбілася, шарэла поле: незнаёмае, курганістае, яно быццам прыблізілася.

— А вой-вой, дзе ж наша хата! — загаласіла ззаду маці.— А што ж ён нарабіў, хвашыст пракляты...

А праз колькі дзён Ганка праводзіла Паўла на фронт.

Зімавалі ў зямлянках. Неяк увесну прыйшоў дзядзька Аўхім — яго абралі старшынёй калгаса, сеў на лаўку, разарваў напал лісток чысленніка — так ён называў каляндар, насыпаў самасаду, нетаропка, задуменна скруціў кароткую тоўстую цыгарку, уздыхнуў, зацягнуўся, зіркнуў на Ганку:

— Дрэнь дзела. Хоць разарвіся. Няма каму араць. Зямля сохне. Можа б ты, Ганка, паспрабавала? Ты ж камсамолка...

— Аўхімка, ці ж гэта дзявочая работа? — заплакала маці.

— Хадзем, дзядзька Аўхім. Будзеце вучыць...

Ганка абула залатаныя боты з абшарпанымі белымі мысамі, апранула старэнькую фуфайку, нізка завязала чырвоную хустку, падперазалася вяровачкай і пайшла ўслед за старшынёй.

Усю вясну прахадзіла Ганка за плугам. А калі адсеяліся, захварэла. Маці адвезла яе ў бальніцу. «Тыф»,— вызначылі ўрачы, абрэзалі косы, пастрыглі, як хлапчука.

Неяк яна зірнула ў люстэрка і жахнулася: на яе глядзела страшэнна схуднелая, незнаёмая дзяўчына, з вялікімі, глыбока запалымі вачыма і голай галавой. Ганка глядзела, пакуль вочы не заслаў гарачы туман...

На двары пачыналася лета. У садзе ля бальніцы адцвілі яблыні, але салавей не забываў іх і штоноч прылятаў паспяваць. Ганка выходзіла крадком у сад, захутаўшыся ў халат, слухала салаўя, углядалася ў неба, дзе задуменна і мякка мігцелі зоркі. «Што робіць зараз Паўлік? Можа, у разведцы? — Павел пісаў, што ён разведчык.— А можа...»

Цішком Ганка заходзіла ў пакой і клалася спаць. Аднойчы пад раніцу прысніўся ёй сон.

Нібыта ідзе яна полем. Зямля толькі што ўзараная, цёплая, пульхная, ногі глыбака праваліваюцца, ісці цяжка. Ганка стамілася, у роце ўсё перасохла, гарачы пот выядае вочы, а яна ўсё ідзе і ідзе. Скончылася поле, яна ішла цераз лагчыну, па сухім коўзкім сіўцу, і здавалася ёй, што вось-вось паваліцца і не зможа падняцца. Але яна ішла. З лагчынкі пачынаўся роў. На дне яго віляла ў бакі вузенькая сцяжынка. Чым далей ішла Ганка, тым глыбейшы рабіўся роў, халадней было ў ногі. З маленькіх крынічак сабраўся ручаёк і весела струменіў па каменьчыках. У адной ямцы бруілі тры ключы, уздымаючы белы пясок,— быццам дыхала зямля. Ганка прыпала да крынічкі і доўга піла халодную, аж калола ў зубы, ваду. Напіўшыся, пайшла шпарчэй — адкуль узялася дужасць! Наверсе, па краю рова, з'явілася густая агароджа з бліскучага чырвонага дроту, якога было шмат у іх вёсцы пасля немцаў і з якога дзеці рабілі каралі. Агароджа блішчала на сонцы, бы чырвонае павуцінне. Раптам Ганка ўбачыла Паўла. Ён ляжаў ля агароджы з аўтаматам, страляў і не чуў, як Ганка паклікала яго. Тады яна пастукала па зялёнай касцы, тузанула Паўла за плячо. Ён няўцямна зірнуў на яе і пачаў зноў страляць. «Хадзем адсюль, Паўлік! Родненькі, міленькі, хадзем вунь туды. Я табе нешта скажу...» Яна пацягнула яго ўбок. Прайшлі крокаў дваццаць, як штосьці завыла, завішчала над галавой. «Лажыся!» —

крыкнуў Павел, прыціскаючы Ганку да зямлі. У гэты момант грымнула, нібы ўдарыў пярун, пасыпалася зямля, і вушы як заклала ватай. «Ганка, любая! Ты выратавала мяне! На тым месцы, дзе мой акоп, узарвалася міна...»

І тут Ганка прачнулася. Прыбіральшчыца мыла падлогу, грукала швабрай.

А праз тыдзень маці перадала белы трохкутнік. Павел пісаў, што трапіў у шпіталь: раніла асколкам у плячо, рана не глыбокая, косць не зачапіла. Усё добра. Настрой бадзёры. Скора зноў фронт, дабіваць ворага. Унізе стаяў подпіс: «Заўсёды твой П.».

Ганка павесялела. «Маё каханне ўратавала яго»,— радавалася яна. Дзяўчына хутка пачала папраўляцца. У бальніцы вышыла капшук: Павел прызвычаіўся курыць яшчэ ў партызанах. У кутку капшука чырвонай заблаццю вывела: «Увечары і ўранку помні сваю Ганку» — і паслала яго Паўлу.

## IV

Неўзабаве Ганка вярнулася дамоў. Дзень у дзень хадзіла на работу. Грэбла сена, стагавала, выбірала лён, жала жыта. Стамлялася так, што ледзь прыцягвалася да хаты. І ўсё ж, бывала, надвячоркам, ідучы з работы, жанчыны прасілі: «Давай, Ганка, якую-небудзь...» І яна запявала любімую:

Туман ярам, ярам-далінoю,
Туман ярам, ярам-далінoю.
За туманам нічога не відна,
Толькі відна дуба зеляногa...

І забывалася гора, бяда і нястача. Было толькі шырокае поле, барвовы дыск сонца, высокае чыстае неба з ружовымі хмурынкамі і звонкае вячэрняе рэха, якое падхоплівала песню.

Яшчэ ішла вайна, яшчэ гінулі бацькі, браты і сыны. Гінулі каханыя. Так многа было гора і так многа было надзей на шчаслівае жыццё, на радасныя сустрэчы. І так моцна п'яніла свабода — прагналі чужынца, можна смела хадзіць па роднай зямлі!

Аднойчы хмурнай восеньскай раніцай Ганчына маці ўбачыла, што да іх ідзе паштар, стары аднарукі Зміцрок. Адразу нібы абвяла: ведала — уранні ён прыносіць дрэнныя весткі.

Паштар доўга корпаўся ў сенцах, відаць, не мог знайсці клямку, але маці не зварухнулася, як прыкіпела да печы, сціснула вілачнік і глядзела на агонь — урэшце разгарэлася сучча, затрэскала, іскры адна за адной выскоквалі з печы. Ганка кінулася да дзвярэй, адчыніла. Зміцрок увайшоў у зямлянку, гукнуў:

— Здароў вам! Ну, як вы тута мадзееце? — сеў на лаўку, зняў шапку.— Нешта ж у вас дымна?

— Сырое сучча. Во ніяк не хацела ўгарацца, хоць плач... Так і мадзеем, Архіпавіч,— павярнулася маці.— Самі бачыце. А зіма ж, сіберніца, не за гарамі...

— Бачу, Настачка, бачу, мілая... І ў другіх не лепей,— Зміцрок памаўчаў, агледзеў жытло, глуха, па-старэчы кхекнуў: — Настачка, нешта ў цябе хвартух дыміцца? Глядзі-ка...

— От, халера,— сумелася Наста.— Іскар'е во сыпле. Ах, каб цябе, прапаліла хвартух. Хаця ён старэнькі ўжо быў,— яна зняла фартух, зацерла пальцамі паленае, кінула яго на печ, зноў насцярожана павярнулася да паштара.— Як вы, Архіпавіч, маецеся? Ікаво здароўе?

— Не пытайся, мілая. І дзе ўжо тое здароўе? Цяцюха не дае збыту... Ці чула ты, Настачка, Кандрат, Парасчын мужык, аб'явіўся. Прынёс я пахаронку. Параска, бедная, валасы на сабе рвала. А праз месяц — грым пісьмо. З гошпіталя. Жыў, здароў, ранены... От, як бывае...

Ганка слухала паштара, і ёй хацелася закрычаць: кажы хутчэй, што прынёс? А стары не спяшаўся, быццам збіраўся з духам. Сам бывалы салдат, ён нікому не заносіў пахаронак увечары, сэрцам разумеючы, што тады чорная ноч здасца даўжэйшай за год, уранні ж, калі вакол людзі, калі свеціць сонца, можа, будзе на кроплю лягчэй.

Паштар зноў кашлянуў, памаўчаў і дастаў з сумкі канверт... Галасіла ўсю раніцу маці: стала яна ўдавою, а чацвёра дзяцей — сіратамі. А вясной, калі адсвяткавалі Перамогу, ішла Ганка з віламі — растрэсваць гной пад бульбу, і раптам пачула плач Паўлавай маці. Невідушчымі вачыма глядзела яна на Ганку, а бяскроўныя вусны паўтаралі:

— Забілі сыночка... Забілі саколіка... У апошні дзень... перад замірэннем...

Ганка не памятае, як дайшла тады дамоў. І там дала волю слязам.

Неяк у Сасноўцы яна выпадкова сустрэла доктара, што ратаваў ад тыфу. Доктар ледзь пазнаў яе. Сівы, кульгавы, але вясёлы і гаваркі, ён як мог суцяшаў Ганку. Доктар ведаў Паўла — разам партызанілі. На развітанне, між іншым, зазначыў:

— Шукаю санітарку ў бальніцу. Падкажы каго... А мо сама пойдзеш? Работніца ты цяпер слабенькая. Ні ў полі, ні ў лузе. У нас памалу паздаравееш, падужэеш. І капейчыну якую заробіш. Падсобіш маці падняць малых. Падумай.

Ганка згадзілася. Так і пачалася яе медыцынская служба. Гады праз тры Ганку перавялі ў раён. Там яна скончыла курсы і стала медыцынскай сястрой. Пасля дзяжурства часта хадзіла дамоў за семнаццаць вёрст, але ніколі ні на хвіліну не спазнілася на работу. Ганка радавалася, калі ёй выпадала дзяжурыць у свята: плацілі ўдвая і не трэба было ісці на гулянку. Амаль усе грошы яна аддавала маці —

трэба было плаціць падаткі, страхоўку і самаабкладанне.

Тым часам малодшая сястра Зоя з пахвальнай граматай скончыла сямігодку. Настаўнікі раілі вучыцца далей, паступаць у педвучылішча. «Хай едзе. Я буду памагаць»,— вырашыла Ганка. Яна пасылала грошы сястры, будавала хату, давала малодшым братам рублі на кіно. Падыдзе, бывала, Максімка, утаропіць вачаняты: «Ганка, такі фільм сёння цікавы. Пра Аляксандра Неўскага. Па гісторыі ён трэба. Па праграме...» І так выходзіла ў хлопцаў, што амаль усе фільмы былі «праграмныя».

Ішоў час. Зоя пачала працаваць у школе. Аднойчы яна прыехала дамоў узрушаная, вясёлая. Калі ў хаце былі толькі маці і Ганка, прызналася:

— Ёсць у мяне добры хлопец. Разам вучыліся. Ужо год перапісваемся. Помніш, Ганка, я табе расказвала пра яго? Ён такі разумны, прыгожы... Даўно сябруем... Хоча жаніцца. Але ж я не хачу выскачыць раней за цябе. Ты — старэйшая...

— Падумай, дачушка. Табе ўжо дваццаць пяць. Не перабірай дужа... Хоць разжэня які, абы чалавек...— пачала маці.

— Чаго вы прычапіліся да мяне? Можа, я не хачу замуж? Каб хацела, дык выскачыла б дзесяць разоў... А ты, Зойка, не чакай мяне. Калі падабаецца, калі кахаеш — выходзь... Памагу вяселле справіць...

Ганка выбегла з хаты. Яна пайшла ў поле, каб ніхто не бачыў слёз.

Павырасталі, раз'ехаліся браты. Адзін вучыўся ў інстытуце, другі — у тэхнікуме. Ганка абодвум пасылала грошы.

Неяк на палітзанятках падняў Ганку кіраўнік — расказаць пра Бліжні Усход. Яна нешта гаварыла пра Суэцкі канал, пра Егіпет.

— А якія яшчэ краіны на Бліжнім Усходзе? — дапытваўся кіраўнік заняткаў — загадчык тэрапеўтычнага аддзялення.

— Сірыя, Ліван...— Ганка старалася прыгадаць яшчэ якую дзяржаву, але так і не змагла. Слухачы падказвалі. Ганка, добра не дачуўшы, ляпнула:

— Яшчэ ёсць краіна Судак...

Усе зарагаталі. Ганка зусім разгубілася.

— Ну, што ж ты, Савачкіна? Трэба ў газету заглядваць. У наш час сорам не разбірацца ў палітыцы,— ушчуваў кіраўнік.— Спецыяліст вы добры, я б сказаў, выдатны. А палітычна... Адчуваеце вы сябе слабенька. Не на ўзроўні...

Пачырванелая, прыціхлая Ганка слухала, як выступалі другія, маладзейшыя, шпарылі, бы па-пісанаму,— усё ведалі.

Пасля заняткаў загадчык паклікаў Ганку ў кабінет. Дзябёлы, сярэдніх гадоў мужчына, амаль на дзве галавы вышэйшы за яе. Доўга гутарыў, распытваў, як жыве, ці задаволена работай.

— Не разумею цябе, Ганна Астапаўна. Прыгожая, прывабная жанчына... І такая самотная, адзінокая. Чаму? Даўно ты падабаешся мне. Праўду кажу, не смейся... Я цяпер таксама адзінокі... Прыходзь увечары ў госці. Пасядзім, пагаворым...

— Дзякуй за ўвагу. На жаль, я не змагу,— Ганка ўсміхнулася і выйшла з кабінета.

Неўзабаве яна перавялася ў Навасёлкі, бліжэй да сваёй вёскі, каб больш дапамагаць маці, і стала патранажнай сястрой. А дома штолета гасцявалі пляменніцы і пляменнікі. Потым з'явіўся Сярожка. На яго долю выпала болей за ўсіх цётчынай цеплыні і пяшчоты.

Вось так і дажыла Ганка да таго часу, калі на медпункт прыехаў Зубовіч.

«Што ж ён скажа цяпер? Што здарылася?»

## V

Заснула Ганка позна, і, калі прачнулася, маці ўжо распаліла ў печы. Раніца была туманная, золкая.

— Апранайся цяплей. На матацыкле прабярэ наскрозь,— наказвала маці, завіхаючыся ля печы.

Раптам на вуліцы затарахцеў і змоўк матацыкл. Праз хвіліну ў хату ўвайшоў Зубовіч, рослы, плячысты, з абветраным чырвоным тварам. На тонкім гарбаватым носе бялелі ямачкі: націснулі акуляры, якія былі падняты на лобе. Зубовіч гучна павітаўся, сеў, не знімаючы шлем. Старая замітусілася.

— Січас во яешня будзе гатова. Дастань, Ганка, гурочкаў,— а сама выцягнула з-за шафы запыленую бутэльку.

— Не, не, я за рулём,— замахаў рукамі Зубовіч.— Нарада сур'ёзная. Да пачатку мы з Ганнай Астапаўнай павінны сёе-тое зрабіць... Як бы ты хутчэй сабралася...

— Я ўжо гатова. Можам ехаць...

Ганка выпіла кубак малака і пачала апранацца. Калі выйшлі на вуліцу, Зубовіч нацягнуў доўгія скураныя пальчаткі — аж да локцяў, азірнуўся, узяўся за руль, потым зняў пальчатку, уключыў запальванне і тут жа выключыў.

Ганка бачыла, што фельчар сёння не такі, што ён нечым занепакоены. «Хітры чорт. Умее трымацца»,— яна ведала, які аматар Зубовіч да гарэлкі, не грэбаваў і самагонкай, якую называў «фальклорным зеллем». Фельчар зноў азірнуўся і ціха сказаў:

— Паслухай сюды, Ганна Астапаўна. Ёсць дзела... Да нарады нам трэба заехаць у народны кантроль. Нехта напісаў, што я атрымліваў Лідзіну стаўку пасля яе звальнення. Дык я аформіў на цябе. Скажы, што ты палучала грошы, распісвалася ў ведамасці.

Ганка стаяла, нібы аглушаная.

«Дык вунь яно што! Вось чаму ён падлізваўся да мяне... Ён паўгода атрымлівае зарплату акушэркі... Ах, які нахабнік! Які нягоднік!» — кроў застукала ў скронях, стала горача, і Ганка паслабіла вузел хусткі.

— Ты не бойся. Тут усё законна. Ты маеш права... Патранажная сястра. Аддзяжурыла — і пайшла па вёсках.

— А я й не баюся. Чаго мне баяцца?.. Не дзяжурыла, грошыкі палучала. Сама распісвалася... Не чапайце Зубовіча. Ён — анёл. Маліцеся на яго...

— Ну, навошта так? Які я анёл? Я — грэшнік. Але выратуй мяне. Скажы: я палучала. І ўсё. А грошы — калі ласка, хоць зараз! Магу даць сотню, дзве, тры... Не тапі, Ганна Астапаўна,— лагодна, мякка гаварыў Зубовіч, і быў ён такі спакойны, упэўнены, адно вочы, маленькія, валавяныя, з чырвонымі пражылкамі, палахліва бегалі пад густымі брывамі.

— Вы самі сябе ўтапілі... У мяне язык не павернецца... Ніколі ў жыцці не хлусіла.

— Ганна Астапаўна, не думай так блага пра мяне... Гэта недарэчнасць... Разумееш, жонка не захацела ехаць сюды, у глушыню. Не склеілася сям'я. Пачаў я ў чаркі зазіраць. Не ад радасці, канечне. Напазычаў грошай. Адзін чалавек і параіў: аформіць на месяц, пакуль прышлюць новую акушэрку... А нікога не прысылалі. Вось і атрымалася так брыдка... Хоць скрозь зямлю праваліся...

— Не веру я вам. Не бачу, каб вам было сорамна. Выкруціцца хочаце... А потым зноў будзеце рабіць тое самае...

— Ого, ты псіхолаг. Малайчына! Ты разумнейшая, чым я думаў... На сходах ты ўсё маўчыш... А то, бач, разгаварылася!.. Ты мне падабаешся. Ну, мілая Ганна Астапаўна,— мякка ўгаворваў Зубовіч, а вочы нібы свідравалі, і сціскаліся рукі ў доўгіх скураных пальчатках.— Калі ты не паможаш, выганяць з рабо-

ты, папсуюць біяграфію... Ты ж добрая, Астапаўна! Адно толькі слова. Адно слова — і я выратаваны... Ну, Ганна Астапаўна, даражэнькая... Адно слова...

— А вы, Зубовіч, мусіць баязліўцам былі... Там, на фронце,— ціха сказала Ганка.— Я не паеду з вамі... Дабяруся як-небудзь сама.

Ганка павярнулася, каб ісці ў хату.

— Ах, так!.. Ну, пачакай жа, Савачкіна. Ты яшчэ пашкадуеш! Ты яшчэ ўспомніш мяне!

Зубовіч брыдка вылаяўся, завёў матацыкл, рвануў з месца.

Там, дзе стаяў матацыкл, калыхалася шызае смярдзючае воблачка. Яно пакалыхалася, расплылося і знікла.

# ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК

Прамая, як страла, дарога бегла цераз сад. Паабапал яе цягнуліся ўгору тонкія арабінкі. За імі роўнымі шарэнгамі разбягаліся маладыя яблынькі. Сад быў вялікі і малады.

— Во цяплынь настала... За які тыдзень усё зазелянела. А вішні забяліліся, быццам хто малаком абліў,— гаварыў садоўнік, пажылы, вусаты, з бурым ад загару тварам.

Поруч з садоўнікам крочыў дырэктар саўгаса, плячысты, каржакаваты, таксама загарэлы. Яны ўжо нямала выхадзілі: аблюбавалі месца, дзе будзе сховішча для садавіны, пераапрацоўчы завод, агледзелі гадавальнік, плантацыю аронii — чарнаплоднай арабіны, а садоўнік усё вёў некуды далей. Яму хацелася паказаць новаму кіраўніку ўсё, і таму ён спяшаўся.

— Вы ўмееце хутка хадзіць, Андрэй Васільевіч,— зазначыў садоўнік.

— Падбадзёрваеце, каб не адставаў? Дзякую за падтрымку, Станіслаў Іванавіч,— усміхнуўся дырэктар.— Але, можа, адпусціце ўжо мяне? Трэба яшчэ ў раён падскочыць...

— Ды ўжо недалёчка. Вунь ён, зялёны дубочак,— садоўнік паказаў рукой наперад.

Дырэктар убачыў дрэва. Прыгадаліся чамусьці словы песні: «Зялёны дубочак, шырокі лісточак. Куды вецер вее, туды голле гнецца...»

Яны падышлі да дубка. Ён быў не дужа высокі, прысадзісты, з трохі крываватым ствалом і надзвычай густой, купчастай вяршалінай. Яго маладыя лісточкі, з далонь немаўлёнка, аж прасвечваліся наскрозь, трапяталіся на галінках. Пра гэты дубок гаварыў брыгадзір трактарнай брыгады: маўляў, замінае, не падступіцца да яблынь, трэба яго ссячы.

— Малады зусім... Адкуль ён тут узяўся? — спытаў дырэктар.

— Гадоў трыццаць мае. Ведаеце, Андрэй Васільевіч, тут быў хутар некалі. Кажуць, нібыта гаспадар пасадзіў гэты дубок у тую восень, калі сюды прыйшла Чырвоная Армія... Гаспадар загінуў на фронце, а гэтае дрэўца засталося. Ні ў кога рука не паднялася...

Садоўнік змоўк. Маўчаў і дырэктар. Адно падумаў: «Значыць, мы аднагодкі. Я таксама з трыццаць дзевятага...»

— Крэпенькі дубок,— парушыў маўчанне садоўнік.— От, у Горках Ленінскіх бачыў я дуб. Восемсот гадоў яму. Бачыў і дуб Міцкевіча пад Навагрудкам. Аграмадзіна! А да чаго жывучае дрэва, дуб! Гэта ж, калі яго ссячы, ну хоць бы і гэты вось, дык ад пня пацягнуцца некалькі парасткаў. На іх вырастуць шырачэзлыя лісці, як лапці. Соку назапашана на цэлае дрэва, а дастаецца ім.

Дырэктар уважліва слухаў, ківаў галавой, і гэта натхняла садоўніка.

— А тарчкі вы бачылі калі-небудзь, Андрэй Васільевіч? У лесе, пад дубам, заўсёды ёсць маленькія парасткі. Яны пастаяць у цяню колькі гадоў і гінуць. На змену ім лезуць новыя. Прырода на ўсялякі выпадак трымае, так сказаць, пасадачны матэрыял. Як толькі дрэва ссякуць або само засохне, тарчкі ідуць

угору,— ён палез у кішэнь, дастаў папяросы, закурыў. Дырэктар — таксама.— А нейк назіраў я такую карціну,— зноў пачаў садоўнік.— Стаяў на ўзлессі дуб. Вясной зазелянеў. А потым гляджу — голы. Хрушчы аб'елі ўсё лісце. Праз нейкі час іду міма — дзіва! Трапечуцца маладыя лісточкі. Аказваецца, прачнуліся почкі, якія павінны былі распусціцца наступнай вясной...— стары зацягнуўся, кашлянуў, прыгнуў галінку, на якой быццам нанізаныя, зелянелі лісточкі, далікатна пагладзіў іх шурпатай далонню.— Хм, паглядзіце, Андрэй Васільевіч, вось на гэты малюсенькі шарык. Бачыце які?

Дырэктар прыгледзеўся і заўважыў на лісце зялёную кропельку, якая нібы застыла.

— Па-навуковаму гэта — гала,— пачаў далей тлумачыць садоўнік.— Ёсць такая малюсенькая мушка — галіца. Яна пракалвае ліст і адкладвае яечка. На месцы пракол у вырастае шарык. Да восені ён робіцца жоўта-ружовы, цвёрды. Раней гэтыя шарыкі называлі чарнільнымі арэшкамі. З іх рабілі чорнае чарніла...

— Цікава. Пра гэта я не ведаў,— прызнаўся дырэктар. Дасведчанасць садоўніка ўразіла, і яму таксама захацелася нешта расказаць.

— Была ў мяне гісторыя з хутарскім садам,— пачаў ён.— Першы год я працаваў пасля акадэміі, аграномам. Неяк вясной зайшлі да мяне механізатары і кажуць: замінае хутарскі сад. Трэба выкарчаваць, а то, як бяльмо на воку. Старшыня калгаса згадзіўся. Пайшоў я на поле. Уявіце сабе, зялёны астравок, нібы аазіс які. Вішні, ігрушы ўжо цвілі. Яблыні быццам гарохам абсыпаны — столькі бутонаў. І парэчкі былі, і агрэст. А паміж дрэў пасеяны шматгадовы лубін. Лапік зямлі невялікі, паўгектара, мусіць. Што для калгаса паўгектара! Кропля ў моры. А паспрабуй вырасціць такі сад. Я — да старшыні. Давай угаворваць. Не хоча адступаць, маўляў, вырашылі ўжо. Урэшце, здаўся.

Глядзі, кажа, сам. Ты аграном. Пад тваю адказнасць... Адваяваў. Перадалі сад школе...

Нейкі час яны маўчалі. Пасля садоўнік спытаў:

— Дык што будзем рабіць, Андрэй Васільевіч?

— Як што робіць? Ах, вы пра дуб... Што ж рабіць? — дырэктар абышоў вакол дрэва, азірнуўся. «Дарога побач. Тут можна прыёмны пункт садавіны размясціць»,— прыкінуў ён і махнуў рукой.— Хай расце вялікі...

Садоўнік адно глуха кашлянуў і заўважыў:

— Глядзіце, Васільевіч, сонца за хмарку садзіцца. Хай бы заўтра дождж пайшоў... А то сухмень такая...

— Дождж трэба. Ох, як трэба. Ды каб цёплы, з навальніцай.

Дыхнуў ветрык. Весела зашапацела на дубе лісце.

# КАЛІ ПРЫХОДЗІЦЬ КАХАННЕ...

Слышишь, звон прекрасный
Возникает?

*П. Васільеў*

## I

Як гэта ні дзіўна, але ў тое лета старшы матрос Максім Букацiч часта прыгадваў зіму. Ён думаў пра яе, калі стаялі белыя ночы, і асабліва — у спякотныя чэрвеньскія дні, надзвычай спякотныя для Поўначы, калі здавалася, што сонца заступіла на кругласутачную вахту, і нават чайкі на пеністых хвалях нагадвалі яму сарок на снегавых гурбах.

Максім успамінаў родны дом, вясковую вуліцу, але яна бачылася не ў квецені садоў і зяляніне дрэў — тады яна была асабліва прыгожая — не, яму мроіліся белыя, быццам захутаныя ватай, абснежаныя хаты, скаваная лёдам рака і серабрысты ў ранішнім інеі лес — такое было ўсё ў той незабыўны дзень — апошні дзень водпуску.

Тады Максім хадзіў у лес на лыжах. Дзень быў цудоўны. Лыжы не правальваліся і можна было шпарыць па цаліку куды хочаш. У твар дыхаў пякучы марозны ветрык, а ў спіну прыпякала сонца. Было так многа святла, што аж вочы адбірала. Люты ўжо сыходзіў, пачыналася вясна. І на душы ў хлопца было светла і радасна. Але да гэтай радасці аднекуль падымаўся смутак — як у чыстай крынічцы са дна падымаецца з вадой пясок,— бо амаль два гады Максім не паба-

чыць свой лес, родную вёску, бацькоў, не пабачыць так доўга Ніну.

З Нінай ён пазнаёміўся ў першы вечар пасля прыезду. Потым сустракаліся яны штодзень. Ніна чытала вершы — у школе яна выкладала літаратуру. Здаралася, што яна пытала ў яго пра службу:

— А што павінен рабіць акустык?

— Як што? Трэба ўбачыць цэль. Па шуме він-тоў вызначыць тып карабля. Хто плыве — крэйсер ці падводная лодка? Трэба каардынаты вызначыць...

— А калі акустык памыліцца, тады што?

— Тады тарпеды пройдуць міма цэлі. Усё пачынай спачатку... А паспрабуй знайсці цэль у глыбіні акіяна! Гэта ўсё роўна, як іголку ў стозе сена.

— Цяжкая ў вас служба,— зазначала Ніна.— У маёй сяброўкі быў адзін знаёмы, дэсантнік. Дык вось ён гаварыў...

І пачынала расказваць, ды так цікава, што Максім зайздросціў таму дэсантніку. Ніна не магла доўга слухаць Максіма і ўсё расказвала сама: пра інстытут, пра сваіх сяброўак. З невялічкай зялёнай кніжачкі «Мая бібліятэка» чытала перапісаныя аднекуль вершы: прыгожыя, занадта ўзнёслыя і слязлівыя. А потым пачынала скардзіцца: як сумна ёй тут, як хочацца ў горад, а працавала яна яшчэ першы год.

Максіму гэта не падабалася — як можна не любіць яго вёску — і вершы з той кніжачкі чамусьці нагадвалі яму яркія папяровыя кветкі. Але сказаць усё ён не мог: баяўся пакрыўдзіць настаўніцу. Максім любіў слухаць яе і глядзець ёй у вочы: вялікія, цёмна-карыя, пад доўгімі цёмнымі вейкамі, якія аж загіналіся ўгору, яго хвалявалі яе ружовыя прыпухлыя вусны, ледзь прыкметны пушок над верхняй губой, што рабіла твар яшчэ больш прывабны і ў той жа час ганарлівы і халаднаваты. У вёсцы яе паспелі ўжо празваць «цыганкай». Але Максіму ўсё падабалася ў ёй.

## II

Максім пад'ехаў да завеянага стога сена. З сонечнага боку снег раставаў, і так хораша пахла волкім сенам! Ён падставіў твар сонцу, заплюшчыў вочы і адразу ўспомнілася, як першы раз пацалаваў Ніну. Яны тады доўга блукалі па вуліцы, стаялі ля хаты, дзе кватаравала Ніна. Ішоў густы мяккі снег. Ніна зляпіла снежку і шпурнула ў яго, ён — шпурнуў снежкай у адказ. Потым Максім нечакана абхапіў Ніну, прыхінуў да сябе і моцна пацалаваў. Вусны яе былі гарачыя, вільготныя, мабыць, ад снегу, і саланаватыя. Потым яны цалаваліся яшчэ. А снег усё падаў і падаў. Ніна раскінула рукі і легла на гурбу снегу.

— Во, адбітак маёй постаці! Помнік на снезе! Або след снегавіка,— смяялася яна, падняўшыся.

У хаце гарэла вялікая яркая лямпачка без каптурка, і сноп святла падаў на вуліцу. Ніна падышла да веснічак, Максім зірнуў на яе і... разгубіўся: ад вачэй дзяўчыны адыходзілі чорныя пісягі.

— Што ты ўглядаешся? Маршчыны лічыш? — яна была амаль на год старэйшая за хлопца, і, мабыць, думала пра гэта.

— У цябе ля вачэй... Ну, мусіць, ад фарбы палоскі...

Ніна зірнула ў люстэрка і зарагатала:

— Вось дык дзіва. Вочы, нібы штыкетнікам абгароджаныя. От, што мокры снег нарабіў... Ну, я пайду. Позна ўжо...

...Максім зірнуў на гадзіннік і заспяшаўся. Лыжы ён браў у школе, і цяпер трэба ісці туды.

У настаўніцкай былі выкладчыца матэматыкі Вера Сяргееўна, сталага веку, мажная жанчына ў акулярах, і Ніна Андрэеўна — Максіму было нязвыкла чуць, як да яе там звярталіся. Каля грубкі сядзела прыбіральшчыца Рыпка ў старой пацёшанай плюшаўцы. На ста-

ле ляжаў стос рэпрадукцый карцін, і Ніна Андрэеўна, нібы мастацтвазнаўца, расказвала пра кожную карціну: калі была напісана і што хацеў выразіць мастак.

— А вось «Качагар» Ярашэнкі. Які каларыт! Якія густыя, трывожныя фарбы. А тут усё роўна, як сполахі агню...

«Якая яна разумная! Усё ведае! І такая прыгожая»,— Максім з захапленнем глядзеў на яе і радаснае, шчымлівае пачуццё ахапіла яго.

Уважліва слухала вучоную гутарку пра мастацтва і бабка Рыпка. Потым яна нячутна падышла да стала.

— Тут ёсць адна карціна...— нечакана ўшчамілася яна ў гаворку.— Хочу паказаць вам.

— Давайце знойдзем, Агрыпіна Раманаўна,— падтрымала старую выкладчыца матэматыкі.

— Во, ета яна. Ета самая,— ажывілася Рыпка. (Гэта была карціна С. Іванова «У дарозе. Смерць перасяленца».) — Калі нікога няма, дык я знайду ету карціну... Гляджу і плачу... Во, баба ляжыць, гаротніца, рукі ламаць. Кармілец памёр. І пахаваць няма дзе. Вунь і раска вісіць, зачапілася, як з возу цягнула яго... мёртвага. А дзіцёнак малы, неразумны. Сядзіць з лялькай, сіраціначка... Конь, мусіць, уцёк. Пачуў мерцвяка... І што ёй цяпер удаве-гаротніцы рабіць?..

У пакоі стала ціха-ціха. Адно ходзікі зацікалі гучней. Ніна Андрэеўна грэбліва сцяла вусны і моўчкі пазірала ў акно. «Матэматыца» шморгала носам і гатова была заплакаць.

Максім ведаў Рыпку з дзяцінства, ведаў, што два сыны яе не прыйшлі з вайны, а гады тры назад яна пахавала мужа і жыла цяпер адна. З малодшай яе дачкой, Тамарай, ён разам вучыўся ў школе. У першым ці то другім класе незнарок, дурэючы, адарваў каўнер старэнькага Томкінага паліто. І Рыпка, яна здавалася тады Максіму вялікай, дужай, прыгразіла даць

яму габлёўкі. «Пастарэла, Рыпка. Стапталася. Зусім не пазнаць»,— падумаў Максім.

— Ой, мамулечкі, загаварылася! Урок скончыўся!

Старая таропка схапіла медны званок з прывязанай гайкай — Максім добра памятаў гэты званок,— і пранізлівы, залівісты звон уладарна заглушыў усе іншыя гукі. Рыпка ўжо крочыла па калідоры, а ў настаўніцкай усё яшчэ стаяў звон, ён рабіўся танец, чысцей, мілагучней, нібы гучала струна нейкага дзіўнага інструмента. Максім адразу прыгадаў, як у час вучэнняў убачыў на экране свайго прыбора маленькі ўсплёск: «Ёсць цэль... Дыстанцыя...» — і далажыў камандзіру. Тут жа ўсё заглушылі званы гучнага бою — аб'явілі баявую трывогу. Пасля вучэнняў Букацiч стаў старшым матросам і атрымаў дзесяць сутак водпуску.

У калідоры загрукалі дзверы, школа загула, як парушаны пчаліны вулей. Максіму чамусьці адразу захацелася пайсці. Ніна Андрэеўна выйшла следам за ім.

— Хочаш, правяду цябе да райцэнтра? Якраз справы ёсць там.

«Хочаш? Яшчэ б не хацець! Ён мог пра гэта адно марыць... і раптам! Яна сама прапануе...»

— Дзякуй. Не трэба. Паеду з бацькам,— чамусьці адказаў Максім.

Лёгкі цень мільгануў у вачах дзяўчыны, але яна ўсміхнулася і весела сказала:

— Ну, што ж, бывай! Шчасліва адслужыць! Напішы, як даедзеш. Добра?

Максім кіўнуў і подбегам рушыў дамоў.

## III

Як толькі прыехаў на месца службы, адразу напісаў бацькам. Хацеў паслаць ліст і Ніне, але адклаў, лепей абдумаць. І не таму, што баяўся яе вучона, проста нешта стрымлівала. І калі думаў пра на-

стаўніцу, прыгадваўся той вечар і ён нібы бачыў яе вочы з чорнымі пісягамі, бачыў зялёную кніжачку «Мая бібліятэка», якую гартаў аднойчы — у ёй былі не толькі вершы, а і прозвішчы мастакоў, кампазітараў, назвы карцін і опер, процьма выказванняў і афарызмаў, прозвішчы кіназорак і нават футбалістаў. «Навошта ёй гэта?» — падзівіўся тады Максім. Цяпер жа ён вырашыў, што ў кніжачцы мелася ўсё для таго, каб пускаць туман у вочы такім «салагам», як ён. Прыгадвалася тая сцэна ў настаўніцкай, грэбліва сціснутыя ружовыя капрызлівыя вусны Ніны і школьны званок...

Дні ішлі, а Максім усё не адважваўся ўзяцца за ліст, сам сябе адгаворваў, супакойваў любімым афарызмам мічмана Громава: «Вось што, братва, лепей не станавіцца на якар, каб потым сячы ланцуг»,— часта паўтараў мічман перад адпрасаваным, надраеным да бляску строем звальняемых у горад маракоў.

Але зусім забыць настаўніцу Максім не мог. Ён стараўся не думаць пра яе, больш чытаў, часцей хадзіў на танцы ў матроскі клуб. Пазнаёміўся там з дзяўчынай, але калі танцаваў з ёй, побач нібы стаяла Ніна. Максім параўноўваў іх — Ніна выходзіла пераможцай, і яе вочы ззялі гарэзлівым бляскам. І ён перастаў хадзіць на танцы.

— Што з табой, Максім? Чаму ты раскіс? Нявеста выйшла замуж? Не бядуй. Усё яшчэ наперадзе,— суцяшалі сябры.

Максім пакутваў яшчэ мацней, таму што не мог расказаць пра Ніну хлопцам — баяўся, узнімуць на смех: «Які ты марак! Адразу раскіс перад прыгожай дзяўчынай. Які ты акустык, калі не змог улавіць яе душэўных струн, не вызначыў яе тып па шуме матора». І нават лепшаму сябру Гінтарасу Журкевічусу Максім нічога не расказаў.

Спрабаваў Максім паглядзець на свае перажыванні збоку, быццам гэта не ён закахаўся ў настаўніцу, а

нехта іншы, і ён раіў гэтаму «іншаму» плюнуць на ўсё і забыць: маўляў, усе прыгожыя дзяўчаты — прытворшчыцы і капрызулі, а тым больш яна — цыганка. Ён не мог паверыць, што прыгожая, адукаваная, разумная дзяўчына можа яго пакахаць, хоць быў і непаганы з выгляду, і не раз лавіў зацікаўленыя позіркі сімпатычных дзяўчат. Але ён ім не давяраў і на гэта была свая прычына.

Яшчэ ў дзевятым класе Букацiч закахаўся ў тую самую Томку, якой у дзяцінстве адарваў каўнер. Юнак чырванеў і заікаўся нават ад выпадковага погляду Томкі. А тая хоць бы што. Прыгожая, ганарыстая, дзёрзкая ад усведамлення свайго хараства і прывабнасці, зусім не глядзела ў ягоны бок. І тады Максім пачаў яе ненавідзець за тое, што так звонка і так бесклапотна смяялася на перапынках, так весела спявала вечарамі на ўзгор'і, калі хлопец гатовы быў плакаць. Пасля школы Томка паехала ў горад, скора выйшла замуж і ўжо гадуе сына. Пра яе Максім думаў рэдка, юначае захапленне прайшло, але нейкая горыч на душы засталася. Ды не гэта стрымлівала яго больш за ўсё, а тое, што Ніна здалася яму няшчырай, што яна не была сама сабой, а выконвала нейкую незразумелую ролю.

Аднойчы радыст, старшына другой стацці Хабібулін, паказаў Максіму канверт.

— Табе пасланне. Почырк дзявочы. Падстаўляй нос...

Была якраз пятніца, і Максім, пад рогат усяго кубрыка, атрымаў пяць удараў па носе пісьмом, добра, што было яно не дужа тоўстае. Роўнымі, круглымі, на дзіва прыгожымі літарамі, Ніна пісала, што крыўдуе на яго, што гэта свінства не паведаміць, як даехаў, што яна часта думае пра яго. «Вечарамі адна слухаю вялікую сімфонію ўсеабдымнай цішыні і вельмі хочацца пачуць шум прыбоя...» — пісала настаўніца. Усе коскі

стаялі на сваіх месцах, ліст уражваў мноствам шматкроп'яў і двукоссяў.

Максім перачытаў пісьмо і, мабыць, усмешка з'явілася на яго твары, бо Журкевічус адразу зазначыў:

— Хлопцы, Максім засмяяўся! Ура! Цэлы месяц хадзіў, як цень. А тут павесялеў.

— Ну, што, добрае пісьмо я прынёс? — дапытваўся Хабібулін.— Мо картку прыслала? Пакажы. Прыгожая?

— Прыгожая,— уздыхнуў Максім.— Аж занадта! Цалюткі чамадан парфумы і памады прыцягнула ў вёску.

— Ого,— прысвіснуў Журкевічус.— Дык на ліха яна табе? На яе пырсні вадой і прыгажосці — як не было, карова языком злізала. Я — за натуральнасць ва ўсім.

— Я — таксама,— весела сказаў Максім.

Неяк Максім перакладваў у тумбачцы свой няхітры пажытак і пад руку трапілася пісьмо настаўніцы. Ён перачытаў яго, і захацелася напісаць ў адказ. Падумаў: «От, зараз усё і выкажу, што пра яе думаю...»

Максім дастаў канверт з блакітным трохкутнікам: у яго заўсёды былі такія канверты. Ён заходзіў да пашталёна і сам ставіў штэмпель, прыгожа і выразна, бо паштар, спяшаючыся, штампаваў абы-як.

«Добры дзень, Ніна»,— напісаў Максім і задумаўся. Ля акна сядзеў з гітарай Журкевічус і спяваў:

Шумит волна, звенит струна,
Гитара поет и поет...

— А калі яна перастане? Вырубі сваю музыку,— паморшчыўся Хабібулін.— Бачыш, Максім нешта малюе... Ніяк не можа настроіцца на кароткую хвалю... Напішы, што закахаўся ў дзяўчыну-субмарыну. Хай параўнуе цябе да нашай лодкі.

— Канчай травіць. Нічога я не пішу,— адказаў Максім і схаваў канверт у тумбачку.

— Ну, во, бачыце. А вы, таварыш старшына, заціскаеце музыку,— Журкевічус трасянуў русявым чубам і зноў ударыў па струнах. Але неўзабаве адклаў гітару.— Не хочаце песень — не трэба. Пайду ў клуб. Кіно скора.

— Забі мне месца,— папрасіў Хабібулін.— А ты пойдзеш, Букаціч?

— Не, я хачу пачытаць,— сказаў Максім.

— А чаму ты ў горад учора не хадзіў? Хіба табе задрабілі звальненне?

— Ды не. Я проста не запісваўся. Не хацелася...

Хабібулін пайшоў, Максім застаўся ў кубрыку адзін. Вярнуўшыся з плавання, падводнікі звычайна жылі ў казармах, на беразе. Максім стаяў ля акна і з вышыні трэцяга паверха глядзеў на голыя скалы, на невялікі гарадок, што нібы ластаўчына гняздо, прыляпіўся да іх. Успомнілася родная вёска, перад вачыма паўстала Ніна... «І ўсё-такі напішу. Хай ведае...» — вырашыў ён.

Праз гадзіну Максім аднёс пісьмо вахценнаму, у якога на тумбачцы ўжо ляжаў цэлы стос канвертаў, і пайшоў у клуб. «А што, калі яна паехала? І маё пісьмо прачытае нехта другі...— раптам спахапіўся ён.— От, ёлупень! Надумаўся!» Максім подбегам кінуўся назад. Вахценны, малады матрос, толькі з вучэбнага атрада, здзіўлена зірнуў на яго.

— Адрас пераблытаў. Добра, што спахапіўся,— сказаў Максім, беручы канверт.

— Гэта бывае. Я аднойчы таксама пераблытаў. Адразу дзвюх дзяўчын страціў,— уздыхнуў вахценны і паправіў паласаты форменны каўнерык — гюйс, занадта палінялы, мабыць, выбеліў хлоркай, каб мець выгляд бывалага марака.

Пісьмо ён так і не адаслаў.

## IV

Надышло лета. Стаялі доўгія сонечныя дні. І ноччу ў кубрыку было светла, як удзень. І Максіма чамусьці апанавала бяссонне. Думаў ён, куды пайсці вучыцца пасля службы, успамінаў свой дом, маці, бацьку, не-не ды і прыгадвалася Ніна.

Аднойчы Максім атрымаў ліст [redacted] дому. Пасля звычайных пажаданняў, гаспадарчых турбот, клопату пра надвор'е — ураджай у калгасе спее багаты, каб давялося ўбраць за пагодаю, і што на антонаўках сёлета яблык процьма — засыпацца, у канцы ліста бацька прыпісаў, што новая настаўніца быццам бы не збіраецца ад'язджаць з вёскі, цяпер працуе на лузе, стагуе сена. «Дзеўка спраўная, працуе спрытна, работа гарыць у руках, і песняка́ як ударыць, дык далёка чуваць. Пыталася пра цябе, ці скора прыедзеш...»

Прачытаўшы гэта, ён адразу ўявіў спякотны поўдзень, сонца нібы плавае ў асмужаным небе, на стозе дзяўчаты ў белых, нізка завязаных хустках,— нібы чайкі над зялёнай гарбатай акіянскай хваляй — загарэлыя, белазубыя весялухі. І сярод іх — яна. Прыжмураныя, цыганскія вочы гарэзліва пазіраюць на яго, і ў іх нібы скачуць жоўтыя свавольныя чарцяняты...

— Пастроіцца на вячэру! — данеслася з калідора каманда вахценнага. Максім схаваў пісьмо пад падушку і рушыў з кубрыка.

Ноччу ён спаў трывожна і прачнуўся задоўга да пад'ёму. У кубрыку было даволі светла, ружавата, за акном чуўся прыглушаны, несціханы гул прыбоя. Максім уявіў, што ў вёсцы зараз узыходзіць сонца, цёплая рака дыміцца туманам, трава аж сівая ад расы, на кургане стаяць велічныя стагі сена, завершаныя прывялымі галінкамі вольхі...

Прыгадаўся апошні дзень водпуску. Прачнуўся ён тады рана. Размаляваныя марозам шыбы ледзь зару-

жавеліся ад водбліскаў світання. Мароз папрацаваў шчыра, і на шыбінах дзівосна перапляталіся казачныя расліны — у школьныя гады Максім лічыў, што менавіта такімі былі першабытныя хвашчы і папараць. Убачыўшы сына ўжо на нагах, маці здзівілася:

— Паспаў бы яшчэ, сынок... Мо запазніўся ўчора на гулянцы? — краем вуха яна чула, што сын заляцаецца да настаўніцы і суседкі ўжо прадракалі блізкае вяселле.— Бліны яшчэ не гатовы. Дровы нешта не разгараліся доўга... Там, нябось, не заспішся. Паднімуць. А калі спознішся? Сварыцца будуць?

— Нічога... Мічман зробіць унушэнне: закон мора — на пад'ёме не марудзіць!

Максім выйшаў на вуліцу. На паўднёвым усходзе нізка над цёмным, асмужаным лесам вісеў вялізны мутна-барвовы дыск, а высока на захадзе ў марозным бляклым блакіце раставаў фіялетава-шэры месячык. На ружаватых гурбах снегу, якія намяло за ноч, ляжалі сіняватыя цені ад хат, штыкетніка, і нібы жывыя, трапяткія цені ад слупкоў дыма. Снег звонка рыпеў пад нагамі, калі Максім нёс з калодзежа ваду. Потым ён доўга і са смакам рабіў зарадку, да пояса выцерся снегам. Сыпкі, як пясок, колкі снег дзёр скуру, быццам наждачная папера. Ад голага цела ішла пара, але было цёпла, скура гарэла, а мускулы нібы ўвачавідкі наліваліся сілай і бадзёрасцю...

Пасля сняданку Максім узяўся націраць лыжы.

— І ахвота табе, сынок... Маразюган такі сёння. Пабыў бы дома... Апошні дзянёчак. Зноў паедзеш...— маці паднесла да вачэй фартух.

У горле хлопца быццам засеў камяк. Максім быў самы малодшы ў сям'і, і маці любіла яго больш за іншых. Ён быў высокі, прыгожы, з такімі ж сінімі вачыма, як у яе. Затое бровы бацькавы — цёмныя, густыя. Як сапраўдны вясковы жыхар, Максім быў стрыманы ў сваіх пачуццях, а тут ён не мог стрымацца: пры-

ставіў лыжы да сцяны, абняў маці за плечы, прыхінуў да сябе.

— Нічога, мам, я скора вярнуся. Паўтары гады засталося. Прамільгне і не ўгледзіш.

— Ой, сынок мой любы, многа вады ўцячэ за еткі час... Хоць бы ўсё было добра... Хоць бы ціха на свеце...

## V

На флоце пачыналіся вучэнні. У любы час лодка магла выйсці ў плаванне. Адкладваць болей Максім не мог. Адвячоркам, выбраўшы вольную хвіліну, перачытаў свой першы ліст, які падаўся цяпер грубым, нязважлівым — у ім было поўна жаргонных слоў, быў там і славуты афарызм мічмана: «Лепш не станавіцца на якар...» Перачытаў, пашкуматаў і ўздыхнуў з палёгкай.

У той жа вечар Максім напісаў новы ліст. Яшчэ ніколі ў жыцці ён не пісаў такіх пісьмаў, ніколі не гаварыў «кахаю» і першы раз даверыў прызнанне паперы.

Неўзабаве субмарына выйшла ў далёкі паход. Для гідраакустыка Букаціча пачаліся цяжкія дні. Ён нібы ператварыўся ў слых. І ў час адпачынку пасля вахт, калі званілі клапаны вентыляцыі, яму здавалася, што гэта аднекуль з глыбіні акіяна чуецца кволы, трапяткі і пяшчотны звон школьнага званка. Гэты звон урываўся ў грудзі, і ў душы Максіма выспявала надзея. Служыць яму засталося трохі болей года, а калі пайсці ў інстытут,— ён цвёрда вырашыў вучыцца,— то наступным летам ён будзе дома.

Максім часта ў думках лаяў сябе, бо зразумеў, што сам навыдумляў усяго благога пра Ніну: хіба гэта дрэнна, што фарбуе вейкі? Мо яна дзеля яго старалася! А калі слухала Рыпку і сціснула вусны — мо

яна ледзь стрымалася, каб не заплакаць? А што пісьмо было іранічнае, з мноствам двукоссяў, дык яна ж першая напісала і за іроніяй хавала свае пачуцці... А цяпер? Цяпер яна можа не паверыць яму. Хіба ж ведае яна, колькі ён думаў пра яе, хіба яна можа ўявіць тое пакутлівае душэўнае змаганне, тую перамену, што адбылася ў ім. Максіма мучылі сумненні, мучыла ўсведамленне, што калі Ніна і напіша, то ён не скора атрымае гэты доўгачаканы ліст.

Дый ці напіша?

# ВЫСОКІ БЕРАГ

## I

Мікола быў хмурны, сярдзіты: так солодка спіцца пад раніцу, і тут на табе — пабудзілі.

— Ну і соня ж ты,— бурчаў Пятрок.— Сама рыбалка на золку. А цяпер што? Можна сказаць, у пусты край... Сонца ўжо скора выкаціцца. І матацыкл, як на тое ліха, сапсаваўся. Адскочылі б далей куды... На Высокі бераг. А пакуль дойдзем...

— А мо яшчэ і зловім што,— нерашуча азваўся Мікола.

— Чорта лысага зловіш... Мусіць, гуляў позна? Ці не аграномка цябе затрымала? Дзеўка яна цёплая...

Мікола маўчаў і злаваў на сябе, што не прачнуўся раней, а зрэшты, мог і зусім не класціся: прыйшоў з гулянкі позна — сапраўды праводзіў аграномку. Успомніўшы пра яе, павесялеў і борзда засігаў услед за Петраком, ступаючы ў яго зялёныя сляды.

А навокал трава была сівая ад расы. Неба на ўсходзе налілося чырванню, ружовыя аблачынкі віселі, быццам падсвечаныя парашуты. Туман над рэчкай ужо радзеў і бялёсымі ватнымі касмылямі плыў уніз па цячэнні. А за туманам, на тым беразе ракі, рэзка, гучна крумкалі жабы, шчыраваў дзяргач.

Падышлі да ракі. Ад цёплай вады дыхнула рыбай, водарасцямі, аерам. Пятрок адразу ўзяўся за спінінг. Мікола закінуў вуду на акуня і заціх у чаканні, не зводзячы вачэй з паплаўка. Раптам недалёка, за кустом, пачуўся моцны ўсплёск, потым яшчэ і яшчэ — адрывіста, хлёстка, нібы страляў сваёй пугай пастух.

— Ці не сом гэта?

— Ды не. Ляшчы труцца. Нераст,— абыякава кінуў Пятрок.

Мікола падкраўся да куста. На сярэдзіне ракі вада нібы кіпела. У вірлівым вадавароце раз-пораз выторкваліся шэра-зялёныя спіны рыбін. Ад магутных усплёскаў, як хто пляскаў вяслом, кідалася ўбакі мальгва.

— От разыйшліся! Бач, як бушуюць,— прашаптаў Пятрок.— Во, каб толу сюды... Скубануць бы! У вас жа ўзрываюць у кар'ерах. Прывёз бы зарад...

— Я... прышлю,— Мікола адмахнуўся ад яго, як ад надакучлівага камара.

Зноў моцны ўсплёск, і серабрыстая рыбіна, шырокая, як дошка, паказалася на паверхні.

— Ух ты! — прастагнаў Пятрок. Яго высокая сутулая постаць напялася, нібы струна, а лупатыя, як у рака, вочы, заблішчалі прагна і востра.— Ах, чорт пабяры! Такі парсюк! Што глядзець, калі не можаш злавіць,— сплюнуў ён ад злосці.— Пайшлі на Высокі бераг.

— Ідзі. Я даганю.

Мікола не мог адысціся ад куста. Відовішча захапіла яго, і ён стаяў як укопаны. Яму здавалася, што ён бачыць кожны плаўнік рыбін і нават бачыць агеньчык у іх халодных, залацістых вачах. Колькі жыццёвай сілы, страсці і неўтаймаванай волі было ў гэтай рыбінай гульні!

II

Тым часам з-за далёкага лесу высунуўся вялізны барвовы дыск. Мікола спрабаваў успомніць, калі апошні раз ён бачыў узыход сонца, потым пачаў лічыць, колькі гадоў бывае дома госцем. Служба, інстытут, работа — дзевяць гадоў ён, Мікола Варывончык, не жыве тут, у сваёй роднай вёсцы — пайшоў у людзі адразу пасля школы. Ён глядзеў на неба: якое яно высокае, пяшчотна-блакітнае, а лес цёмнай зубчатай сцяной нібы падпіраў небасхіл. Мікола зірнуў пад ногі і ўбачыў сінюю траву, што згіналася пад цяжарам расы. А паветра!..

Мікола Варывончык працаваў на вялікім камбінаце будаўнічых матэрыялаў і ўжо даўно прывык да паху сырой гліны, вапны, да грукату разгарачаных прэсаў, а цяпер ён прагна прыслухоўваўся да гукаў майскай раніцы, быццам піў паветра, якое пахла аерам, рыбай і расой. Ад незадаволенасці, з якой выходзіў з дому, не засталося і ценю. Цяпер светлая радасць перапаўняла яго.

— Хутчэй сюды, Мікола! Шчупака злавіў,— данеслася з-за павароту ракі.

Мікола зматаў вуду і пабег па сцяжынцы праз бераг.

Гадзіны праз дзве ў вядры плюскалася з дзесятак акунёў і тры ладныя шчупакі. Сонца падымалася ўсё вышэй і прыпякала мацней. Мікола зняў куртку, кашулю, прылёг.

— Пятрок! Адпачні крыху. Усю рыбу ўсё роўна не паловіш. А на юшку ўжо хопіць.

— Не бяруцца, гады. Я б іх павыцягаў усіх...

Мікола прыўзняўся і доўга глядзеў на Петрака. Рослы, цыбаты, невялікая галава пад чорнай выгаралай кепкай, цёмны, таксама палінялы, пінжак, шэрыя штаны, запраўленыя ў высокія гумовікі. На яго непры-

кметным, невыразным твары вылучаліся вочы — вялікія, шэрыя, вытарашчаныя — вылапокія, як гаварылі ў вёсцы.

«І за што яго сястра ўпадабала?» — падумаў Мікола. Прыгадаў, як маці хваліла зяця: гаспадарлівы, працавіты, за што ні возьмецца — усё зробіць: і шафёр, і трактарыст і камбайнер, і калі не едзе дамоў, дык нешта вязе. Мікола даўно прыкмеціў, што ў зяця доўгія, шырокія ў касці рукі, моцныя вузлаватыя пальцы. Гэтыя рукі ведалі ўсялякую працу, шмат што ўмелі рабіць, яны былі нястомныя.

Пятрок быў заядлым рыбаком. Ён лавіў брэднем, на спінінг, вясною, як спадала паводка, ставіў нераты, у цёмныя восеньскія ночы хадзіў на чаўне «з казой» — ліхтаром і восцямі.

З-за кустоў вынырнуў узрушаны, усхваляваны Пятрок. У руках ён трымаў вялікага сіне-зялёнага шчупака з бялёсымі плямамі, і задаволена ўхмыляўся:

— Кілаграмы два пацягне, га?

Шчупак выгінаўся, горбіўся. Пятрок зламаў яму «шыю», паклаў каля вядра і ўкленчыў над рыбінай: радаваўся ўлову.

— Слухай, Пятрок, ты ніколі не задумваўся, што рыба скора можа зусім знікнуць? Ты сам кажаш, што яе стала меней.

— Нічога. На наш век хопіць.

— Мы ж яе нішчым, каму як уздумаецца. І ніякі рыбнагляд у гэтай глушы не прышчэміць.

— Го-о! Чорта з два ён мяне зловіць. Так я яму і папаўся.

Мікола зірнуў на Петрака і адразу прыгадалася: невялікі пакой, у якім мясцовыя артысты развучвалі песні — рыхтаваліся да агляду мастацкай самадзейнасці. У калідоры тоўпіліся дзеці. Быў тут і Мікола Варывончык. Акампанаваў спевакам выкладчык фізічнага выхавання Хведар Ігнатавіч Муравейка. Тоўстыя

валасатыя пальцы лена цiскалi гузiкi баяна. А ў адчыненыя вокны нёсся птушыны спеў: у старасвецкiм парку галёкалi галкi, гракi, свiсталi шпакi.

— Ну й разышлiся, гарлапаны! Заглушаюць музыку, каб на iх... Зачынiце вокны! — не вытрымаў Муравейка.

Пасля рэпетыцыi Муравейка выйшаў на вулiцу з малакалiбернай вiнтоўкай.

— Зараз арганiзуем аблаву. Па гнёздах трэба лупiць. Там птушаняты. Меней будзе гэтых гарлапанаў.— Муравейка зарадзiў стрэльбу, задраў галаву ўгору i стаў углядацца, вырашаючы, з якога гнязда пачаць.

Непадалёк шчыльнай цiкаўнай купкай стаялi дзецi. Муравейка азiрнуўся, трохi пасвiстаў, надуваючы тугiя, гладка паголеныя, шызаватыя шчокi, усмiхнуўся.

— Ну, хто самы трапны? Хто можа пацэлiць? — звярнуўся ён да дзяцей.

— Варывончык! У яго бацька — паляўнiчы,— крыкнуў нехта.

— На, Мiколка, паспрабуй. Паглядзiм, якi ты цалок.

Хлопчык узяў стрэльбу, падвёў ствол пад гняздо i яму раптам прымроiлiся голыя жаўтаротыя птушаняты, здалося што чуе iх жаласлiвы пiск. Вочы хлопчыка быццам заслала гарачым туманам.

— Не буду страляць! Не магу!..

Мiколка павярнуўся i пабег у парк.

— Варывончык! Стой! Зараз жа спынiся! — крычаў Муравейка.

Але хлапчук бег, не азiраючыся. Муравейка кiнуўся наўздагон. Неўзабаве ён схапiў хлопчыка за каўнер, адабраў стрэльбу.

— Ты што, звар'яцеў?

— Гэта вы звар'яцелi! Вы! Вы!..

Хлапчук нібы давіўся словамі і нічога не мог болей вымавіць. Муравейка моўчкі стаяў, цяжка дыхаў і са здзіўленнем глядзеў на Міколку. Потым павярнуўся і, сутулячыся, нетаропка пасунуўся да школы.

Міколка бачыў здалёк, як узяў вінтоўку цыбаты вылапокі Пецька і пачаў меціцца. Стрэлу Міколка не чуў: ён закрыў далонямі вушы і памчаў дахаты...

— А помніш, Пятрок, быў у нас фізрук... Муравейка?

— Чаму ж не, помню. Ён даўно некуды з'ехаў... Помню, як ты кінуўся вопрамеццю з ягонаю стрэльбаю. От было смеху...

— А больш ты нічога не помніш?

Пятрок спахмурнеў, памаўчаў, сярдзіта кінуў:

— Ат, ёсць пра што гаварыць... Малы быў... Дурны.— І зноў узяўся за спінінг.

— Ды хопіць табе ўжо лавіць. Пакінь на другі раз. Ты ж тут жывеш. І дзеці твае будуць жыць... Перадыхні. Паглядзі, якое неба! Ты хоць раз бачыў, як растаюць аблокі? А паветра, вада, сонца! Бяры, колькі хочаш. І без усякай згубы прыродзе... А салаўі, чаромха!..

— Хм... Салаўі, чаромха,— ухмыльнуўся Пятрок.— Няма калі мне гэтым любавацца. У мяне — сям'я, дзеці. Іх карміць трэба. Сонца не ўкусіш — яно далёка.

— Дык няўжо ж табе не хапае? Зарабляеш нямала. Валя на ферме атрымлівае не менш.

— Я не кажу, што нам не хапае.— Пятрок адклаў спінінг і, пакусваючы травінку, гаварыў далей: — У нас ўсё ёсць. І халадзільнік і матацыкл. На «Масквіча» заняў чаргу. Тэлевізар апошняга выпуску...

— Не дужа ты ім цікавішся.

— Зімой глядзеў. Цяпер няма калі. Вось так, браце... Тут у нас неяк быў сход. Выступаў старшыня калгаса. Новы ж у нас цяпер, малады, здаецца, галавасты

мужык. Дык ён, значыць, гаварыў, што вёска наша не перспектыўная. Перанясуць яе ў цэнтр калгаса, у Вішнёўку. А там пабудуюць два-тры дзесяткі цагляных дамоў і ўсіх паселяць. Будзе водаправод, ацяпленне, каналізацыя. Во, калі ўжо ў тэлевізар нагледжуся.

— Будаваць вам, канечне, трэба... Я магу прыехаць на падмогу...

— Ага, прыедзеш ты. На рыбалку, пазагараць... Многа вас такіх прыехала. Думаеш, аграномка доўга заседзіцца? Пакуль яшчэ вучыцца ў акадэміі, можа, і пабудзе. А як скончыць — толькі яе і бачылі. Захоча быць галоўным аграномам, або ў горадзе куды ўточыцца... Калі б замуж выйшла, мо і асела б тут.

— Так і зробім. Выдадзім яе замуж,— усміхнуўся Мікола, падняўся і пайшоў паўз бераг.

Дыхнуў вецер і пагнаў па вадзе дробныя хвалі-зморшчынкі. Сонца прыпякала ўсё мацней, і Міколу захацелася выкупацца. Ён скочыў з абрыву на пясчаную водмель і застыў ад нечаканасці: чорным ценем мільгануў вялізны шчупак, які стаяў у траве ля берага. Выскокваючы з вады, мальгва пырснула ва ўсе бакі, а самы порсткі акунёк пляхнуў на бераг і трапятаўся, падскокваў, набліжаючыся да вады. Мікола накрыў яго далонямі, узяў за жабры, падняў:

— Пятрок, глядзі, які акунь вымахнуў на бераг!

— Ого, ладны акунёк! Цягні яго ў вядро. Сёння нам шанцуе,— адказаў той, круцячы катушку спінінга.

— Зараз, абмыю толькі. Ён увесь у пяску.

— Давай сюды. На патэльні абмыецца.

Мікола апусціў акуня ў ваду, падумаў: «А ты, брат, прыгажун». Пальцы трохі аслаблі, потым яшчэ, і вось ужо акунёк вольны.

— Ну, пайшоў!..

Акунёк, аднак, не скрануўся з месца, стаяў у нерашучасці. Урэшце страпянуўся, ляпнуў хвастом у да-

лонь і жыгнуў у каснікі, якія варушыліся, уздрыгвалі, нібы плынь расчэсвала іх, і яны нагадвалі конскую грыву. Мікола ўвайшоў па пояс у раку і пачаў мыцца, шумна плёскаючы вадой.

— А дзе ж акунь? Ты што, упусціў? — спытаў Пятрок.

— Уцёк, каб яго ліха,— усміхнуўся Мікола.

— Эх ты, разява. За жабры трэба было трымаць.

«Цябе самога б узяць за жабры»,— падумаў Мікола, а ўголас сказаў:

— Дзе ён дзенецца. Пападзецца на вуду мне. Як прыеду сюды назусім,— бухнуўся ў ваду і паплыў на той бераг.

## III

Увечары Мікола выйшаў за агароды. Сонца ўжо закацілася за лес, а над полем яшчэ дружна спявалі жаўрукі. Мікола акінуў паглядам вёску, што шырока і вольна расцягнулся па абодвух баках дарогі, апранулася ў зяленіну бяроз і таполяў, выставіла ў неба тэлеантэны, быццам хацела пачуць пра сваю будучыню.

Мікола задумаўся і не заўважыў, як падышоў Пятрок, стаў побач.

— Слухай, ты... знарок адпусціў таго акуня? — глуха спытаў ён.

— Якога акуня? — здзівіўся Мікола.— Ах, таго...— і не мог стрымаць усмешку.

— Глядзі, як наша вёска раскінулася. На добрыя два кіламетры. І месца такое. Рака, лес, поле, сенажаць. Усё пад бокам. Удалае месца выбрана,— Пятрок трохі памаўчаў. І зноў: — Вось перасяляць нас у цэнтр... А тут застануцца адны прысады. Быццам і не жыў ніхто. Дзяцей не гадаваў, баб не любіў. А тут жа наша карэнне...

— З нашай вёскі выйшлі акадэмік, генерал, народны артыст... Канечне, зробяць некалі музей...

— Дык ці ж ён заменіць усё? — сказаў Пятрок з нечаканым хваляваннем.

Цішыня ападала на засынаючыя палі. Ад рэчкі даносілася звонкае крумканне жаб, над вухам надакучліва і тонка звінелі камары. Дзесьці на ўзлужжы азваўся дзяргач, а потым ударыў салавей.

Дзве постаці яшчэ доўга цямнеліся сярод поля.

# ЧАЛАВЕК НАРАДЗІЎСЯ

## I



апрадвесні надараюцца цудоўныя светлыя дні, калі адтае зямля, набрыняюць крамяныя пупышкі. Тады і ў душы чалавека, нібы тыя пупышкі, спеюць таемныя жаданні.

У такі дзень інжынер Вадзім Мялешка дабіраўся да вёскі. Ноччу ён зусім не спаў, а калі развіднела, яму так захацелася праведаць сваякоў, што не мог заставацца больш у інтэрнаце. Ногі самі панеслі яго на вакзал. Адтуль пазваніў Шуры. «А што здарылася? Білеты ж прападуць. Іх так цяжка было дастаць...» — у сонным голасе дзяўчыны чуліся крыўда і раздражнёнасць. «У мяне праз твае фокусы таксама не раз прападалі білеты»,— падумаў ён, але ўголас сказаў: «Потым усё растлумачу».

На імгненне ўявіў, які пярэпалах узнімецца ў доме будучай цешчы: учора падалі заяву, цалюткі вечар ламалі галовы, як справіць вяселле, а сёння жаніх некуды з'ехаў.

Малады, цыбаты, у высокіх гумовіках, з рукзаком за плячыма крочыў Вадзім шырока і лёгка. На полі снегу ўжо не было, а на дарозе ён яшчэ чарнеў брудна-зялёнымі крыгамі, і дарога нагадвала раку ў час крыгалому. Вадзім увайшоў у лес і неўзабаве ззаду

пачулася вуркатанне матора: даганяў «Беларусь» з прычэпам, той самы трактарок, які чакалі жанчыны ў гарадку — аўтобус не хадзіў, бо дарога не падсохла.

Трактар прагрукацеў міма, а з цялежкі памахала дзяўчына ў блакітнай вязанай шапачцы: у яе пытаўся ён, калі пойдзе трактар. «Сёння пойдзе. А калі, не ведаю»,— адказала яна. «Шкада, не прыкмеціў раней блакітную шапачку. Прагаласаваў бы», — падумаў Вадзім.

У вёсачцы, ля калодзежа, дзе дарога раздвойвалася, трактар спыніўся. «Блакітная шапачка» злезла з прычэпа і павярнула ўлева. Дзяўчына была яшчэ недалёка, калі Мялешка дайшоў да павароту. Нечакана яму вельмі захацелася пайсці за ёю, але ён перасіліў сябе і прамінуў паварот. «А чаму б і не пайсці? Па гэтай дарозе таксама патраплю ў Загорцы. Падумаеш, лішнія дзве вярсты. Вярнуцца, ці што?» — раздумваў Вадзім. І тут за крайняй хатай убачыў вузенькую сцяжынку, што бегла па мокрай, жаўтавата-белай траве, сярод якой прабіваліся кволыя зялёныя парасткі, і выходзіла на тую дарогу. Хлопец нейкі час стаяў у нерашучасці. Пасля, смеючыся, рушыў па сцяжынцы.

Неўзабаве ён выйшаў на дарогу і наддаў крок, каб дагнаць незнаёмку. Ісці тут было цяжэй. Дарога вузкая, снег набрынялы вадой, як каша. Дзяўчына азірнулася, пайшла трохі павольней, ці гэта проста здалося хлопцу.

І вось яны параўняліся.

— Мабыць, нам па дарозе? Як вы думаеце? — зухавата спытаў Вадзім.

— Не ведаю. Усё можа быць... А вам куды? — уважліва зірнула на яго дзяўчына.

— Мне ў Загорцы.

— Дык навошта ж вам кругаля даваць?

— А што? Я магу і цераз Уладзівасток трапіць у Загорцы.

— Вось вы які! — не то здзівілася, не то проста пажартавала дзяўчына.

Яна расчырванелася ад хады, з-пад шапачкі выбілася пасма каштанавых валасоў, цёмныя бровы і такога ж колеру доўгія вейкі, з-пад якіх пазіралі глыбокія і чыстыя, як марская вада, вочы. І ўся яе звабная постаць была лёгкай і мілай. Вадзім напрасіўся паднесці сумку. Дзяўчына згадзілася, але сказала, што зручней несці ўдваіх — сумка цяжкая. Ён узяўся за адну ручку, яна — за другую, так і неслі. Памалу разгаварыліся, пазнаёміліся. Звалі яе Марынай. Яна ткачыха, працуе на тэкстыльнай фабрыцы, едзе да маці. Вадзім сёе-тое расказаў пра сябе: маўляў, родам ён не адсюль, едзе да сваякоў, працуе на заводзе электронна-вылічальных машын.

Прайшлі яны так ўжо не кіламетр і не два, і Вадзім міжволі думаў, што скора Канічы, дзе жыве Марыніна маці, а яму не хацелася развітвацца з нечаканай спадарожніцай.

— Куды вы так спяшаецеся, Марына? Дзень цудоўны такі!.. Толькі і быць вось так, як мы зараз, у дарозе. А лес які вакол!

— На жаль, трэба спяшацца... Так засумавала па сыне. Ён тут, у маці. Два тыдні не бачыла. Як ён там? Ці здаровы? Гатова бегчы... А што ж адзін едзеце? Мінулы раз вы былі з дзяўчынай... А мо гэта жонка ваша? Яна спала ў вас на плячы. Я тады падумала: добрая пара.

Вадзім адчуў, што чырванее, і, каб схаваць гэта, адказаў жартам: маўляў, не кожная спадарожніца — жонка, так як не кожная жонка — спадарожніца. Тым больш надзейная. І што не варта браць прыклад з планет і лічыць за спадарожнікаў тых, хто круціцца вакол: ён пакуль вольны як птах.

Марына ўсміхнулася, але нічога не сказала.

— Але ж тая мая паездка была даўно... Дальбог,

не помню, калі гэта я так ехаў. Вярнуся на працу, падключу электронна-вылічальную машыну. Яна ўсё і нагадае мне. Не верыце? Калі хочаце ведаць, у яе тры памяці. Так, так,— пацвердзіў Вадзім, хоць Марына і не пярэчыла.— Асноўная памяць — помніць усе праграмы. І што дзе ляжыць, на якой палічцы. Лакальная памяць — гэта рабочыя рэгістры працэсара... Працэсар, што такое? Гэта — ядро машыны, так сказаць, сэрца яе. І трэцяя памяць — мультыплексная. Яна помніць так званыя кіруючыя словы...

Спадарожніца слухала з цікавасцю, тое-сёе перапытвала, і гэта яшчэ больш натхняла Вадзіма. Ён пачаў расказваць пра мадэль, над якой працуе яго група, што новая мадэль уваходзіць у адзіную сістэму вылічальных машын трэцяга пакалення і што гэтая сістэма, нібы нябачны ланцуг, злучыць усе гарады, калі машынам Мінска ці Гомеля будзе мала работы, іх падключаць на падмогу суседзям...

Яны так захапіліся размовай, што не ўгледзелі, як наблізіліся да Канічаў. У канцы вёскі, ля крайняй хаты, спыніліся.

— Вось я і дома. Вялікае дзякуй за дапамогу. І за лекцыю,— усміхнулася Марына.— Мо зойдзеце да нас? Адпачнеце трохі.

За вёскай пачыналася поле, далей цямнеўся лясок, а там — і Загорцы.

— Не, дзякуй. Ужо недалёка... Бывайце здаровы.

Ён ямчэй ускінуў рукзак і пашыбаваў. Азірнуўся — Марына стаяла ля веснічак і глядзела ўслед.

## II

Праз паўгадзіны ён быў у Загорцах. Тут жыла яго дзядзіна Анюта. З сынам яе, Паўлюком, Вадзім працаваў на адным заводзе. Вадзім і Паўлюк былі не толькі браценікі, а і вялікія сябры. Хата ў Анюты —

пяцісценка, пафарбаваная ў жоўты колер. Вадзім адчыніў веснічкі, сігануў цераз лужынку, што сабралася пад імі, і апынуўся перад дзвярыма, на якіх... вісеў замок.

«Вось табе і маеш! Мо да суседзяў пайшлі?» — падумаў Вадзім. Ён зняў рукзак, і тады толькі адчуў, як добра навярэдзіў плечы; патупаў па двары, пастаяў ля веснічак. З хаты насупраць выйшла старая Гаўрыліха.

— Вой-вой, глядзі-ка, Вадзім заявіўся! — здзівілася яна.— Анюта чакала вас учора. Ніхто не прыехаў, дык сама ў Мінск матанула. Заходзьце да нас. Што вы там будзеце рабіць?

— Мне і аднаму не сумна. Ключ у вас?

— Ключ у паветцы, пад мехам. Зараз я прыйду. Карову падаю ды свінчо накармлю,— сказала Гаўрыліха.

Гэта ўжо цікава, падумаў Вадзім, прыехаў у госці! Зрэшты, сам вінаваты. Калі званіў Паўлюк, пытаўся, ці паеду, дык адказаў, што ў суботу працую.

Вадзім знайшоў ключ, адамкнуў замок. У хаце было чыста, на падлозе ляжалі даматканыя паласатыя палавічкі. Ён сцягнуў боты, зайшоў у другі пакой, сеў на канапу, з асалодай выцягнуў натруджаныя ногі, заплюшчыў вочы. Два тыдні назад ён сядзеў тут з Шурай...

Увушшу звінела ад цішыні. На вуліцы прагарланіў певень, бразнула клямка — прыйшла Гаўрыліха.

Неўзабаве Вадзім піў сырадой і думаў: як добра, што прыехаў, добра, што пайшоў другой дарогай — інакш ён сустрэў бы дзядзіну і некаму з іх давялося б вяртацца назад.

— Ну, вось і ўсё. Гаспадарка дагледжана. Прыходзьце да нас вячэраць. Аднаму ж будзе маркотна... І халадэча ў хаце, хоць ваўкоў ганяй... Калі не лянуецеся, дык прапаліце троху грубку. Цяплей будзе.

А то і праўда, прыходзьце да нас,— запрашала Гаўрыліха.

Вячэраць Вадзім адмовіўся: не стаў турбаваць старую. Улетку ён пасабляў ёй рабіць кольцы для калодзежа. Прыйшла тады яна, Гаўрыліха: «Не хапае аднаго чалавечка. Думала, Павел пасобіць». «Давайце паспрабуем. Толькі я ніколі не бачыў, як гэта робіцца»,— сказаў Вадзім. Папрацаваў ён тады шчыра. Затое ж і частавала Гаўрыліха работнікаў сваіх няблага.

Вадзім прынёс дроў, распаліў грубку. Аблетавыя дровы, сухія, што порах, гарэлі зырка. Ён сядзеў на маленькім услончыку ля грубкі, глядзеў на агонь, чуў, як прыпякае ў калені. На душы было ціхамірна і светла, радасць ад цішыні і адзіноты нібы поўніла яго істоту. І гэтая радасць была яшчэ большай ад неспадзяванкі. Раней, калі Вадзім прыязджаў сюды, у доме быў вэрхал, гойсалі дзеці Паўлюка або Валі — дачкі дзядзіны. А тут такая ўсеабдымная цішыня! Адно весела патрэсквалі дровы. У сенцах бразнула вядро, адчыніліся дзверы. На парозе паўстаў сусед Гаўрыла Антонавіч, высокі, мажны стары, падаў шырокую шурпатую далонь, павесіў на цвік рыжую шапку-аблавушку, звыклым рухам прыгладзіў вусы.

— Што ж ты не прыйшоў вячэраць, га? Пасядзелі б троху. Па чарцы зрабілі б... Хаця, і тут можна, га? Няма? А ты пашукай-ка. Вунь у тым шкапу, за перагародкай, на кухні.

Жаласліва рыпнулі дзверцы старадаўняй, паточанай шашалем, шафы, і Вадзім убачыў бутэльку гарэлкі. Збоч на талерцы ляжаў кавалак сала і кружок каўбасы. Наліў Гаўрыле поўную чарку, сабе палову.

— Налі паўней. Хоць па Марусін паясок,— стары паказаў шызаватым пазногцем на ружовую палоску на шклянцы.

— Марусін паясок? Добра, так і быць. Дальём.

Выпілі. Стары дзеўбануў відэльцам скрылёк сала, пажаваў.

— Табе маркотна будзе аднаму. Ён зваў Вадзіма на «ты», як свайго, пасля той работы ля калодзежа ўлетку — мабыць, сапраўды нішто так не збліжае людзей, як сумесная праца.

— Нічога. З маладзіцай было б лепей,— пажартаваў Вадзім.— Ды дзе ж яе шукаць?

— Га, толькі свісні... Гэта некалі знайсці жонку было няпроста. Іх-то хапала. Ды ўсе бедныя. А кожны хацеў пасаг нейкі ўзяць. З галечы выбіцца.

Тым часам Вадзім напоўніў чаркі, якраз па Марусін паясок.

— Пападзе табе за гарэлку ад Анюты,— паківаў галавой стары, падміргнуў і кульнуў чарку, адламаў кавалачак хлеба, панюхаў.— Паехаў я неяк у Вішнёўку. Вёска такая за Канічамі, і ўбачыў там Зосю. Як кінулася ў вочы — усё. Не магу. Кажу бацьку: засылай сватоў. Бацька пранюхаў і гаворыць: беднаватая нявеста, ды сёе-тое можна ўзяць. А я ў адну душу: не трэба мне нічога — толькі Зосю. Ну, ажаніліся. Разам жылі з бацькамі. Працавалі з цёмнага да цёмнага. А беднасць — хавай божа! А вайна ідзе, царская яшчэ. Забіраюць мяне ў войска. Зося валасы на сабе рве, па зямлі поўзае. Хавай божа!..

Вадзім зноў узяўся за бутэльку, каб падвесяліць сумныя ўспаміны старога.

— Ох, хлопча, будзе табе прачуханка ад гаспадыні. Ну, апошнюю. Налівай паўней, каб не пэцкацца болей. Хопіць,— Гаўрыла махнуў рукой, нібы сціраючы ўсё са стала.— Я ж, братка, два Георгія меў... Здаў у рэвалюцыю на карысць рэспублікі. Во, як было,— стары памаўчаў, пазяхнуў.— Дзед мой таксама меў ардзяны, ён з туркамі ваяваў, Балгарыю вызваляў... Таварыш у яго быў з-пад Мугулёва. Гаўрылам зваўся. Дык ён і ўратаваў майго дзеда. Параненага вынес.

З поля бою, значыцца. А сам пазней загінуў. На руках у дзеда майго і кончыўся... Таму і назвалі мяне Гаўрылам.

— Я ж таксама з-пад Магілёва. І дзядзька мой, Макар, родам з нашай вёскі. У вайну ён з дзядзінай пазнаёміўся...— пачаў быў Вадзім, але стары яго перапыніў.

— Гэта я ведаю. Мы з Макарам часцяком гамонілі. Добры чалавек быў. Праўда, дужа да гарэлкі заядзел. Праз яе, можна сказаць, і на той свет без пары сышоў,— стары ўздыхнуў і раптам дадаў: — Нешта ў хаце прахладна? Зірні, як там у грубцы? Ці можна юшку закласці?

Вадзім падняўся, узяў качаргу. Вуголле даўно пакрылася шэравата-блакітным попелам. Устаў і Гаўрыла. Зірнуў у грубку:

— Ага! Усё счахла. Можна зачыняць,— ён тупаў па хаце, пакуль Вадзім зачыняў юшку, а потым зноў сеў да стала, і зноў яго пацягнула на ўспаміны:

— Вось ты, хлопча, пра вайну адно з кніжак ведаеш. Ну, у тэлевізары паказваюць. Але ці ж пра ўсё пакажуць? Ой, братка, хапіла ліха, хавай божа. Пяцёра дзяцей пры нас, двое на хронце. Я сувязным быў, партызанскім. Асобы аддзел брыгады мне заданні даваў. У раён ездзіў я часта. Прыкмячаў, дзе якія дзоты зроблены. Якія часці праходзяць. Замячаў знакі на радыятарах — арол, каза ці шчэ што. А партызаны ўжо ведалі, якая часць. А тады, як усчалася блакада — хавай божа! Дзецца недзе. Зося цэлы тыдзень марнавалася з дзецьмі на возеры Палік. Во, куды занесла. Ох, і напакутвалася яна!.. Жонка ў мяне — дай бог кожнаму. Хоць, бывае, і пасварымся, не без гэтага, але лепшай не знойдзеш. Цяперака, во, маладыя, то сходзяцца, то расходзяцца. А толку? Калі ўжо натрапіўся чалавек, дык шанаваць трэба. Баба, яна ласку любіць,— падміргнуў стары.— Мая Зося нацяр-

пелася горачка... А мяне такі злавілі ў блакаду. І везлі на расстрэл. Дык я з машыны — ды ў кусты. Як пачалі смаліць з аўтаматаў! Але не падстрэлілі. Уцёк. Усяго было, Вадзімка... Сыны з хронту не вярнуліся. Абодва загінулі. Адзін пад Ленінградам, а другі аж пад Варшаваю. Капітанам быў. Камандзір... А трэці сын утапіўся. Пасля вайны ўжо. Прывезлі ў вёску, труну не адчыняюць... Наш сын Міхась. А тут яшчэ быў адзін, Міхась Гарбовіч. І ў адным горадзе яны жылі. Мая Зося і маці таго Міхася ўскараскаліся на машыну і давай галасіць. Мяне дома не было. Зося пазней расказвала: «Плачу на ўсю галовачку. «А мой жа ты, сыночак...» Душа разрываецца. Плачу і думаю: а мо гэта не мой? Трохі адпусціць...» А калі знялі века, дык Зосю ледзьве адцягнулі ад труны... Чатыры сыны было, як дубы. Адзін застаўся. Ну, і тры дачкі жывуць. Усе разляцеліся. Адны мы з бабай. Праўда, меншая дачка тут блізка, у раёне, ды і сын недалёка. Пасабляюць патроху.— Дзед Гаўрыла змоўк, задумаўся, быццам забыўся пра Вадзіма, потым прыгладзіў вусы і гучна сказаў: — Цяперака, братка, што за жыццё настала! Не было такога і не будзе. Што ты, хавай божа! «Скорая помач» — патэлефануй, адразу прыляціць. Калі б раней, за польскім часам, прыехаў лекар — паўкаровы рыхтуй. А цяперака — жыві і паміраць не трэба... Вось за гэта давай і вып'ем,— Гаўрыла падняў чарку, чокнуўся з Вадзімам, выпіў, закусіў, і, нібы пытаючыся, сказаў: — Чаму я такі шчаслівы? Кожны дзень думаю. Успамінаю. Даўно маглі б забіць, а я жыву і гарэлку п'ю. І яшчэ пажыву. Надта добрае жыццё стала... Яшчэ ў царскую вайну былі ў нас паліцыканты. Дык гаварылі, нібыта Ленін пісаў: мы вырасцім сад, у ім будуць і дзічкі пракідацца, і пустазелле. Трэба праполку рабіць. Ды і баба ж мужу добра прасявае... Ат, задурыў табе галаву, Вадзімка. Бачу, цябе на сон хіліць. Мусіць, гуляў ноч? Што ж,

дзела маладое... Абы вайны не было. А так усё добра будзе. Пайду ўжо. Зося адна, чакае там...

Вадзім правёў старога да веснічак, пахадзіў па двары. Ноч была светлая, ядраная. Нідзе не чулася ні гука. З высокага неба маўкліва пазіралі зоркі, нібы прыглядаўся да зямлі жаўтавокі месячык. «Жыццё ці смерць?» — так Вадзім вучыў Шуру адрозніваць малады месяц ад старога. Калі месяц нагадвае першую дужку літары «ж» — значыць, малады, а калі другую — стары. На гэты раз месячык быў малады. І Вадзім здзівіўся, што яму зусім не хацелася думаць ні пра Шуру, ні пра яе бацькоў.

Вадзім доўга ўглядаўся ў неба. Раптам ён застыў ад здзіўлення: у «каўшы» Вялікай Мядзведзіцы паблісквала пятая зорка. Яна свяцілася мяккім ружовым бляскам і павольна рухалася. «Дык гэта ж спадарожнік»,— здагадаўся ён.

Доўга стаяў на двары, аж пакуль не прабралі дрыжыкі.

## III

Прачнуўся Вадзім рана. У хаце нібы плаваў сівы паўзмрок. Выйшаў на вуліцу. У ранішняй цішы адразу пачуў балбатанне цецерукоў. Адзін спяваў — быццам нехта выліваў з бутэлькі ваду, за пералескам, дзе дарога ішла на Канічы, а другі падаваў голас за курганом, што быў парослы хвойнікам. Неба над курганом набрыняла чырванню — узыходзіла сонца.

Вадзім выбраў другога. Хуценька абуў боты, апрануў фуфайку, узяў акрайчык хлеба, і па вузкай дарожцы выйшаў у поле. Справа, паўз курган, цягнуўся лес, злева зелянела жытняе поле. Цецярук спяваў зусім блізка. Вадзім асцярожна высунуўся з кустоў і ўбачыў яго: метраў за паўтараста сярод поля, нібы прывязаны, круціўся на адным месцы чорны птах, і

няспынна гучала песня. Буркатаў цецярук раз'юшана, апантана.

Тым часам над лесам узышло сонца. Сівая ад інею рунь заіскрылася кропелькамі расы. Вадзіму надакучыла стаяць у хмызняку, ён памалу высунуўся на дарогу. Цецярук залапатаў крыламі і знік у лесе, адкуль зноў пачулася яго балбатанне. Вадзім сеў на камень-валун, які з аднаго боку яшчэ быў мокры ад расы, дастаў хлеб і пачаў есці. Хлеб здаўся духмяны і надта смачны.

І раптам Вадзіму падумалася, што ён сам быў сляпы і глухі, як гэты цецярук... Прыгадаўся той вечар, калі складалі спіс гасцей. Спіс атрымліваўся вельмі доўгі. «Усё патрэбныя людзі. І выключыць няма каго»,— бедавала маці нявесты. «Я б хацеў, каб усё было прасцей. І спіс карацейшы»,— сказаў Вадзім. «А чаму? Мы не бедныя. У нас адна дачка. І я сама ведаю, як трэба рабіць»,— ганарліва надзьмулася «цешча». А «цесць» махнуў рукой: «Давай, Вадзім, у шахматы згуляем. Хай жанчыны самі разбіраюцца».

Ён паважаў Шурынага бацьку — вядомага вучонага, прафесара. З ім было проста і лёгка, можна аб усім гаварыць — прафесар умеў слухаць, і Вадзіму здавалася іншы раз, што гэтага сівога чалавека, з кароткімі, па-сялянску моцнымі рукамі, ён ведае вельмі даўно. Мужчыны выпілі каньяку — «для іскрыстасці», як любіў гаварыць прафесар,— і заселі за шахматы. Настрой у старога быў добры і ён жартаваў: «О, гэтыя жанчыны, толькі дай ім папуску!.. Ускараскаюцца на шыю і пішы прапала... Кубінцы (прафесар нядаўна вярнуўся з Кубы) гавораць: антэс ке тэ касэс міра лё ке асэс. Перш, чым жаніцца, падумай, што ты робіш».— «Ды я падумаў ужо. Быў час»,— усміхнуўся Вадзім.

Прафесар выйшаў у другі пакой па цыгарэты, дзверы кухні трохі прычыніліся, сціхла радыё, і да

Вадзіма данеслася: «Чакай, чакай, дачушка. Сядзеш на яго сто дваццаць рублікаў — не тое заспяваеш. Невялікае што ўхапіла... А Гарык праз год дысертацыю абароніць. Думаеш, толькі і свету, што ў акне... Адно добра — у Мінску застанешся...»

Вадзім застыў у чаканні: што скажа Шура? Яна павінна запярэчыць так маці: кахае толькі яго, і нікога ёй не трэ ı. Але Шура маўчала. Зайграла радыё, шчыльней зачыніліся дзверы. І Вадзіму зрабілася цесна ў прасторнай кватэры з шыкоўнымі диванамі, мяккімі крэсламі і такой моднай прыгожай мэбляю.

Цяпер, седзячы на камені, Вадзім прыгадаў, як пазнаёміўся з Шурай на вечары ў інстытуце і адразу закахаўся. Калі хлопцу ўжо дваццаць шэсць, на кожную сімпатычную дзяўчыну ён глядзіць, як на сваю патэнцыяльную выбранніцу: а раптам гэта яна, тая адзіная?.. Шура вучылася на чацвёртым курсе факультэта іспанскай мовы, захаплялася спортам, асабліва плаваннем. Амаль кожную нядзелю яны хадзілі на лыжах, амаль кожны раз дзяўчына была ў новым світэры. Увечары бегалі на апошнія сеансы ў кіно, сядзелі ў прыціхлай, паўцёмнай зале і цалаваліся.

Усё падабалася яму ў ёй: і зграбная постаць, і гулівая грыўка валасоў, што спадала на лоб, і вялікія шэрыя вочы, і вясёлая бестурботнасць. Праўда, здаралася, што ў Шуры раптоўна пачынала балець галава, калі яны збіраліся ў тэатр — і білеты прападалі. Адзін ён ніколі не хадзіў, і гэта — ён добра бачыў — падабалася ёй. Мабыць, выпрабоўвае сілу сваіх чараў, разважаў Вадзім, і не надаваў гэтаму асаблівага значэння.

Зіма прамільгнула, як у казцы. Ніколі Вадзіму так не працавалася! Часам, забыўшыся, ён спяваў над чарцяжом. Стол яго стаіць ля акна, вялізнага, амаль на ўсю сцяну. У акно добра відзён будынак філармоніі, за якім зімой узыходзіць сонца, здавалася, што

нейкі час сонца, чырвонае, нібы заспанае, ляжыць на даху філармоніі, быццам падслухвае музычныя рэпетыцыі, і толькі потым, адпачыўшы і наслухаўшыся, падымаецца вышэй. Чуючы Вадзімавы спевы, калегі пасміхаліся з яго і дапытваліся, ці скора вяселле. І вось настаў той дзень, калі падалі заяву.

## IV

Гаўрыліха падаіла карову і якраз цадзіла малако, калі Вадзім увайшоў у хату.

— А я сабе думаю, куды падзеўся чалавек? Ці не ўкраў хто яго? — усміхнулася старая.

Вадзім углядаўся ў яе твар, спрабуючы ўявіць, якой была яна ў маладосці, калі кінулася ў вочы Гаўрылу, што той і цяпер не можа забыць яе, маладую. Час пакінуў на твары жанчыны глыбокія барозны, пасерабрыў валасы, але пагляд па-дзіцячаму ясных і чыстых вачэй быў спакойны, мудры і добразычлівы, а твар нейкі на дзіва светлы: мабыць, перажытае гора зрабіла яго такім.

— Чула я, мусібыць, вяселле скора? — спытала Гаўрыліха.

— Свет жа вялікі... Мо і праўда,— з усмешкаю адказаў Вадзім.

— Маладым цяперака толькі жыць. Дзяцей гадаваць ды радавацца. Трэба вам сына. Ды не аднаго...— старая раптам змоўкла, адвярнулася, быццам углядалася ў акно, паднесла да вачэй фартух. Памаўчаўшы, сказала: — Ну, пайду двору. Трэба сваю гаспадарку дагледзець.

Гаўрыліха па-ранейшаму была спакойная, сухія вочы пазіралі задуменна і ясна. На твары яе быццам застыў адбітак вечнасці.

Вадзім успомніў сваю маці і шчымлівая трывога ахапіла яго: як там яна? Увосень маці хварэла на за-

паленне і цяпер кволіцца сэрцам. І ён часта лавіў сябе на думцы: як хто ўвечары пастукае позна ў пакой, яму здаецца, што прынеслі тэлеграму ад бацькоў...

Пасля сняданка ён узяўся сячы альховае суччa — бабскія дровы. Ён клаў сук на калоду і наўскасяк гакаў сякерай з-за пляча. Пасекшы ўсе дровы, увайшоў у хату, уключыў тэлевізар і аж сцепануўся: той загрымеў на ўсю хату. У інтэрнаце заўсёды так грыміць, падумаў ён, і нічога. Развучыўся слухаць.

Была нейкая асалода сядзець аднаму ў пустой хаце і глядзець тэлевізар. Спачатку яго зацікавіла перадача з ГДР пра спаборніцтвы дзяцей, потым ён пасмейваўся, гледзячы мультфільм.

Так ён сядзеў і цярпліва чакаў дзядзіну. Яму карцела дачакацца яе, пачуць, што яна скажа пра Шуру. Зрэшты, і спяшацца не было куды — у панядзелак у яго адгул. Каб прабавіць час, узяўся за кнігу, што ляжала на стале: відаць, чытала перад ад'ездам дзядзіна. Гэта быў раман Вальтэра Скота «Квенцін Дорвард». У школьныя і студэнцкія гады Вадзім чытаў многа, здаралася, праседжваў за кнігай да рання. Але гэты раман прамінуў.

Кніга захапіла. Прывабіў храбры шатландскі рыцар Квенцін, яго палкае каханне да Ізабелы. Дзівіўся Вадзім выхадкам і хітрасці Людовіка Валуа, спачуваў Карлу Смеламу. Да абеда ён праглынуў амаль палову кнігі. «Чаму я раней яе не прачытаў? Здорава напісана!» Яго ўразіла апісанне каралеўскага двара, дзе панавала атмасфера халоднага разліку, улада грошай. Усё гэта так не стасавалася з характарам галоўнага героя. «Мабыць, спрадвеку чэснасць і дабрата павінны былі змагацца з хітрасцю і зласлівасцю,— думаў ён,— і не заўсёды перамагала чэснасць».

Зірнуўшы ў акно, убачыў пеўніка, які біўся з індычкаю. Бойка пачалася, відаць, даўно, бо галава забіякі была ўжо скрываўлена. Індычка, ухапіўшы пеўні-

ка за грэбень, вадзіла яго па двары, сумна і неяк жалобна папісквала, быццам гаварыла: «Надакучыў ты мне, блазнюк. Чаго ты чэпішся?» Вадзім разняў іх, прагнаў на вуліцу індычку, а пеўнік паклыпаў на гародчык. Там, пад вішняком, сцішана і нясмела гудзелі пчолы. Яны нядаўна абляталіся пасля зімы, і на снезе былі відаць аранжавыя плямкі. Вадзім набраў у хляве кош пацярухі і рассеяў ля вуллёў, каб сонца хутчэй з'ела снег.

Пчол завёў дзядзька Макар, родны брат Вадзімавай маці. Ён быў ветэрынарам, добрым спецыялістам, але памалу прыахвоціўся да гарэлкі: ведама, работа такая — злягчаў парсючка — чарка, палячыў рагулю — чарка. Чуў Вадзім, што дзядзька надта раўнаваў сваю Анюту. Да яе, перадавой ільнаводкі, славутай на ўсю рэспубліку, часта наведваліся карэспандэнты, і сама яна ездзіла на злёты, у Маскву на выстаўку. Калі яе не было, дзядзька піў яшчэ болей. Неяк ехаў на матацыкле і разбіўся на смерць. Матацыкл Анюта прадала, а пчол не зводзіла — падкармлівала мядком дзяцей. Перападала трохі і Вадзіму. Дзядзіна добра ставілася да яго, асабліва пасля таго, як ён уладкаваў на завод яе сына.

## V

Сонца ўжо даўно звярнула з паўдня, а дзядзіна не прыязджала. Вадзім схадзіў у лес, прынёс колькі галінак вербалозу з буйнымі мяккімі залацiста-белымі коцікамі, зноў чытаў.

Ужо звечарэла, але ніхто не прыехаў. Вадзім ляжаў на канапе і думаў. Думкі былі розныя. Аб рабоце, аб машынах, увогуле аб жыцці. Нават аб сэнсе быцця і аб лёсе чалавецтва. Аб чым амаль што не задумваўся ў горадзе. Ды і не было калі. Круціўся, што вавёрка ў коле. Раніцай перапоўнены тралейбус,

прахадная, подбегам шпарыў у сваё КБ, вешаў паліто ў металічную шэра-блакітную шафу, па цесным праходзе між сталоў прабіраўся да акна. І пачынаўся рабочы дзень.

Увечары ён часцяком заходзіў у цэх наладкі, дзе стаялі сабраныя вылічальныя машыны — жывое ўвасабленне іх чарцяжоў. Як толькі пераступаў парог, на яго навальваўся своеасаблівы гул цэха: аднастайны, манатонны шум вентылятараў і перарывісты, кулямётны трэск магнітных накапіцеляў, якія глыталі вузкую белую перфастужку. На пультах кіравання працэсараў успыхвалі, мігцелі рознакаляровыя маленькія акенцы, іх было некалькі радоў, і яны нагадвалі асветленыя паверхі высознага дома, і можна было падумаць, што за гэтымі акенцамі нехта жыве. А самі працэсары,— тры састаўленыя ўшчыльную цёмна-сінія шафы, маўкліва і таямніча высіліся сярод сваіх падначаленых — розных шаф і шафачак. Вадзім крочыў паўз машыны, вітаючыся са знаёмымі хлопцамі: амаль усе наладчыкі — інжынеры, ён і сам хоча сюды перайсці, працаваць тут цяжэй, але цікава і большы аклад. Пра гэта ён гаварыў Шуры, і, мабыць, яна сказала тады сваёй маці, маўляў, грошай хопіць, муж будзе больш зарабляць...

Вадзім выходзіў з прахадной, убіваўся ў перапоўнены тралейбус — трэба пераапранацца і паспець на спатканне. А раніцай — зноў на работу. І вось кола спынілася... Ваверка пачала азірацца, прынюхвацца, прыслухоўвацца.

Апынуўшыся адзін у пустой хаце, у малазнаёмай вёсцы, Вадзім да ўсяго прыглядаўся, усё прыкмячаў, радаваўся птушынаму спеву і з асалодай слухаў цішыню. І самае дзіўнае — не адчуваў сябе адзінокім, самотным. У вялікім горадзе, дзе заўсёды вакол людзі, ён зведаў хвіліны куды большай адзіноты. І не раз ён думаў, едучы ў перапоўненым тралейбусе: вось поў-

на людзей, але кожны сам па сабе, як арэхі ў торбе — кожны ў сваёй скарлупцы...

Быў позні вечар. Вадзім чытаў пра шатландскага рыцара, чакаў, ці не бразне клямка. Але на дварэ было ціха. Ён выйшаў на вуліцу. Месячык нагадваў дужку літары «ж», мякка, задуменна мігцелі зоркі. Чарпак Вялікай Мядзведзіцы быў пусты.

Ноччу Вадзіму прысніўся сон. Дзіўны, каляровы.

Вялізная, багата ўбраная зала. Зайграла дзіўная сярэбраная музыка, расчыніліся высокія дзверы і ўвайшлі пажы. У белых штанах, у абліпачку, блакітных, шытых золатам камзолах, высокіх цёмна-сініх шапках, на руках бялюткія пальчаткі. На сініх талерках пажы, па два ў радзе, неслі кожны па ружовым шарыку. Шары нагадвалі навагоднія цацкі, але не каталіся на талерках: трымаліся, быццам намагнічаныя, а пажы пад музыку, рытмічна, падымалі ўгору талеркі, старанна, як на парадзе, выцягвалі ногі, чаканілі крок. Яны ішлі, ішлі, а зале ўсё не было канца. І раптам аднекуль выплыў трон, на якім сядзеў дзед Гаўрыла ў рыжай шапцы, у сіняй фуфайцы, перацягнутай шырокай дзягай. Чырвоная, пакрэплая рука яго сціскала вінтоўку з доўгім гранёным штыком. Вадзім стаў побач, Гаўрыла, як змоўнік, падміргнуў яму, зухавата прыгладзіў вусы. Пажы тэпалі на месцы, паднімаючы ўверх шарыкі, аркестр граў «Марш Чарнамора».

— Чуеш, як граюць? То-та ж! А выходзілі гэтыя байструкі пад «Трыумфальны марш» з «Аіды». Класіка,— пасміхнуўся дзед.— Бачыш, як вымуштраваў іх? Ідуць, як пішуць... Узво-о-од, слухай маю каманду! Сто-о-ой! — гаркнуў Гаўрыла.

Пажы замерлі на месцы. Зрабілася ціха-ціха.

— Ты думаеш, дзе Людовік, ну, гэты самы Валувака падзеўся? Я пад мяккі зад, як даў яму каленам, дык ён і пакаціўся... Гы-га-га!..— рагатаў Гаўрыла.

Нечакана зарыпелі дзверы, і з'явілася «блакітная шапачка».

— Вось ты дзе! А я шукаю. З ног збілася,— працягнула рукі да Вадзіма.— Ну, чаго ж ты, хадзі да мяне.

Раптам з бакавых дзвярэй выйшаў кароль у доўгім парыку, за ім сунулася ягоная світа.

— Гэта яны! Хапайце іх! — тонкім парасячым голасам заверашчаў кароль.

— Назад! Прэч адсюль, халуі буржуйскія! Прэч!

Дзед Гаўрыла з усяе сілы грукнуў прыкладам аб падлогу. Пажы, як па камандзе, упалі на калені, кароль і світа аслупянелі, цененька зазвінелі люстры, а самая вялікая пачала гайдацца. За палацам ударылі гарматы, непадалёку рваліся снарады, люстра гайдалася ўсё мацней і мацней, і раптам грымнулася аб падлогу. Ружовыя асколкі пырснулі ва ўсе бакі. Зала загарэлася, усё ахуталася едкім дымам. Высака на небе плыла ружовая зорка. А на зялёным жытнім полі балбатаў раз'юшаны цецярук...

Тут ён і прачнуўся. У акно свяціла сонца. На двары спяваў певень. Трэба было збірацца ў дарогу.

## VI

Вадзім прамінуў Канічы, увайшоў у лес, калі яго перагнаў старэнькі «іж» з люлькай, у якой сядзела жанчына, бледная, перапалоханая, і войкала. На заднім сядзенні прыляпілася знаёмая Вадзіму «блакітная шапачка» — Марына. Метраў праз сто матацыкл спыніўся. Хлопец наддаў крок. Калі ён падышоў, жанчына ўжо ляжала на абочыне дарогі на фуфайцы і стагнала. Мужчына, ашчаперыўшы галаву, мітусіўся вакол яе.

— Памагай, братка! — кінуўся ён да Вадзіма.— Во, не давёз да бальніцы. Раджае баба... Я толькі з

трактара. І рукі няма дзе памыць. Ой, што будзе! У холадзе, на мёрзлай зямлі. От, ліха якое...

Вадзім распрануў паліто, накрыў парадзіху. Жанчына стагнала, кусала вусны, і ў яе цёмных вачах нібы застылі пакута, роспач.

— Вой-вой, што рабіць? — праз слёзы пыталася Марына.

— Што рабіць? Трымаць трэба? Хіба вы дзіця не бачылі? І без панікі! Чалавек нараджаецца! А вы галосіце! — рашуча сказаў Вадзім. Ён зразумеў, што тут, у гэтае імгненне вырашаецца лёс жанчыны, яе дзіцяці, і слязьмі не дапаможаш. Трэба дзейнічаць! Трэба ратаваць. Ён сарваў з сябе кашулю — белую, даволі чыстую, надзеў, калі ад'язджаў у вёску,— і падаў Марыне.

У гэты час на дарозе паказаўся жоўта-блакітны «рафік», які ішоў з горада. Вадзім спыніў яго. Шафёр, круглатвары таўстун, развёў рукі — маўляў, чым я памагу? Але здаў трохі назад, прыціскаючыся да абочыны. Вадзім, перакананы, што шафёр прыйдзе на дапамогу, кінуўся да парадзіхі.

— Ужо ўсё! Вось яно! — Марына трымала ў руках жывы камячок. Дзіця слабенька крыкнула і змоўкла.

— О, як жа мне цяжка было...— уздыхнула жанчына.— А хто нарадзіўся? Сын ці дачка?

— Не ведаю,— усхліпвала Марына.— Зараз скажу... Сын!

— Сынуля, мой любенькі! — з вачэй жанчыны пакаціліся слёзы.— Чуеш, Янка? Сын у нас!

— Чую, Надзя. Ты малайчына.

— Не магу загарнуць дзіцяці. Трымае нешта! — спалохана сказала Марына і заплакала.

— Гэта пуп. Рэзаць трэба. Перавязаць у двух месцах...— прастагнала парадзіха.

Вадзім азірнуўся, палапаў па кішэнях сябе. Чым перавязаць? Выхапіў насоўку, разадраў яе напал. Па-

куль Вадзім перавязваў, поркаўся з пупавінай, Янка дапытваўся, як яго імя, і адкуль ён.

— А, пляменнік Макарыхі?! Як жа, ведаю яе... Ну, братка, век цябе не забуду! Самы першы госць будзеш!

Страшэнна ўзбуджаны і перапалоханы Янка ніяк не мог запомніць імя Мялешкі і называў яго то Валодзя, то Дзіма, то Міша. Вадзім туга пераціснуў пуп, дастаў з кішэні маленькі сцізорык — брэлок ля ключа...

Марына загарнула дзіця ў кашулю, затым у кофту і паліто. Парадзіху пасадзілі ў люльку, аддалі ёй малога. Жанчына засталася ў адной кофце, і калацілася ад холаду. Вадзім павязаў ёй на шыю свой шалік, паліто ўскінуў на плечы.

— Едзьце хутчэй!

— Я вы як? — спытаў Янка.

— Я дабягу. Не замерзну.

Матацыкл памчаў. Вадзім азірнуўся, каб запомніць гэтае месца, і тут успомніў пра вадзіцеля «рафіка». «Уцёк, нягоднік... Спачатку спыніўся. Але прыкінуў, што давядзецца вяртацца, везці ў бальніцу — крутнуў на бакавую дарогу. Папаўся б ты мне яшчэ раз!..» — сціснуў кулакі Вадзім. Ён адчуў, што пачынаюць прабіраць дрыжыкі — застаўся ў майцы і пуловеры, з голай шыяй, але ў капелюшы, а на дварэ сакавік,— закінуў за плечы рукзак і подбегам пашыбаваў па дарозе.

Угрэўшыся, пайшоў цішэй, дастаў сцізорык — ружовы, бліскучы, ён ляжаў на далоні. «Што б я рабіў,— падумаў Вадзім,— каб не гэты сцізорык?.. Ці моцна я перавязаў? Хоць бы ўсё было добра... Вось дык паездка!»

Вадзім зноў пабег, трушком. Каля вёсачкі, дзе дарога раздвойвалася, сустрэлася машына, у кузаве яе было поўна людзей.

— Адкуль гэткі турыст? — рагатнуў нехта з машыны.

Вадзім нават не зірнуў у той бок, ён адчуваў сябе няёмка, і, як злодзей, прашмыгнуў міма. Неўзабаве дагнаў маладога мужчыну ў паліто з узнятым каўняром. Той здзіўлена зірнуў на незвычайнага падарожніка.

— Во, распранулі ў лесе,— усміхнуўся Вадзім. Мужчына яшчэ больш здзівіўся.

— Як? Хто? Быць не можа...

— Роды прыняў на дарозе. Сын нарадзіўся. Дык во распрануўся, усё аддаў жанчыне. Яе павезлі на матацыкле.

— Што вы кажаце! Вось гэта здарэнне! У лесе нарадзіўся? Будзе асілак,— незнаёмы так светла і хораша заўсміхаўся, што ў Вадзіма пацяплела на душы.

Ля райцэнтра яго сустрэў матацыкл.

— Ну як дзіця? Усё ў парадку? — пытаўся Вадзім у Янкі.

— Усё нармальна. Жывое, здаровае... Сын у мяне, чорт пабяры! — крычаў узрадаваны бацька.

— Што ж, віншую! Хай расце вялікі.— Вадзім моцна пацісну̌ў Янку руку, і яны паехалі.

Янка адной рукой трымаў руль, а другой размахваў:

— Ты разумееш, браток, сын у мяне! Гэта чацвёртае дзіця... Ёсць дзве дачкі і сын. А цяпер — зноў сын!.. А цябе, браток, ніколі не забуду. Ты для мяне — самы дарагі госць.

## VII

Дзядзіну Вадзім убачыў у гарадку, ля аўтобуснага прыпынку. Яна толькі прыехала. Заўважыўшы Вадзіма, кінулася насустрач.

— А маё ж ты дзетка! Ці знайшоў жа ты чаго есці? Паўлік пазваніў табе, сказалі — паехаў у вёску... Зажурылася я. Усё думала: мо карова выскачыла і ты лётаеш за ёй па гародах. Ці парасё ўцякло. Дык усё добра, кажаш? Ну, дзякуй богу... Прыязджай яшчэ. Згаварыцеся з Паўлікам і — сюды. На сырадойчык...

Тут падышоў дзед Гаўрыла — ён прыязджаў у бальніцу.

— Ну і пляменнік у цябе, Анюта. Сёння хросным стаў. Хрэсніка знайшоў у лесе. Хіба ён табе не прызнаўся? — здзівіўся стары.

Аўтобус ужо адпраўляўся, і яны развіталіся. Вадзіму дасталося месца на заднім сядзенні, побач з Марынай. Але ён не мог нават глянуць на яе — так было сорамна і няёмка. Доўга яны сядзелі моўчкі, але ўрэшце Марына загаварыла:

— Вось і параднілiся мы з вамі... Не магу даць веры... Няўжо я гэтымі рукамі трымала дзіця,— яна здрыганулася, нібы ад холаду.— Не магу апамятацца. Першы раз у жыцці такое бачыла.

— Чаму першы? А ваш сын?..

— Ды няма ў мяне сына. І мужа няма,— ціха прамовіла Марына.— Я проста так сказала, жартам.

— Ну дык і добра! — усклікнуў Вадзім.— Прабачце, я хацеў сказаць, што яшчэ ўсё будзе. Вы такая маладая, прыгожая,— хлопец змоўк, нібы асекся, і раптам сказаў: — У мяне такое адчуванне, што мы з вамі спазналі... Ну, нешта такое таямнічае... Проста не верыцца!

— Хоць бы ўсё было добра. Хоць бы дзіцёнак не захварэў. І Надзя ж магла прастудзіцца. На холадзе... А вы не замерзлі? — спагадліва спытала дзяўчына.

— Не, я бягом шпарыў. Горача было.

Яна зірнула на яго і ўсміхнулася:

— Янка ўсё дапытваўся, як ваша прозвішча. А я не ведала. Ён дзіўны чалавек, гэты Янка... Адзін

сям'ю корміць. Жонка дома з малымі. Улетку і яна калі ходзіць на поле. Робіць Янка на трактары. Калі пасобіць каму трэба — не адмовіць. Ноч гатовы працаваць... Неяк нам дровы прывёз. Ну, маці дае яму пяць рублёў. Не ўзяў. Тады яна прынесла кавалак сала, яек, маўляў, у цябе ж сям'я, дзеці. Таксама адмовіўся. І ні ў кога ніколі капейчыны не ўзяў. Такі дзівак нейкі...

— Ён — малайчына! — усхвалявана сказаў Вадзім.— У такога бацькі і дзеці людзьмі вырастуць... Вось што, Марына, варта нам адведаць нашага хрэсніка, га? Давайце ў наступную суботу...

— У суботу? — перапытала дзяўчына.— Не ведаю... Мы, здаецца, не працуем... І маці прасіла прыехаць...

Дзіўны настрой апанаваў Вадзіма. Ён усміхаўся сабе, аглядваў пасажыраў і думаў: вось едуць людзі, у кожнага свае турботы і клопаты. Усё як звычайна. Быццам нічога не здарылася. А я ведаю: адбыўся цуд — нарадзіўся новы чалавек. Прыйшоў у наш цудоўны і складаны свет!

І тут яму ўспомнілася Шура. Хадзіла яна ў тэатр ці не? Як хоча...

«Чаму я так думаю? Я ж кахаю яе... А ці так ужо кахаю? Можа, гэта было проста часовае асляпленне... А здавалася ж, што яна самая, самая... Не, браце, сэрца чалавека — гэта не які-небудзь працэсар. Не запраграмуеш... А мо цябе не толькі Шура вабіла? Прафесарская «Волга», дача, кватэра. Не? Але ж вабіла. Не дуры галаву, хлопча, думаў ты і пра гэта. Прызнайся, што надакучыла жыць у інтэрнаце... Эх ты, інжынер Мялешка, гора ты чубатае. Ты канструюеш машыну, а яна канструюе цябе... Ты задумаў сканструяваць уласнае шчасце. І ледзь не сканструяваў... А трэба кахаць так, як дзед Гаўрыла. Кінулася ў вочы — і ўсё. Нічога не трэба. Дайце толькі Зосю...»

Аўтобус сцішыў ход, вільнуў да прыпынку, і Марына гайданулася да Вадзіма, прыхінулася да яго пляча.

— Ой, прабачце,— сумелася яна. Вадзім кіўнуў, маўляў, нічога, бывае.— Ніяк не магу супакоіцца. Усё думаю, як гэта я дзіця прымала. Сваімі рукамі. Скажы каму — не паверыць...

— У вас добрыя рукі,— ціха шапнуў Вадзім, узяў яе шыракаватую далоньку, пяшчотна пацiснуў і асцярожна паднёс да вуснаў.

Марына ад нечаканасці разгубілася, пачырванела, спалохана зірнула на хлопца.

Дакор, здзіўленне і радасць былі ў гэтым позірку.

# БЕЛЫ КЛЮЧ

## I

Без чвэрці дзевяць пракурор Іван Пятровіч Сокал быў у сваім кабінеце. Дастаў з шуфляды кодэксы, даведнікі, паклаў на стол з правага боку; падняў каляндар на чорнай падстаўцы — дзьмухнуў, хаця цёмны паліраваны стол быў чысцюткі, як шкло; падсунуў бліжэй да сябе кнігу ўліку наведвальнікаў, потым устаў, шырэй адчыніў фортку. Дзень чакаўся гарачы: у панядзелак звычайна прыходзіла многа людзей.

Дзверы адчыніліся — увайшоў памочнік пракурора Крупеня.

— А-а, заходзь, заходзь! — Іван Пятровіч падаў руку памочніку.— Ну і загарэў!.. Як там самае сіняе мора?

— Цудоўнае, Іван Пятровіч. Але пад канец неяк сумна стала. Пацягнула дамоў.

— Загінаеш, мабыць? Так ты ўжо і засумаваў... Ведаючы твае поспехі ў жанчын, не магу даць веры...

Крупеня высокі, па-спартыўнаму падцягнуты, смуглявы, задаволена ўсміхнуўся, бліснуўшы роўнымі белымі зубамі.

— Але ўсё роўна дамоў цягне...

Увайшоў следчы — прысадзісты, каратканогі; шы-

ракаваты абветраны твар, белыя залысіны, гладка прычасаныя русыя валасы.

Абмеркавалі, хто чым будзе займацца, якія ёсць тэрміновыя справы.

— Ты вось што,— сказаў Іван Пятровіч памочніку.— Пацікаўся справамі, якія пачалі без цябе. Даю два дні на акліматызацыю... А вы, Арцёмавіч,— са следчым ён быў на «вы»,— дапрасіце гэтых матацыклістаў. Тады да мяне іх... Усё. Зірніце, ці ёсць хто на прыём. Хай заходзяць.

Неўзабаве парог нерашуча пераступіла жанчына гадоў за сорак, асцярожна прысела на крэсла, на якое паказаў пракурор, побач паклала невялічкі вузельчык, загарэлыя да чарнаты рукі, нервовыя, дрыготкія, сашчапіла.

— Як ваша прозвішча? Адкуль вы? — спытаў Іван Пятровіч.

— Бардонава Марыя Панасаўна, з Буды...— жанчына пачакала, пакуль пракурор запісаў у кнігу, правяла языком па засмяглых вуснах.— Прыйшла жаліцца на крамніцу... На магазіншчыцу. Атруціла яна мяне... Цукрам.

— Чым атруціла?

— Цукрам, кажу. Падсыпала нечага... Помсціць мне. Я сказала, што ейны мужык уцёк з хронту. Дзізярцір... Ён мяне за гэта пабіў. Кажа, ты напрасліну ўзводзіш. А суд... гэты самы... таварычаскі, даў штрапу за скарбленне. Падала ў нарсуд за пабоі. Шчэ не разглядалі. Адкладаюць усё... А крамніца праходу не дае. Курыцу маю забіла. Мне грозіць... У лес дык і хадзіць баюся...— усхліпвала жанчына.

Гаварыла яна доўга. Уважлівасць пракурора, добразычлівы і спагадлівы погляд шэрых вачэй, адкрыты, гладка паголены твар надавалі пракурору выгляд просты і хатні, схілялі да шчырай размовы.

«Кепска пачынаецца дзень»,— падумаў Іван Пятровіч, і яму вельмі захацелася ў адпачынак, куды-небудзь у лес, каб нікога не бачыць, каб адно птушкі спявалі...

— У вас усё? Адну хвілінку. Пазваню ў нарсуд.

Ён зняў трубку, набраў нумар. У трубцы пачуўся знаёмы голас суддзі. «Так,— гаварыў суддзя,— заява грамадзянкі Бардонавай ёсць. Маецца і даведка, што жанчына лячылася ў псіхіятрычнай бальніцы і стаіць там на ўліку. Справу пакуль не разглядалі. Старшыня таварыскага суда сцвярджае, што яна здаровая, прыкідваецца хворай».

— Якое ён мае права сцвярджаць? Што ён — урач, прафесар?! Трэба неадкладна разабраць гэту справу,— цвёрда сказаў Іван Пятровіч. Падумаў незадаволена: «Сцвярджае... Што хочуць, тое і робяць».

— Вось што, Марыя Панасаўна. У бліжэйшы час суд разгледзіць вашу заяву. Штраф адменяць. Суд строга папярэдзіць магазіншчыцу і яе мужа. Але і вы жывіце спакойна, па-добраму. Словам, не гаварыце лішняга. Вы ўсё зразумелі?

— Усё, ага... усё чысценька зразумела. Ой, чым жа мне аддзячыць вам?

— Дзякаваць няма за што. Калі ўсё зразумела, то бывайце здаровы.

Не паспелі зачыніцца дзверы за Бардонавай, як увайшоў высокі малады хлопец у шэрым пінжаку, з-пад якога відзён быў каўнер салдацкай гімнасцёркі. Глухаватым голасам, нібы перасохла ў горле, хлопец расказаў, што працуе шафёрам у саўгасе, возіць малако, але яму не плоцяць надбаўку «за спецмашыну». Іван Пятровіч — зноў за тэлефон.

— Саўгас? Пракурор гаворыць. Добры дзень! Ці ёсць галоўны бухгалтар? Чакаю... Колькі вы плаціце шафёру малакавоза?.. Чаму? Хіба не ведаеце пра

надбаўку? Ён жа працуе на спецмашыне. Мала вазіць? Надойвайце болей малака — болей будзе вазіць. Хопіць разводзіць самадзейнасць! Ёсць пастанова. Ёсць закон. Выконвайце. Каб і за тыя два месяцы налічылі... Чалавек прыйшоў з арміі, яму трэба адзенне нейкае справіць, сям'ю заводзіць... Карацей, каб усё зрабілі па закону.

Пасля шафёра нясмела, амаль нячутна, увайшла сярэдніх гадоў жанчына ў чырвонай кофце, з заплаканымі вачыма. Села, сказала прозвішча, імя і расплакалася.

«Ясна. Сямейная драма...» — сумна адзначыў Іван Пятровіч, наліў шклянку вады, паднёс жанчыне:

— Супакойцеся. Не трэба так нервавацца... Выпіце вады і раскажыце ўсё па парадку.

Жанчына доўга не магла загаварыць. Ад яе кофты востра пахла нафталінам, ад скамечанай хусцінкі — адэкалонам.

— Не магу так жыць болей... Забівае мужык. Ратунку няма. У суботу прыехаў п'яны. Недзе задраўся, дык яму папала... Дома як усхадзіўся! Пабіў радзіволу, машыну пральную, вокны выбіў... Шкло ажно на дзяцей ляцела... Дзве ночы з дзецьмі начавала ў суседзяў. Крычыць: «Спалю хату!» Дзе працуе? У раённай бальніцы шафёрам... Жывём трынаццаць гадоў...— жанчына зноў заплакала.— Увайду ў хату, як каршун кідаецца біцца. Усе нервы выматаў. Сэрца баліць...

Іван Пятровіч пазваніў у бальніцу. Галоўны ўрач адказаў: — Касянкоў — муж жанчыны — ціхі, паслухмяны работнік. Выпівае, але за рулём не пападаўся ні разу. Пра сямейнае жыццё нічога сказаць не мог, бо жыве Касянкоў далёка, у вёсцы.

— Перадайце, каб роўна ў пятнаццаць гадзін ён быў у мяне,— сказаў Іван Пятровіч. Жанчыну накіра-

ваў на медыцынскую экспертызу і таксама папрасіў пасля абеду быць у яго.

Зайшоў следчы, спытаў, ці можна прыводзіць «матацыклістаў». Неўзабаве двое хлопцаў стаялі перад пракурорам: зялёныя жэўжыкі, абодва з доўгімі грывамі.

— Так, так, аматары пакатацца... А чаму гэта вы такія патлатыя? Зараз жа марш у цырульню! Прывядзіце сябе ў парадак. Потым — да мяне. Брыдка глядзець на вас, героі!

З міліцыі прывялі Брыкава, які абвінавачваўся ў хуліганстве. Пракурор моўчкі разглядаў яго, потым цвёрда сказаў:

— Прызнаяце сваю віну?

Брыкаў — сярэдняга росту, хударлявы, абавіслыя плечы, вузкія карыя вочы, тонкія бледныя вусны, парослы цёмнай шчэццю твар,— пераступіў з нагі на нагу, скрозь зубы працадзіў:

— Нічога не помню. П'яны быў. На вочы нічога не бачыў...

— Не выкручвайцеся. Нам усё вядома. Нож ваш. Адбіткі пальцаў вашы... Будзем судзіць. Вы — небяспечны чалавек для грамадства. Падпісваю санкцыю...

Калі ў кабінеце стала ціха, Іван Пятровіч адкінуўся на спінку крэсла, заплюшчыў вочы. Колькі хвілін сядзеў, нібы ў здранцвенні, і ўздрыгнуў, калі зазваніў тэлефон.

— Ты абедаць думаеш ці не? — пазнаў ён голас жонкі.— Я ўжо бягу на работу. Тут усё на стале.

— Добра, іду.

Іван Пятровіч выйшаў з кабінета. Гэта быў ужо іншы чалавек, чым той, што пяць хвілін назад сядзеў у забыцці.

Жыве Іван Пятровіч у суседнім доме. Зірнуўшы на свае памідоры, што, нібы снегіры, чырванелі на градках, ён павесялеў. Сам іх садзіў, абразаў, падвяз-

ваў, жонка адно рабіла салату. Тут жа, у двары, была і зялёная альтанка, якою Іван Пятровіч вельмі ганарыўся, і ў якой любіў пасядзець увечары.

## II

У тры гадзіны ў кабінет зайшлі Касянковы. Ён — нізкаросльі, круглыя вочы, чырвоныя адтапыраныя вушы, абыякавы выраз твару.

— Касянкоў! — Іван Пятровіч стараўся гаварыць рэзка і гучна.— Што вы разламалі дома?

— Радыёлу, пральную машыну... швейную машыну, шафу,— ціха адказаў той.

«Усё выкладае. Разумее: жонка не змоўчыць. Увогуле, баязлівец і слабак»,— заключыў Іван Пятровіч. І зноў рэзка спытаў:

— Вы што ж, думаеце, што гэта вашы рэчы? Памыляецеся. Гэта агульны набытак сям'і. Вы нават нічога прадаць не можаце без дазволу сям'і, жонкі.

— Ага, чуеш, во як! А ты хацеў кабана прадаць,— падала голас жонка: пракурорскі тон падахвоціў яе.

— Хто вам дазволіў так сябе паводзіць?! Біць жонку, палохаць дзяцей... Як вам не сорамна так апусціцца! Вы ж мужчына! — Іван Пятровіч гаварыў доўга. Ён укладваў у свае словы ўвесь гнеў, усю строгасць, на якія толькі быў здольны. І гнеў яго не быў паказны. Ён сапраўды люта ненавідзеў «сямейных злачынцаў». З-за такіх бацькоў развальваюцца сем'і, растуць злачынцы-падлеткі. Дзяцей перш-наперш павінны выхоўваць у сям'і. Калі сям'я кепская, то і выхаванне такое ж.

— Я не буду болей... Даю слова. Вось пабачыце...— хвалюючыся, заікаючыся, сказаў Касянкоў.

— На першы раз — паверым. Але калі што-якое... Літасці не чакайце! — буйным акуратным почыркам

Іван Пятровіч спісаў паўстаронкі, падаў Касянкову.— Прачытайце, запамятайце ўсё. І распішыцеся.— Ён назіраў за дрыжачай рукой Касянкова, і калі той падпісаў паперу, дадаў: — Кладу вашу падпіску ў шуфляду. Не дай бог, калі я дастану яе зноў.

Іван Пятровіч узяў кнігу кодэксаў і гучна прачытаў, што паводле артыкула сто адзінаццатага за здзекі з жонкі — да трох гадоў зняволення. Потым пазваніў галоўнаму ўрачу бальніцы, сказаў, што бярэ ў Касянкова «падпіску», і просіць, каб у бальніцы ўзялі Касянкова пад асобы кантроль.

— Адзін «герой» даў мне падпіску год назад. З таго часу жонка яго ні разу не пераступала гэты парог. Супакоіўся, значыць. Жывуць мірна, як людзі. Дзяцей гадуюць... Вам усё ясна, Касянкоў? Пытанняў няма?

— Ясна. Больш так не буду. Вось пабачыце,— горача запэўніў Касянкоў.

Як толькі выйшлі Касянковы, адразу заявіліся «матацыклісты».

— Пачакайце. Паклічу, калі трэба,— нездаволена сказаў Іван Пятровіч — маўляў, хай панервуюцца трохі, асталопы калматыя, мо задумаюцца над сваімі паводзінамі. Ён дастаў тоўсты сшытак, куды, як правіла, запісваў сямейныя гісторыі. Дзіва што, ёсць тут над чым падумаць. Запісаць гісторыю Касянковых трэба: чалавек ламае рэчы, б'е жонку... І рашыў: «Абавязкова зазірну да іх дамоў».

Неўзабаве ўвайшла немаладая кабета, з маршчакаватым, абсыпаным рабаціннем тварам.

— Там сядзяць двое падлеткаў? — спытаў Іван Пятровіч.

— Ага, сядзяць. Іх чарга, так. Але я папрасіла... Кажу: «Хлопчыкі, мілыя, далёка ехаць дамоў...» Дык яны і прапусцілі. «Ідзіце,— гавораць,— вы, цётачка, а мы за вамі».

«Бач, ветлівыя сталі»,— падумаў Іван Пятровіч і ўсміхнуўся.

Жанчына скардзілася на брыгадзіра: пасварылася з ім, а ён цяпер грозіць — «не дам сена на працэнты». І тут не абысціся без званка. Іван Пятровіч доўга не мог дазваніцца да брыгады, потым доўга гаварыў па тэлефоне. Жанчына тым часам пільна ўглядалася яму ў твар, але нічога не магла на ім прачытаць.

— Сена вам выдзелена. Але мне сказалі, што вы надта часта на базар ездзіце. Усе — на луг, а вы — на базар. Было такое?

Жанчына сумелася.

— Ну, раз неяк адвярнулася... Ягадак дзеці сабралі троху. Капейчына ж трэба. А я адна... Без хадзяіна... Памёр.

— Я разумею ваша гора. Канечне, вам не лёгка. Трэба чэсна рабіць у калгасе, дык больш заробіце, чым на базары. А вашага брыгадзіра я ведаю. Чалавек ён строгі, але справядлівы.

— Ой, які строгі! — таропка падхапіла жанчына.— А во, бачыце, даў... А я ўжо думала... Не, я не кажу, што ён благі. Вы не падумайце, я не нагаворваю... Ну, спасібачкі вам. Пайду двору. А то пакуль дабяруся, дык і сонца схаваецца.

«Ну, і балабонка. Сама вінавата, а бяжыць скардзіцца...» — падумаў Іван Пятровіч, а ўголас сказаў:

— Калі ласка, можаце ісці. Усяго добрага! — і падняўся, каб паклікаць «матацыклістаў», але зноў зазваніў тэлефон. Сярдзіта зірнуў на апарат, зняў трубку.— Слухаю. Я... Хто? Не пазнаў... А, Сяргей Адамавіч, даруй, браце. К канцу дня нават сваё імя і прозвішча забываю. Добра, што пазваніў. Дай каманду ўчастковаму па Бярозаўскім сельсавеце, каб узяў пад кантроль Касянкова Віктара Харытонавіча... П'е, крыўдзіць жонку.

— Зробім, Іван Пятровіч,— грымеў у трубцы бас начальніка міліцыі.— Слухай, тут во хлопцы падкінулі ідэю...

Ідэя была такая: намеснік начальніка міліцыі атрымаў ромбік і дыплом — завочна скончыў універсітэт, а памочнік пракурора вярнуўся з адпачынку. Трэба гэта самае...

— Ох ужо гэтыя замочкі. Я не п'ю, ты ж ведаеш,— Іван Пятровіч трохі памаўчаў.— Сяргей Адамавіч, ёсць контр-прапанова. Прыходзьце да мяне на чай. Пасядзім у зялёнай бяседцы. Пагамонім. Памідорамі пачастую. Сам вырасціў... І галава балець не будзе. А пагаварыць трэба.

— Я згодзен, Іван Пятровіч. Думаю, і хлопцы не адмовяцца. Значыць, да вечара. А што ў цябе сёння — гарачы дзянёк?

— Ой, не пытайся. Панядзелак...

Ён прайшоўся па кабінеце, пастаяў ля акна, уздыхнуў і паклікаў «матацыклістаў», што цярпліва чакалі ў калідоры.

— Арцюхін хто?

— Я...— адказаў смуглявы юнак з бачкамі і грыўкай над ілбом.

— А-а, гэта ты, голубе. Другі раз папаўся. Дужа любіш катацца на чужых машынах і матацыклах! А чаму бакенбарды не зняў?

Хлопец прамармытаў у адказ, што яму нібыта параіў так цырульнік, маўляў, прыгажэй твар.

— Што ты разумееш у прыгажосці? Ідзі, пакліч следчага, прыгажун!.. Ну, а ты што сабе думаеш? — звярнуўся да другога, танклявага, высокага падлетка, з вялікімі шэрымі вачыма.— Каго паслухаўся! Знайшоў сябра... Хто вёў матацыкл? Арцюхін? Так. А ты за пасажыра?.. Во як заганю ў калонію, дык будзеш ведаць. Табе ж сёлета ў дзесяты клас ісці. Школу канчаць. А можа, думаеш кідаць, як Арцюхін?

Увайшоў следчы з Арцюхіным. Іван Пятровіч увесь свой запал скіраваў на Арцюхіна, даводзіў наколькі небяспечны яго ўчынак: мог зламаць сабе галаву, бо п'яны быў, мог забіць чалавека...

Доўга так распякаў Арцюхіна, хацеў, каб той пакаяўся. Але Арцюхін маўчаў. І ён сказаў:

— За паўторны крадзёж матацыкла можна атрымаць да трох гадоў пазбаўлення волі. Ясна вам, што вы натварылі?! — І следчаму: — Забірайце іх. Даводзьце да канца справу.

Неўзабаве зайшла маладая дзяўчына: ёй не аддавалі «Працоўную кніжку», хоць уладкоўвалася яна ў перасоўна-механізаваную калону часова, пакуль ільнозавод, дзе працавала раней, быў на рамонце. Іван Пятровіч пазваніў начальніку аддзела кадраў, прачытаў яму натацыю за парушэнне закона.

Канчаўся рабочы дзень.

## III

Увечары ў зялёнай, абвітай дзікім вінаградам, утульнай альтанцы, здалёк падобнай на капу свежага сена, сабраліся госці. На стале цёпла паблісквах самавар, чырванелі памідоры, жаўцеў бохан сітняга хлеба. У цэнтры сядзеў старшы лейтэнант Кустаў, малады, ружовы ад хвалявання і задаволенасці сваёй асобай, на лацкане яго кіцеля блішчаў новенькі цёмна-сіні ромбік. Поруч з Куставым сутуліўся і нечага моршчыў лоб сівы падпалкоўнік у цёмных акулярах — начальнік міліцыі, хоць ён больш быў падобны на старога настаўніка або бухгалтара. Былі тут памочнік пракурора Крупеня і следчы. Гаспадар альтанкі заняў сваё месца ля ўвахода.

Спякотны жнівеньскі дзень дагараў. Гарачыня спала, сонца, мутна-чырвонае, нібы ацежалелае, стомленае за дзень, нырнула за дамы. Прыемна было ся-

дзець у альтанцы. Пахла духмяным чаем, кропам, спелымі памідорамі, з суседняга сада ветрык даносіў водар антонавак.

Памалу цякла гаворка. Іван Пятровіч частаваў гасцей і гаварыў:

— Прызнацца, я сам, пакуль не пабыў у Казахстане, смаку ў чаі не разумеў. Ды і адкуль разумець? У сталоўцы, бывала, возьмеш шклянку — як дыхне бярозавымі венікамі! Аж нос на бок верне. Ну праўда. Хіба не так?

— Факт. У іншай сталоўцы чай самагонам пахне,— зазначыў начальнік міліцыі і зняў акуляры — запацелі шкельцы: аказалася, што ў яго кірпаты нос і добрыя, сумныя вочы.

— Ды ці толькі ў сталоўцы! Дома, бывала, стаіць заварка дні два — і нічога... А ў казахаў...— Іван Пятровіч памаўчаў, быццам нешта прыгадваў.— Там праз паўгадзіны зноў заварваюць. Наліваюць менш паловы піялы. Каб піць толькі гарачы. І абавязкова з вяршкамі... І так цалюткую ноч сядзяць аксакалы. Аматары! Зрэшты, у Расію чай трапіў з Манголіі. У пачатку семнаццатага стагоддзя цару Міхаілу прывезлі адтуль чатыры пуды чаю.

— Нішто сабе гасцінец,— усміхнуўся Крупеня.

— Гасцінец — што трэба,— працягваў Іван Пятровіч.— Чай — магутны напітак. Нездарма любяць яго ва ўсіх краінах. Пазней за нас сталі ўжываць чай французы і англічане. Апошнія так упадабалі гэтае пітво, што цяпер спажываюць болей за ўсіх у свеце. У год чатыры кілаграмы з паловаю на душу. А ў нас — толькі трыста грамаў. Займаем сёмае месца.

— Адкуль ты ўсё ведаеш? — дзівіўся шэф раённай міліцыі.— Дык сёмае месца, кажаш?

— Сёмае. Трэба даганяць,— уставіў слова Кустаў.

— Я думаю, трэба. Падлівайце, братва. Яшчэ самавар паставім. Вада ёсць. І ведаеце, вось што: не адразу яе ў самавар. Трэба, каб адстаялася. І важна, каб потым не перакіпела. Галоўнае, не празяваць белы ключ.

— А што за белы ключ? — спытаў следчы, выціраючы хусцінкай лоб, залысіны, пакрытыя дробненькімі кропінкамі поту.

— Белы ключ? — Іван Пятровіч акінуў вачыма сваіх гасцей.— Пра гэта я даведаўся яшчэ ў партызанах... Значыць, ёсць тры стадыі кіпення вады. Першая — калі вада зашумела. Другая — калі вада робіцца мутна-белай і пачынае віраваць. Трэцяя — калі на вадзе бурбалкі пайшлі... Дык вось, на другой стадыі і з'яўляецца белы ключ. Перакіпіць — ужо не тое. У самавары ўсё проста: як заспяваў, зашумеў — кіпень гатоў. А ў катле на кастры — не зявай, глядзі ды глядзі...

— Цікава. Я і не ведаў,— па-дзіцячы шчыра прызнаўся Кустаў.— А калі падумаць... Мне здаецца, і ў нашай рабоце ёсць свой белы ключ. Паспець у час зрабіць прафілактыку...

— Недарэмна цябе вучылі,— як бы між іншым заўважыў Іван Пятровіч, падліваючы яму чаю.— Так, ёсць белы ключ.

— Не толькі белы ключ, а і белая галоўка,— зарагатаў Сяргей Адамавіч, начальнік міліцыі.— Ох, каб не гэта зелле праклятае! Каб не гарэлка...

— Дык вось, Сяргей Адамавіч, таму і трэба нам вучыцца піць чай. Я б даручыў міліцыі ўзяцца за гэтую вучобу... Тады пракурору ў панядзелак не было б чаго рабіць,— усміхаўся Іван Пятровіч.

— Я не супраць, Іван Пятровіч. Чай я люблю. Асабліва такі, як у цябе,— Сяргей Адамавіч паправіў акуляры і дадаў: — А між іншым, мы не спім у шап-

ку. У раёне менш стала парушэнняў парадку. Канечне, здараецца часам... У сям'і, як кажуць...

— Так, бывае яшчэ ўсякая трасца,— уздыхнуў Іван Пятровіч.— А ведаеце, браткі. Іншы раз падумаеш... Калі настрой бывае такі... Дык вось, мне здаецца, некалі нашы нашчадкі будуць думаць, што нам, людзям сямідзесятых гадоў дваццатага стагоддзя, жылося лёгка. Не ваявалі, былі сытыя, абутыя. А мы сябе перамалваем. Мы з сабой змагаемся... А хіба гэта лёгенькае змаганне...

Нейкі час у альтанцы стаяла цішыня.

— Хто яго ведае? — парушыў маўчанне Кустаў.— Рознае могуць думаць. А мы працуем, вучымся, стараемся, каб усё было, як найлепш... І з выпівохамі ваюем. Не ўсе і гарэлку ўмеюць піць культурна. Ды і завядзёнка дрэнная ўкаранілася: маўляў, у госці без віна не прыходзь...

Крупеня падтрымаў Кустава і расказаў пра дэгустацыйную залу ў Ялце, дзе даюць па дваццаць пяць грамаў віна дзесяці гатункаў, потым рассмяшыў усіх анекдотам, як заяц і леў збіралі на бутэльку.

Звычайна, калі збіраюцца калегі, гаворка абавязкова заходзіць пра службовыя справы, прыгадваюцца смешныя, а часам і недарэчныя гісторыі. Іван Пятровіч успомніў адзін выпадак з практыкі.

— Паступіў сігнал: маладая жанчына хадзіла цяжарнай, а дзіцяці няма. Выклікалі яе — плача залівaецца: не было ніякага дзіцяці, суседзі ўзвялі на яе напрасліну. Сведкі ўсе кажуць, што малое было, ды яна загубіла яго. Пасадзілі яе ў міліцыі, паехалі рабіць вобыск. Перавярнулі ўсё — нічога. Прыязджаем. Са мной — участковы і оперупаўнаважаны. Я кажу: «Хлопцы, рвіце траву, пабольш». Яны глядзяць на мяне. Я бяру газеты, скручваю вялікі кулёк, набіваю травы, перавязваю, а «опера» паслаў, каб вывелі жанчыну ў дзяжурку і яна ўбачыла, як мы будзем

ісці. Узяў я гэтую «ляльку» на рукі, ідзём, грукаем ботамі. Бачу, жанчына збялела як палатно. Аднеслі ляльку ў суседні пакой, выходзім, мыем рукі, ды так старанна. А яна ўсё глядзіць... Я да яе: «Ну, дык дзе было дзіця?! Кажы, лепш будзе...» — «У хляве, у кутку, пад саломай...» — і ў плач. Я на матацыкл і туды з участковым. Знайшлі адразу. Было гэта даўно. Больш як дзесяць гадоў назад. Я следчым працаваў...

— Ну, Іван Пятровіч, вы — псіхолаг. У вас ёсць чаму павучыцца. Трэба часцей во так сустракацца,— сказаў следчы, трымаючы ў руках шклянку чаю, быццам саграваў яе далонямі.

Крупеня таксама расказаў пра адну заблытаную гісторыю, якая адбылася ў суседнім раёне, дзе ён раней працаваў, і як ён з бляскам усё разблытаў.

Іван Пятровіч смяяўся і думаў, што яго памочнік — добры, разумны хлопец, хоць часам любіць падфарсіць, але работнік талковы. Трэба яму б жаніцца, а ён усё не адважваецца. І Кустаў доўга халасцякуе, праўда, вучыўся, то не да гэтага было: малайчына — завочна з бляскам скончыў універсітэт. Змена ёсць надзейная. І гэта радавала Івана Пятровіча, і яго дзённыя турботы быццам асядалі, як крупінкі чаю, забываліся, і на душы было хораша і светла.

## IV

Познім вечарам Іван Пятровіч праводзіў гасцей. Усе былі вясёлыя, задаволеныя, а начальнік міліцыі пажартаваў:

— Ну, Пятровіч, напаіў ты мяне. Дальбог, прыйду раніцай пахмяляцца.

— Прыходзь, толькі са сваёй бутэлькай!

— Добра пасядзелі. І галава заўтра не будзе цяжкой, як бязмен. Хітры мой шэф, га? — блазнаваў Кру-

пеня.— Хоча, каб памочнік рабіў, а не шукаў, дзе б душу прывязаць з пахмелля.

— А ты думаў,— падтакнуў следчы, беручы Крупеню пад руку. Яны пайшлі разам, калегі і сябры.

Іван Пятровіч вярнуўся ў альтанку. Вакол было ціха, густа пахла кропам і мокрым бульбоўнікам. Вокны кватэры не свяціліся: жонка і дзеці леглі спаць.

А яму не хацелася ісці ў дом. З высокага цёмнага неба пазіралі буйныя, яркія зоркі, нібы лімонная долька, вісеў жаўтаваты маладзік.

Івана Пятровіча апанаваў філасофскі настрой.

«Колькі пакаленняў людзей глядзелі на месяц, на зоркі. Яны свяцілі таксама, калі чалавек жыў у пячоры, паляваў на маманта, насіў на клубах павязку са скуры, не ведаў дзяржавы і законаў, не ведаў сям'і і дзеці прызнавалі толькі маці... Як многа часу прамільгнула пад небам! Як перамяніўся сам чалавек! Так. Ён паразумнеў. Стаў дужэйшы, высакародны... Але ёсць і праявы жывёльных інстынктаў, і перакосы ад цывілізацыі. Не зніклі жорсткасць, хцівасць і чэрствасць...»

## V

Ноччу Івану Пятровічу снілася сіняе мора. І ён плыў на лодцы, веславаў. Хвалі гайдалі лодку, мора зіхцела, серабрылася пад сонцам. Ён ужо стаміўся, у роце ўсё перасохла, гарэлі далоні, страшэнна балела спіна. Вецер мацнеў, а жаданага берага ўсё не было.

«Куды я плыву? Куды мяне зносіць?» — з трывогай думаў Іван Пятровіч, углядаючыся ўдалячынь.

Раптам за хвалямі зацямнеўся лес.

«Зямля! — узрадаваўся ён і з новай сілай налёг на вёслы. Лес набліжаўся, быў ужо відзён высокі пясчаны бераг.— Дык гэта ж Лысая гара! — і ўсё не верыў сваім вачам.— Вунь сасна-барцявуха, з якой

назіраў я за дарогай, калі чакалі карнікаў у блакаду. Значыць, плыву па нашым возеры. Вунь і пячуры гранкоў, і самі гранкі лётаюць над вадой...»

Яшчэ болей здзівіўся Іван Пятровіч, калі ўбачыў на беразе трох чалавек, якія махалі яму, клікалі. Спярша пазнаў сярод іх Крупеню. Поруч з ім стаяў барадаты мужчына ў скуранай куртцы, перацягнутай шырокай дзягай, на якой вісеў маўзер у драўлянай кабуры. Іван Пятровіч пазнаў камісара атрада Краўчанку, з-за спіны якога хітравата ўсміхаўся і прыгладжваў рудаватыя вусы ляснік Захар, партызанскі сувязны.

— Знаёмцеся, гэта наш пракурор, Іван Пятровіч Сокал...

— Стоп, хлопча! — перапыніў Крупеню камісар.— Захар, ушчыкні мяне! Гэта ж наш Сакалёнак! Жывы! Каб цябе камар убрыкнуў! Каб цябе дзеўкі любілі! Ну і малайчына! — і да Крупені: — Ды цябе, хлопец, мусіць, на свеце не было, калі мы з Сакалёнкам пазнаёміліся. Я ж яго ў партыю рэкамендаваў... Ну, а белы ключ не забыў? Помніш, як пасля блакады пілі чабаровы чай? Ну, дай абдыму цябе, дружа...— І камісар моцна сціснуў яго за плечы.

Тут Іван Пятровіч прачнуўся. Над ім стаяла жонка.

— Нешта ты разаспаўся сёння. Пара ўжо ўставаць.

— Дзіўны сон бачыў... Камісар атрада прысніўся, сувязны Захар... Яны загінулі... Мяне ў тым баі паранілі...

Без чвэрці дзевяць Іван Пятровіч Сокал, бадзёры, сур'ёзны, строгі, быў ужо ў сваім кабінеце.

# КАМЕНЬ



юблю я сядзець у вагоне і пазіраць у акно, дзе ў цемры рэдкія агеньчыкі. Вагон мякка пагойдваецца, ціха калышуцца бялюткія фіранкі, колы выстукваюць бясконцую песню.

Хораша думаецца ў дарозе.

Вось так я сядзеў, углядаўся ў акно ў вагоне-рэстаране і чакаў афіцыянтку. Калі яна падышла, да століка хуценька падсеў малады мужчына з чырвоным абветраным тварам.

— Мне, калі ласка, піва,— папрасіў я.

— Колькі? — гледзячы некуды ўбок, спытала афіцыянтка.

— Колькі?.. Можна гарнец...

— Мне не да жартаў,— афіцыянтка ўскінула на мяне стомленыя, падведзеныя цёмнай фарбай вочы.

— Здзівілі вы дзяўчыну. Яна, можа, ніколі не чула такога слова,— загаварыў сусед, калі афіцыянтка адышла.— А ў нас так гавораць. Хоць гарнец — мера сыпкага, але і да пітва таксама адносяць... Мабыць, мы землякі з вамі? — дапытваўся ён.

Так яно і аказалася. Мы разгаварыліся па-земляцку. Неўзабаве я ведаў, што Васіль, так звалі хлопца, тэхнік-меліяратар, ездзіў да цешчы, завозіў тэлеві-

зар «Гарызонт». У цешчы жыве пакуль што і яго жонка з сынам.

— Хай глядзяць... Праз паўгода абяцаюць кватэру. Будзем жыць разам. Сын у мяне харошы. Акрамя машын ніякіх цацак не прызнае. Мужчына расце,— пацягваючы піва, расказваў Васіль.

Лёгка завязваецца гаворка ў дарозе! Мо таму, што зноў не спадзяюцца людзі сустрэцца, а калі сустрэнуцца, дык не пазнаюць адзін аднаго: такія знаёмствы і забываюцца хутка.

— А каб мой брат пачуў пра гарнец, во ўскіпеў бы! Магу расказаць адну гісторыю,— пачаў Васіль.— Неяк прыехаў ён на пабыўку. Працуе брат на Данбасе, у шахце. Электрыкам... Дзела было зімой. Я тады ў дзевяты клас хадзіў. Сабраліся мы ў лес, у дровы. Едзем. Дзянёк добры. Яўген, брат мой, усё дзівіцца: які чысты снег у нас, ды колькі святла! Аж вочы рэжа... Едзем мы. Насустрач нехта вязе дровы. «Людзі не спяць. Пакуль мы з табой корпаліся, дык ужо цягнуць»,— сказаў Яўген. Я прыгледзеўся і кажу: «Здаецца, Гарнец з дачкой, з Галяй...» — «Хто-хто?» — усхапіўся Яўген. «Гарнец, кажу, той, што стараcтам быў пры немцах. Летась вярнуўся. Стары ўжо, слабы».— «Дзе тапор? Засяку, падлюгу!» Яўген збялеў, што палатно, і хапаецца за тапарышча. Я каленам прыціснуў тапор, трымаю за руку: «Ты што, з глузду з'ехаў? Апамятайся! Ён сам здохне...» — кажу я і адварочваю каня з дарогі. «Стой! Яшчэ гэтаму паліцаю дарогу саступаць!» — Яўген цап за лейцы.

Пакуль мы спрачаліся — бачу, Гарнец бярэ каня за аброць, цягне ўбок. Конь як ступіў, так па чэрава ў снег. Сані нахіліліся, вяроўка лопнула, і дровы спаўзлі. Стары разгубіўся, бародка яго, як у казла трасецца. Галя лямантуе: «А што ж нам рабіць?..» Шкада мне іх стала. «Паганяй, чаго рот разявіў!» — Яўген пугай па кані. Памчалі ў лес.

Едзем, маўчым. Яўген сапе. Ніяк супакоіцца не можа. А ў лесе — цішыня, адно палазы рыпяць. І здаецца, што гэтае рыпенне чутно на ўвесь свет... «Чаго ты ўсхадзіўся, як халодны самавар? — кажу я.— Біць слабых — подласць».— «Подласць? А Гарнец жа не шкадаваў ні малых, ні слабых! Гэта што, патвойму?.. Ты не памятаеш — ды дзе табе памятаць, яшчэ хадзіць не ўмеў,— прыцягнуўся Гарнец п'яны, паскідаў нас з печы, як шчанюкоў, на падлогу. Усё шукаў бацькаву хромавую куртку і боты. Замахваўся на маці прыкладам, крычаў: «Перастраляю!.. Дзеці камуніста не павінны жыць!..» Потым садзіўся за стол, грукаў кулаком: «Стаў гарнец гарэлкі! А то адразу — капут!» Піў ён кожны дзень. Заходзіў у любую хату: «Стаў гарнец!» Таму яго так і празвалі... Ён кроў піў людскую. А ты шкадуеш...» — «Але ж не перастраляў»,— кажу я. «Партызан баяўся... Ціхай сапай усё рабіў. Праз яго забілі дзядзьку Панаса...» — «А мо і не праз яго... Гарнец сваё адседзеў». Тут Яўген зноў як падхопіцца: «Толькі такія дабрадзеі, як ты, могуць даравацъ. Я — ніколі!»

Праехалі трохі моўчкі. Тады Яўген пытаецца: «А Галя не замужам?» — «Не, кажу, прывозіла нейкага з цукровага завода, куды ездзіла на заробкі. Той лета пражыў. Усё загараў ля рэчкі. Як захаладала — знік».— «Бачыш, ніхто з нашых не ўзяў яе. А дзеўка была прыгожая, відная. А скакала як!.. Ды з прыпеўкамі! Яна ўсё кіншчыкааднаго вербавала да сябе. Я аднойчы зляпіў са снегу два камякі. Яны аж заледзянелі. І чакаў Галю, калі будзе ісці з кіншчыкам, каб пацэліць у яе. Не дачакаўся. Сам закалеў на холадзе... Ніхто не ажаніўся. Шкада Галі... А Гарнец, калі пападзецца, адпомшчу».

І што б вы думалі — ён такі адпомсціў...

Да століка падышла афіцыянтка. Васіль папрасіў яшчэ піва. Я таксама. Мы моўчкі пілі. Васіль дастаў

папяросу, пастукаў яе аб пачак. Я звыкла пстрыкнуў запальнічкай. Васіль прыкурыў, падзякаваў, пахваліў запальнічку — маўляў, харошая машынка, і пачаў расказваць далей:

— Гады праз два Яўген зноў прыехаў у вёску. Мяне дома не было, я ў тэхнікуме вучыўся. Пайшоў Яўген у краму. Расказваю са слоў брата, як ён гаварыў мне. Заходзіць, значыць, Яўген у краму, а там... Гарнец. Стаіць і п'е віно. Адзін. Сам сівы, вочы чырвоныя, як у мышы, і віно чырвонае. Віно пралілося, і кроплі, што кроў, пакаціліся па барадзе. Яўгена аж затрэсла. Узяў ён Гарнеца за каўнер і вывеў на вуліцу. Ля крамы стаялі мужчыны — чакалі аўтобуса. І вакол ужо цэлы натоўп. «Вы не маеце права,— разняў сінія губы стараста.— Я скупіў сваю віну... Людцы добрыя, скажыце!.. Заступіцеся...»

Усе маўчалі. Ніхто не прамовіў ні слова. Яўген падвёў старасту да каменя, што тырчаў з зямлі: «Ну, жыва бярыся! Выварочвай!» Стараста разгублена азіраўся. Жанчыны адвярнуліся, насупленыя мужыкі маўчалі. Тады стараста дрыготкімі рукамі ўзяўся за мокры камень. Дзень быў восеньскі, сеялася халодная імжа. Значыць, узяўся ён, заплюшчыў вочы, пачаў цягнуць. Камень гладкі, бы адпаліраваны, ды і мокры, рукі слізгаюць. Спрабаваў Гарнец з усіх бакоў, але камень не паддаваўся. Урэшце змогся, прываліўся да каменя і бязгучна заплакаў.

«Што, не можаш?! Кішка тонкая! А ты ж хацеў Савецкую ўладу перавярнуць! Эх ты, гніда!..» — Яўген плюнуў, павярнуўся і пайшоў.

— Вось такая гісторыя,— трохі памаўчаўшы, прамовіў Васіль.— Хочаце верце, хочаце не. А так было...

Мы распілі яшчэ адну бутэльку піва.

— Калі трапіце ў наш горад, заходзьце адразу,— наказваў Васіль.— Госцем будзеце...

Развіталіся мы як старыя знаёмыя.

# ПОМНІК

Стаяў верасень сорак трэцяга. Ужо чырванелі трапяткія макаўкі асін, жаўцелі доўгія косы бяроз і магутныя грывы клёнаў. Па халоднай крынічнай рачулцы, што вілася паўз лес, усё часцей плылі карагоды лісцяў. Лянотны чырванапёры язь тыцкаўся носам у лісце, сярдзіта плёхаў хвастом, разганяючы малечу, і крута апускаўся на дно.

Жыццё, як і вада рачулкі, віравала, ішло сваёй адвечнаю хадой.

А навокал грымела вайна. Зорнымі начамі шугала над вёскамі барвовае зарыва. Адступаючы, фашысты нішчылі ўсё, што маглі.

Фронт наблізіўся да ціхай крынічнай рачулкі. Разгарэўся бой за «водны рубеж». Над лесам гулі самалёты, вылі міны, вухкалі выбухі. Адзін са снарадаў разарваўся непадалёк ад маладзенькай сасонкі — асколкамі зрэзала макаўку, рассекла ствол.

Сонца хілілася к заходу, калі да параненай сасонкі падпоўз баец. Быў ён ужо немалады, над засмяглымі губамі тапырыліся рудыя, пракураныя вусы. Салдат выкапаў акоп, зняў каску, выцер узмакрэлы лоб, закурыў. І тут убачыў параненае дрэўца. На ствале сасонкі

застылі кроплі смалы — у промнях заходзячага сонца яны чырванелі, нібыта кроў.

Салдат развязаў кайстру, дастаў бінт і перавязаў ім сасонку.

— Расці вялікая! — ціха сказаў ён. А мо і не сказаў, а толькі падумаў.

— Дарэнскіх, што ты там робіш? Перавязку? — рагатнуў баец з суседняга акопа.

...На золку цішыню разбудзіла магутнае «ўра». Байцы з чырвонымі зоркамі на касках пераправіліся цераз рэчку і пагналі ворага далей, на захад. Толькі на тым беразе ракі, пад маладой параненай сасонкай, застаўся ляжаць салдат-сібірак Дарэнскіх.

Дрэва не загінула, вырасла. Толькі замест зрэзанай асколкам вяршаліны — у сасны чатыры ствалы.

# ЛЯ СТАНЦЫІ КРЫЧАЎ

Калі мне даводзіцца ехаць цягніком уздзень, дык заўсёды бяру білет у агульны вагон. Праўда, гэта трохі здзіўляе, я б сказаў, прыемна здзіўляе нашага галоўнага бухгалтара, строгую немаладую кабету, бо такі праезд абыходзіцца намнога танней, чым у мяккім ці купіраваным вагоне. А я сабе думаю: вазьмі ў мяккі, і будзеш сядзець там адзін, як сыч.

Неяк узімку ехаў я на Магілёўшчыну ў камандзіроўку. Мае спадарожніцы — дзве паважнага веку жанчыны — сядзелі адна проці другой і гаварылі. Абедзве ездзілі да дзяцей у розныя гарады: адна ў Ленінград, другая ў Чалябінск, у Оршы пазнаёміліся. Угрэліся яны ў вагоне, паздымалі «плюшаўкі», асталіся ў кофтах і тонкіх хусцінках: у адной белая, у другой жаўтаватая.

— Сынок, што ета за станцыя была? — спыталася жанчына ў белай хусцінцы.

Мне давялося два разы паўтараць назву станцыі — мабыць, бабка ніколі не чула яе раней.

— А ці далёка ж да Крычава?

— Далёка. Шчэ больш за гадзіну ехаць,— адказаў я.

Бабуля кіўнула. Была яна хударлявая, маршчакаваты твар, сінія вочы.

Між тым, бабулькі не сціхалі.

— Мая дачка кажа: «Перабірайся ў горад». А я не магу там прывыкнуць,— уздыхнула бабка ў жоўтай хустцы.— Маразы там... у етым Цялябінску, пякуць... А што ўжо заводаў! Ідзеш-ідзеш, і канца краю няма... Маладым січас у горадзе жысць. І карова не мычыць, і хадзяін не крычыць. Еш хлеб да бараначкі... А даўней бывала, то прасці, то ткаць. Ды шчэ малога гутаеш. Нага ходарам ходзіць...

— Ай, мая таічка, хапае ў горадзе клопату. Унук мой вучыцца. Устаў учора раненька-раненька. Здаваць еты самы... екзамент. Высах — на нітку. А другей...

— Як вывучыцца, зато гулявы хлеб на век,— перапыніла бабка ў жоўтай хусцінцы.— Мой сын, што са мной жыве,— заўцехнік, а нявестка — віцінарка. Калі хацёл несправядлівы ці парасяты захварэюць, дык хапае...

— Сын жа мой большы,— расказвала бабка ў белай хустцы,— не прыйшоў з вайны. Паклаў галовачку. І магілкі не ведаю,— бабка прыціхла, адвярнулася, паднясла да вачэй бялюткі вышыты фартук. Супакоіўшыся, сказала: — А сама зазнала горачка... Вы тут чысцілі сваю машынку,— павярнулася бабка да мяне,— дык як глянула я — і сэрцайка зайшлося. Акурат такая была ў таго гестапаўца, што мяне дапытваў. Ён прыкурваў такой бліскучай машынкай, соваючы мне агонь пад нос. І ўсё пытаў, ці ведаю етага чалавека. А то быў сувязны з атрада. Як жа я скажу — ведаю? «Што вы, пан, першы раз бачу...» Збілі мяне да паўсмерці. Ачуняла ў лесе. Партызаны аслабанілі...

Аставацца ў купэ я больш не мог. Устаў і выйшаў у тамбур. У горле стаў камяк. Колькі разоў чуў ад

маці: «Сыночак мой міленькі... Дзе ж паклаў ты галовачку?..»

Я адчыніў аконца, пстрыкнуў запальнічкай, прыкурыў.

«У таго гестапаўца была такая...»

За акном была цемрань. Я глядзеў туды і як жывога бачыў высокага даўганосага немца. Ён падкідваў на далоні бліскучую запальнічку і з'едліва ўсміхаўся.

Я сціснуў запальнічку. Бліскучая, імпартная, падобная на маленькі пісталет, яна пякла далонь, і я шпурнуў запальнічку за акно.

Цягнік падыходзіў да станцыі Крычаў.

# СТАРЫ ВЯЗ

На ўзлеску, між алешніку, стаіць магутны разгалісты вяз. Калі глядзіш на гэтае дрэва, здаецца, што прырода завязвала на яго галінках вузялкі на памяць, ды забылася, дзеля чаго яна гэта рабіла. От вузялкі і засталіся.

Ішлі гады. Дрэва пастарэла, сукі сталі яшчэ больш вузлаватыя...

Неяк на пачатку мая з настаўнікам Рыгорам Сымонавічам, даўнім маім сябрам, прыйшлі мы ў адведкі да вяза. Дзень быў светлы, радасны. Тонкія бярозкі, нібы дзяўчынкі-падлеткі, глядзеліся ў люстэркі лужын, свавольны ветрык расчэсваў іх зялёныя косы. Кволыя ліпкія лісточкі павыстаўлялі на сонца асіны і вольхі. Ды і ўвесь лес прымяраў — яшчэ нясмела, нібыта чагосьці палохаючыся,— свой вясновы ўбор. Толькі вяз, старое мудрае дрэва, яшчэ трымаў свае зялёныя сцягі ў чахлах.

На падыходзе да вяза нас прывяціла зязюля сваім адвечным «ку-ку». Калі мы падышлі бліжэй, яна бясшумна нырнула з вяза ў гушчар.

— Дык вось каму яна зычыла доўгае жыццё! — усміхнуўся Рыгор Сымонавіч.— Значыць, яшчэ доўга будзе стаяць дрэва. Гадкоў трыста з гакам мае, ві-

даць. Колькі чаго яно пабачыла на сваім вяку! Жывы помнік творчасці прыроды...

Потым мы сядзелі непадалёк ад вяза на старых, сухіх пнях. Ціха, задуменна шумелі наўкол сосны. У зарасніках чаромхі спрабаваў голас салавей. Яму адгукалася зязюля — мо тая самая? А над усім гэтым узвышаўся, шумеў пад ветрам пакуль што голымі вузлаватымі галінамі стары вяз. Ён тут, на ўзлеску, як арыенцір людзям — не заблудзіць. Улетку і ўвосень, у дажджлівую пару ён хавае пад сваім шчыльным лісцвяным дахам грыбнікоў. Сёй-той па-свойму дзякуе дрэву за ягоную гасціннасць — пакідае на ствале выразаныя ножычкам «аўтографы», хтосьці даўмеўся нават — мабыць, пастушкі — выпаліць ля самай зямлі дупло.

Гледзячы на гэтую чорную, абвугленую нару ў ствале дрэва, я падумаў: «Зычыць зязюля доўгае жыццё старому вязу. Але птушка можа і памыліцца, калі чалавек не будзе берагчы яго».

Рыгор Сымонавіч, нібы ўгадаўшы мае думкі, сказаў:

— Збіраюся схадзіць у лясніцтва, ды ўсё няма калі. Трэба неяк ратаваць дрэва.

...У лесе гаспадарыла бабіна лета, калі я з поўным кошыкам чарнагаловых баравікоў зноў наведаўся да старога вяза. Убачыў яго і здзівіўся: да ніжняй галіны была прымацавана невялікая, акуратная дошчачка-таблічка. На ёй былі напісаны «анкетныя дадзеныя» вяза і заклік берагчы незвычайнае дрэва.

«Значыць, Рыгор Сымонавіч схадзіў усё ж у лясніцтва,— падумаў я,— А мо сам?..»

## «СВІШЧЫ, СЫНОК...»

У вялізным светлым пакоі панавала цішыня. Быў чуцён толькі шоргат алоўкаў: архітэктары шчыравалі над распластанымі ватманамі.

Раптам пачуўся тонкі далікатны свіст. Нехта паціху выводзіў «Зорку Венеру».

— Пачынаецца,— уздыхнула смуглявая дзяўчына і зіркнула з-пад акуляраў на стол цераз праход.— Зноў, Міхась, узышла твая зорка? Надоўга ці не?

Але Міхась Стратановіч, альбо проста «Стратон», нічога не адказаў.

— Стратон, калі свішча, нічагуткі не чуе, як раз'юшаны цецярук,— усміхнуўся дзяўчыне сусед.

У пакой зайшоў галоўны інжынер. Пачуўшы свіст, ён прыслухаўся, спрабуючы запеленгаваць самадзейнага салаўя.

«Няўжо Стратановіч? Лепшы архітэктар!» — галоўны інжынер падышоў бліжэй да Міхася, а той быццам нічога не чуў і не бачыў, шчыраваў над паперай. Густы рыжаваты чуб навіс над ілбом, на шчацы, ля носа, цямнелася плямка ад алоўка, а скрозь губы, складзеныя ў трубачку, цадзілася пяшчотная мелодыя.

— Міхась Пятровіч, з якой нагоды канцэрт? Вы ж не ў лесе!

— Даруйце, Генадзь Сяргеевіч, захапіўся,— Стратановіч сумеўся і пачырванеў.

Сярдзіты шэф доўга глядзеў на чарцёж, але не знайшоў, да чаго б прычапіцца: усё было бездакорна.

— Калі ж вы паспелі зрабіць? — здзівіўся шэф.

— Свіст памагае, Генадзь Сяргеевіч. Натхняе...

— Але ж свістунам сёння зарплаты не будзе. І прагрэсіўкі таксама!

Вакол засмяяліся. Толькі Стратановіч быццам не чуў смеху і сур'ёзна тлумачыў:

— Свістаць мяне навучыла маці. Ці ведаеце вы, Генадзь Сяргеевіч, што такое жлукта? Не? Гэта бочка без дна. Яе выдзёўбвалі са старога тоўстага дрэва. Вось у такой бочцы запарвалі бялізну, жлукцілі, як тады гаварылі. Уявіце сабе. На беразе рэчкі гарыць цяпельца. Маці грэе ваду ў чыгунках. Калі ветру няма, цяпельца ледзь курыцца. Вось маці і казала мне: «Свішчы, сынок, каб прачнуўся вецярок...» І сама свістала скрозь зубы, тоненька, далікатна. А мне здавалася, што яна шырока ўсміхаецца летняму сонейку, роднай чыстай рачулцы, далёкаму сіняму бору... І я свістаў, заліваўся, як малады шпачок. Вецер прачнаўся, полымя шугала, вада кіпела... Так і прывык свістаць. За работай. Для натхнення...

— Ну што ж, у такім разе дазваляю,— смяяўся Генадзь Сяргеевіч.— Вядома, калі суседзі не супраць.

Адно не сказаў Стратановіч, што маці ніколі не дазваляла свістаць у хаце. Калі ж ён забываўся і пачынаў трэлі, лаялася: «Зараз жа сціхні, пустадом!»

На другі дзень у кабінет галоўнага інжынера зайшоў усхваляваны старшыня мясцкома.

— Генадзь Сяргеевіч, што гэта робіцца? Ідзіце, паслухайце! Не пакой, а чортведама што! Свішчуць, як шпакі веснавым ранкам.

— Не чапайце іх, Іван Мацвеевіч. Заказ тэрміновы. Хай шчыруюць.

ЗМЕСТ

**Левановіч Л.**

Л 34 Мадона з кветкаю. Апавяданні. Мн., «Маст. літ.», 1976.

176 с.

Леанід Левановіч — аўтар кніг нарысаў «Гаспадар зямлі» і «Зялёны трохкутнік» — на гэты раз выступае як апавядальнік. Героі яго твораў — нашы сучаснікі, людзі самых розных прафесій. У працы, каханні, адносінах да прыроды раскрываюць яны сваю чалавечую сутнасць, душэўную прыгажосць.

Л $\frac{70303\text{-}148}{М\,302(05)\text{-}76}$ 9-76 **Бел 2**

На белорусском языке

*Леонид Леванович*

(*Леонид Киреевич Леонов*)

МАДОННА С ЦВЕТКОМ

Рэдактар А. Г. Масарэнка. Мастак Ю. К. Зайцаў. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Я. Ф. Харко. АТ 21055. Здадзена ў набор 18/XI 1975 г. Падп. да друку 23/IV 1976 г. Тыраж 10 000 экз. Фармат 70×100$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 7,1. Ул.-выд. арк. 7,01. Зак. 2799. Цана 35 кап. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.